КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

ВЫПУСК 97

Леанід Дранько-Майсюк

# «…НАТУРАЛЬНЫ, ЯК ЛІНІЯ НЕБАСХІЛУ»

*Архіўная аповесць пра Максіма Танка*

Мінск, «Кнігазбор», 2017

# ЗАМІЖ УСТУПУ

## МАКСІМ ТАНК. 1938 год

> Хтось «Мацюся» хрыпла запеў
> Пад струны гавайскай гітары...
>
> *Максім Танк. «На пероне»*

Дзе мяне паліцыя шукае —
На Завальнай, Бакшце, Каляёвай?!
Канфідэнты, шпікі і шакалы
Кожны крок абнюхваюць і слова.

Іхнія візіткі і манішкі,
Іхнія пранізлівыя вочкі —
Напамінак слаўны пра Лукішкі,
Пра лагоду вабнай адзіночкі...

Цяжка мне з Луцкевічам згаджацца,
Але ў гэтым, пэўна што, згаджуся —
Ён Лукішкі ахрысціў палацам
Найгалоўным самым Беларусі!

Беларусь у тым палацы, бачыш,
Ад аратага і да паэта...
Неба добрае, чаго ты плачаш?
Хіба першы раз такое гэта?!

От у парку над Вілейкай мнішкі
Хай памоляцца за камсамольца,
Каб не трапіў зноў ён у Лукішкі,
Дзе па лыжцы ў дзень прыносяць сонца!

Хай памоляцца яшчэ й за тое,
Каб, сваёй не трацячы свабоды,
Беларусі слова дарагое
Засталося дарагім заўсёды.

І каб несціханая Вілейка
Дзецям гаварыла і дарослым:
Гедзімінавы мудрэц Ліздзейка
З беларускае паходзіў вёскі!

Але до пра гэта. Шчасце будзе,
Лішне гаманіць аб ім не трэба.
Золата ягонае ў пакуце
Выспее і выбухне да неба.

А пакуль што, радасны вандроўнік,
Я іду па вуліцы Вялікай.
Дзе ты — стражнік-пракурор-пшадоўнік —
Звер, ап'янены турэмным крыкам?!

Знікні, спрахні, счэзні, утапіся
У нагах святога Хрыстафора;
Застаніся за магільнай рысай
І за нарачанскаю прасторай!

Мне ж далей трывожнае трывожыць,
А прыгожае рабіць патрэбным
І ў нацыянальным бездарожжы
Маршы выдумляць, а не малебны.

А таксама ж на сваё настройваць
Струны той гавайскае гітары,
Каб забыла на чужыя мроі
І пра нашыя спявала мары...

На пероне холадна і ціха.
Цягнікі на захадзе далёка.
Можа, хоць якім цыганскім цыркам
Вільня посная пацешыць вока?!

*7 траўня 2010 г., пятніца, Менск.*

Часам вецер смалістым пахам старога бору абвее хаты і, прыгнуўшыся за вёскай, папаўзе па межах, шырока расхінаючы калоссе...

А сонца, як залаты павук, падымаецца па сінезалатым павуцінні неба вышэй і вышэй над полем, над калоссем, над вёскай.

*Максім Танк, з апавядання*
*«Па дарогах і вёсках», 1936 г.*

# РАЗДЗЕЛ 1

Нашы дні ўжо прывабныя тым, што пра лепшых беларускіх паэтаў (і шырэй — пісьменнікаў), раней называных яшчэ і савецкімі, можна пісаць проста як пра творцаў, не згадваючы іх разнастайных узнагарод, шчодрых званняў, багатых пасад і нядаўняй адзінапартыйнай прыналежнасці.

Надоўга не спыняючыся на старонках, што з'яўляліся з мэтаю дагадзіць ідэалогіі, і я магу нарэшце проста гаварыць аб тых творах, якія назаўсёды застануцца ў нашай літаратуры, разумеючы, што іх і зусім магло б не быць, калі б іхнія аўтары не праспявалі ў свой час «патрэбнай» оды, «патрэбнай» паэмы.

Творчасць — гэта значыць, лепшае з напісанага — галоўная мера аб'ектыўнай ацэнкі мастака, а не прымусовае літаратурнае чаляднцтва, месца якому ў архіве...

Аднак шмат каго гэта не задавальняе, асабліва нашых фігурных адраджэнцаў, якія зазвычай успрымаюць творчасць як нейкую даважку да жыццяпісу.

Я ўжо неаднойчы заўважаў, як сапраўдны мастак ператвараецца ў аб'ект злой крытыкі толькі за тое, што ў нядаўнім мінулым быў аблашчаны ўладай; «савецкая» біяграфія такога мастака няўпынна прамацваецца, а лепшыя творы не прымаюцца пад увагу.

Фактаў такіх маю даволі, але знарок абмяжую сябе, згадаю толькі некалькі прыкладаў — скажам, фігурныя адраджэнцы не заўважаюць у нашай паэзіі лірычны шэдэўр Петруся Броўкі[1]

«Пахне чабор...», і толькі таму не заўважаюць, што Пятрусь Броўка ў камуністычнай іерархіі з'яўляўся высокапастаўленай асобай.

Яны, прыхільнікі эміграцкай паэзіі, крыва глядзяць на Аркадзя Куляшова[2] і Пімена Панчанку[3], мімаходам атэстуючы гэтых вялікіх паэтаў: сталіністы!

І тут немагчыма растлумачыць, што гэта Пімен Панчанка стварыў нізку вершаў «Іранскі дзённік» і паэтычную кнігу «Горкі жолуд», што гэта Аркадзь Куляшоў напісаў паэмы «Хамуціус» і «Варшаўскі шлях».

Ды і як растлумачыць, калі ў згаданых аматараў паэзіі свой устойлівы ідэал паэта — сціплыя літаратары беларускага замежжа.

Аб густах, як вядома, не спрачаюцца...

Так, у гэтых літаратараў цяжкі лёс, яны прайшлі жахлівыя сталінскія лагеры, спазналі чэрствы хлеб эміграцыі, аднак жа не стварылі тыя мастацкія творы, якія былі б раўназначнымі іхнім пакутам, хіба што гэтага не скажаш пра адну Ларысу Геніюш[4], пра яе вершы і мемуарную прозу...

Як вядома, дзвюх праўдаў не бывае, і як бы мы ні праклідалі сваё камуністычнае мінулае, гэтая адна-адзіная праўда адносна беларускай паэзіі (і прозы таксама) застаецца, а менавіта: лепшыя паэты паслякупалаўскай пары — паэты-камуністы, і, за рэдкім выключэннем, лепшыя паэты былі прадстаўлены ў нашых школьных хрэстаматыях.

Можа, не тымі творамі?

Магчыма, але гэта, як той казаў, пытанне іншае...

Максім Танк — імя хрэстаматыйнае, і гэта наша вялікае шчасце, што менавіта ў школьныя гады мы чыталі і вучылі на памяць — «Паслухайце, вясна ідзе...», «Спатканне», «На пероне», «Родная мова», «Яна хату бяліла», «Люцыян Таполя», а таксама іншыя творы паэта.

Я люблю згаданыя творы (і не толькі іх), люблю фрагменты давераснёўскага дзённіка Максіма Танка — кнігу «Листкі календара»; гэтая кніга таксама хрэстаматыйная, бо яе не без карысці шмат хто прачытаў, асабліва тыя раманісты, асноўная тэма якіх — былая Заходняя Беларусь; дарэчы, шмат якія

дэталі з «Лісткоў календара» перавандравалі ў іхнія раманы без ніякіх зносак ці спасылак на першакрыніцу.

Паэт пачынаецца са слова — ісціна, якая ўжо даўно зрабілалася банальнаю.

Паэта цяжка ўявіць без спадчыннага ўплыву Радзімы — яшчэ адна, не менш збітая ісціна.

Добра, калі тваё роднае слова мае волю, і цудоўна, калі твая Радзіма незалежная.

Максім Танк пачынаўся не са слова, а з абароны роднага слова, з палітычнага змагання — паводле яго прызнання, усе песні ён спяваў на матыў «Інтэрнацыянала»[5].

Ці магло гэта паўплываць на яго паэзію?

Пытанне рытарычнае, але што цікава — у вышэйназваных творах, і не толькі ў іх, палітычныя погляды аўтара не засланілі яго мастакоўскага дару, і ў гэтым сэнсе талент беларускага паэта роднасны таленту паэтаў-камуністаў Бранеўскага[6], Арагона[7], Пабла Нэруды[8], Незвала[9].

І нават у «Лістках календара», кнізе «свядома» палітычнай, ідэалагічны вектар не абсалютны, таму тут ёсць і развагі пра хараство, паэзію, мастацтва, прыроду; і праніклівая цікавасць да творчасці сімвалістаў Малармэ[10], Рэмбо[11], Рыльке[12], Валеры[13], Лесьмяна[14]; і змястоўныя апісанні сялянскай працы на полі, у лесе, на бацькоўскім падворку; і шмат клопату аб роднай літаратуры.

На апошнім, бадай, варта спыніцца.

У «Лістках календара» паэт пісаў: «...У ацэнцы літаратурных твораў у нас існуюць дзве меры: адна — беларуская, другая — еўрапейская. Паводле першай — усе выдатныя, усе класікі. Паводле другой... Другой пакуль што няма каго і мераць...»[15]

Можа, гэта сказана ў маладой гарачнасці (паэту толькі ж дваццаць чатыры гады!) ці ў нейкім палемічным запале?

Непадобна на тое, бо думка даволі-такі ўзважаная.

А можа, гэта ацэнка толькі заходнебеларускай літаратуры, якая не мела яркіх талентаў і марудна развівалася ў неспрыяльных умовах польскай напаўдыктатарскай дзяржавы?

Вядома ж, не — гаворка пра ўсю нашу літаратуру, пра што двума гадамі пазней у тых жа «Лістках» засведчана: «...Наша беларуская літаратура — адна з самых маладых, але ў ёй ужо столькі "класікаў", што хапіла б імі абдзяліць і суседзяў... Наш засцянковы патрыятызм узвёў у сан святых і геніяў вельмі шмат пасрэдных вершаплётаў, даўшы іх творам завышаныя ацэнкі, гучна спраўляючы 5–10–20-годдзі іх "плённай" літаратурнай дзейнасці. Мо таму "не разумеюць" нас і мала цікавяцца намі на шырокім свеце...»[16]

Вельмі надзённыя словы, беручы пад увагу нашу нядаўнюю мадрыгальную крытыку, а таксама паводзіны пераважнай большасці пісьменнікаў, паводле самаатэстацыі якіх яны — «творцы-геніі».

Магчыма, і «геніі», але ўпэўнены, перш за ўсё яны — наглядная праява ўсё таго ж засцянковага патрыятызму, які, дарэчы, даспадобы той частцы нацыянальнай інтэлігенцыі, што схільная да міфалагізацыі рэчаіснасці.

Такі, я сказаў бы, ірацыянальны падыход да жыцця ў апошні час набывае форму своеасаблівага канона, нейкага амаль абавязковага правіла, якое катэгарычна абвяшчае: міфы патрэбны для ўмацавання беларускай ідэі!

Не будзем спрачацца — можа, і патрэбны, аднак жа варта памятаць, што міфатворчасць — атрыбут калектыўнай свядомасці, і беларусы ўжо маюць тое, што стварылі калектыўна, — багаты фальклор.

Стварэнне ж новых міфаў — гэта стварэнне псеўдафальклору, натуральна, са сваімі новымі псеўдагероямі і псеўдагеніямі.

Наўрад ці гэта дапаможа нацыянальнаму Адраджэнню, якому так бракуе яркага артыстызму і глыбока індывідуальнай свядомасці.

І, дарэчы, само паняцце Адраджэнне самы час ураўнаважыць больш аб'ёмным паняццем — Нараджэнне, бо іншы раз мы спрабуем адрадзіць тое, што не адраджаецца, а калі адраджаецца, то набывае раптам незразумелы, а часам і непажаданы сэнс.

Такім чынам, дарэмна выдаткоўваем сілы.

Трэба нараджаць.

Грэцыя не адбудоўвае антычныя храмы — ахоўвае і ганарыцца іх руінамі.

Разумны гонар дапамагае пазбавіцца комплексу другараднай краіны, разрывае цянёты правінцыялізму і ўзмацняе імкненне да Нараджэння.

Максім Багдановіч[17] першы папярэдзіў нас пра тую вялікую небяспеку, што хавае ў сабе правінцыялізм (ці ўсё той жа засцянковы патрыятызм!), і першы пераадолеў нашаніўскае прыцягненне.

І тут Максім Танк — паслядоўнік Максіма Багдановіча!

Ён не стаў чакаць, пакуль «загляне сонца і ў наша ваконца», — сам пайшоў будзіць свой паэтычны ранак.

Дзякуючы новай еўрапейскай паэзіі, пясняр Нарачы ўбачыў іншыя вышыні слова і думкі і, што самае галоўнае, не згубіў свой непадобны да іншых голас у прасторы свабоднага вершаскладання:

Едуць цыганы.
Конь цяжка брыдзе:
Ці то ад таго,
Што дарога гразкая
І калёсы западаюць да ступіц,
Ці то ад таго,
Што едзе з імі
Восеньскае сонца,
Якое не ўсцягнуць
На гару поўдня,
Ці то ад голаду дзяцей,
Што плачуць,
Зарыўшыся ў салому,
Ці то ад таго,
Што маці іх
Вязе калоду карт,
А з ёй — людскія лёсы,
У тым ліку — і мой,

Якога досыць,
Каб прыстаў іх конь.

Гэта й ёсць твор таго мастака, чыё мысленне не абцяжарана засцянковасцю.

І да чаго ж нечаканая думка-метафара: цыганскага каня стаміла не гразкая дарога, не цяжкі воз, а калода карт у кішэні цыганкі!

Паэт катэгарычна не сцвярджае, што гэта менавіта так, верш вытрыманы ў інтанацыі некалькіх здагадак, але з усіх верагодных здагадак, з усіх меркаванняў менавіта калода карт, са змешчанымі ў ёй таямніцамі чалавечых лёсаў і лёсам самога паэта, набывае сілу таго вобраза, які хвалюе найбольш, набывае знак цудоўнага паэтычнага адкрыцця, у якім артыстычныя фарбы атрымалі перавагу над тым, што можна назваць даматканым падыходам да паэзіі.

У 1930-я гады Максім Танк не прайшоў міма вопыту Апалінэра[18], Тракля[19], Тувіма[20], Мілаша[21] — заўважым, тых паэтаў, для якіх праблема абароны роднай мовы ніколі не была актуальнай, для якіх мова заўсёды з’яўлялася тым, чым і павінна была быць — сродкам выказвання, а паэзія — лёсам.

Для аўтара ж «Лісткоў календара», як для Янкі Купалы[22] і М. Багдановіча, родная мова паўставала перш за ўсё цяжкім знакам долі і толькі пасля ўжо прарочым сімвалам творчасці — дарэчы, як і да сённяшняга дня для ўсіх нас, нацыянальна арыентаваных беларусаў.

У гэтым наша горкае і, бадай, вечнае адрозненне ад іншых.

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога, —
Дык для каго будуеце, панове,
Канцлагеры, катоўні і астрогі?
Супроць каго рыхтуеце расправы
І шыбеніцы ўзносіце пад хмары,
Штодня арганізуеце аблавы
І ўсіх мабілізуеце жандараў?
Супроць каго рыхтуеце вы змовы
З прадажнымі і юдамі і з богам, —

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога!

Так, былі выдатныя адозвы і заклікі, выдатная публіцыстыка, аднак жа і было жаданне авалодаць іншай паэтычнай культурай.

У вершы «Марк Шагал», створаным у 1977 годзе, Максім Танк сказаў: «Пайшоў я ў будучы Парыж...» і гэтак «запознена» нібыта сфармуляваў свой папярэдні пошук.

Гэта быў удалы пошук, бо з'явіліся творы майстэрскага, калі так можна сказаць — скрыпічнага гучання, нечаканыя і па сімволіцы, і па рытму: ад тэматычна арыентальных «Я гляджу на дываны» (1938) і «Наракаці» (1970) да блакнотнаакварэльных «Смак віна» (1973) і «Трэска з дома Шэкспіра» (1978); ад антычнавобразных «Венера Мілоская» (1956) і «Вы думаеце, гэта — шчасце...» (1962) да малітоўна-рыцарскіх «За пацалункі, і за вочы...» (1938) і «Готыка "Святой Анны"» (1972); ад поўных светлага гумару вершаў «Сентыментальная трагедыя» (1956) і «Слаўны майстар Бенвенута...» (1956) да фрывольна-пастаральных эцюдаў «Добры дзень» (1956) і «Я знаю яе» (1957); ад самаіранічных прызнанняў «У дождж» (1965) і «Роздум» (1959) да хрэстаматыйна сумнага маналогу «Ц. Норвід» (1975) і г. д.

Вядома, не будзем забываць і пра той час, які забіваў паэзію, якому скрыпічнае гучанне было чужое.

Прыкладна з 1940 па 1956 год не патрабавалася, калі так можна сказаць, дружба з Апалонам, і Максім Танк, як і шмат хто з ягоных калег, пражыў гэты час, нібыта забыўшы пра сябе — паэта.

Аднойчы ён усклікнуў: «О Апалон! Даруй мне ўсе мае ранейшыя вершы-аднадзёнкі! Абяцаю больш іх не пісаць...»[23]

Цалкам відавочна, што гэтая малітва не так падыходзіць да заходнебеларускай творчасці Максіма Танка, як менавіта да глухога ў сэнсе паэзіі часу з 1940 па 1956 год...

Калі ж гаварыць пра вершы нашага песняра 1980-х, пачатку 1990-х гадоў — значыць, гаварыць пра класічную ўстойлівасць творчасці, адзначаную новымі ўдачамі і паўторамі ранейшых знаходак.

Мне падабаюцца апошнія кнігі Максіма Танка «Мой каўчэг»[24] і «Errata»[25], на старонках якіх можна знайсці згадкі пра чорта-нумізмата — «Іудавы сярэбранікі» (1989) і пра ластаўку, якая праглынула камара, — «Чаму настаў вечар» (1989); як і згадкі пра Змітрака Бядулю[26] і Максіма Багдановіча — «Кафэ "Штраль"» (1993) і пра знакамітага выдаўца Клецкіна[27] — «Вы, пэўна, зналі» (1993).

Тут напамін пра непазбыўную чалавечую хцівасць; тут паэзія самой нашай гісторыі, прыроды, прыватнага жыцця; тут спроба вялікага паэта — дапісаць немагчымае!

У сваім выдавецкім рэдактарскім заключэнні на кнігу «Errata» я высноўваў: «Сімволіка назвы мае перш за ўсё творчае прачытанне — паэт хоча "дапісаць эрату", выявіць у памылках знакі паэзіі».

Паэзія — у памылках; паэзія — у рабоце словам, а пасля ўжо ў рабоце на слова; паэзія — у сціпласці крыві, шматгадовы вынік якой супрацьлеглы цьмянаму «творчаму» выніку цяперашніх шматлікіх вершагонцаў з іхняй павярхоўна-адраджэнскай публіцыстыкай і пустымі слэмамі.

Творчы вопыт Максіма Танка ў лепшых сваіх праявах не так павучальны, як актуальны — гэта вопыт нацыянальнага паэта, чыя хрэстаматыйная прысутнасць дапамагае нам здабыць упэўненасць у хаосе дэклараванай беларускай дзяржаўнасці.

Не лішне ў гэтай аповесці напомніць: Максім Танк быў чалавекам далікатным, для якога этычныя нормы паводзін мелі першаснае жыццёвае значэнне.

Не лішне будзе сказаць і аб тым, што вакол паэта, на жаль, вілося тое філалагічнае і тутэйшае мноства, якое да культуры паводзін ставілася як да лавы: «А што, на ёй можна не толькі пасядзець, але калі захочацца — то на ёй можна і паскакаць!»

Усё далей і далей адплываючы ад камуністычнага берага, не варта забываць, што і ў савецкіх пісьменнікаў быў свой крыжовы шлях і што пытанне аб дружбе з Апалонам маладому Максіму Танку задавалі не літаратурныя крытыкі, а паліцэйскія чыноўнікі.

[1] Пятрусь Броўка (1905–1980) — народны паэт БССР (1962).

[2] Аркадзь Куляшоў (1914–1978) — народны паэт БССР (1968).

[3] Пімен Панчанка (1917–1995) — народны паэт БССР (1973).

[4] Ларыса Геніюш (1910–1983) — беларуская паэтэса, сталінскай уладай была зняволена ў лагеры Комі і Мардовіі; аўтарка настольнай кнігі ўспамінаў «Споведзь».

[5] «Лісткі календара», запіс ад 27 траўня 1937 г.

[6] Уладзіслаў Бранеўскі (1897–1962) — польскі паэт, першаму свайму зборніку вершаў даў назву «Ветракі» (1925).

[7] Луі Арагон (1897–1982) — французскі паэт і празаік.

[8] Пабла Нэруда (1904–1973) — чылійскі паэт, дыпламат, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1971).

[9] Вітазслаў Незвал (1900–1958) — чэшскі паэт, у 1934–1938 гг. адзін з лідараў чэшскіх сюррэалістаў.

[10] Стэфан Малармэ (1842–1898) — французскі паэт, адзін з заснавальнікаў школы сімвалістаў.

[11] Арцюр Рэмбо (1854–1891) — французскі паэт, крайні індывідуаліст.

[12] Райнер Марыя Рыльке (1875–1926) — аўстрыйскі паэт, аўтар аўтабіяграфічнага рамана «Нататкі Мальтэ Лаўрыдса Брыге» (1910).

[13] Поль Валеры (1871–1945) — французскі паэт, філосаф.

[14] Баляслаў Лесьмян (1877–1937) — польскі паэт, з’яўляўся сябрам Польскай акадэміі літаратуры.

[15] Запіс ад 14 сакавіка 1936 г.

[16] Запіс ад 14 студзеня 1938 г.

[17] Максім Багдановіч (1891–1917) — беларускі пясняр, аўтар кнігі «Вянок» (1913).

[18] Гіём Апалінэр (1880–1918) — французскі паэт, лідар авангардызму.

[19] Георг Тракль (1887–1914) — аўстрыйскі паэт; тэма смерці — ці не асноўная ў ягонай творчасці.

[20] Юльян Тувім (1894–1953) — польскі паэт, аўтар геніяльнай паэмы «Кветкі Польшчы», якую на беларускую мову пераклаў Васіль Сёмуха.

[21] Чэслаў Мілаш (1911–2004) — польскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1980).

[22] Янка Купала (1882–1942) — народны пясняр, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і беларускай мовы; стварыў геніяльную п’есу «Тутэйшыя» (1924).

[23] «Лісткі календара», запіс ад 11 ліпеня 1939 г.

[24] Максім Танк. Мой каўчэг: вершы. Мінск: Маст. літ., 1994.

[25] Максім Танк. Errata: вершы. Мінск: Маст. літ., 1996.

[26] Змітрок Бядуля (1886–1941) — беларускі празаік і паэт, аўтар аповесці «Салавей» (1927).

[27] Барыс Клецкін (1875–1937) — заходнебеларускі выдавец, заснаваў у 1911 г. «Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна».

# РАЗДЗЕЛ 2

Максім Танк — паэт, якому наканавана было здзіўляцца: няўжо людзі так і не зразумеюць людзей і колькі яшчэ зямля будзе цярпець такіх незгаворлівых дурняў?!

Паэт верыў у простыя ісціны, паводле якіх, як у той казцы, дабро перамагае зло, і ці не змалку ведаў: так бывае не заўсёды, аднак жа верыў да старасці.

Ён творча настройваў сябе на каштоўнасць часу, упэўнены: час даражэйшы за грошы, хаця паміж нараджэннем і смерцю, калыскай і дамавінай існуе, на ягоную думку, не час, а толькі вінная (!) розніца:

Чаркай віна
Адзначаецца дзень нараджэння
І дзень развітання.
Розніцы, пэўна, між імі
Ніякай няма,
Калі не лічыць
Розніцы ў смаку віна.

Верлібры паэта нагадваюць фрагменты антычных збудаванняў, а ягоны скепсіс заўсёды быў неаспрэчны:

Як толькі ў маленстве
Сяк-так навучымся хадзіць,
На гэтым, звычайна,
І канчаецца наша
Адукацыя...

І вызначэнне ў роднай паэзіі маўчання таксама з’яўлялася па-танкаўску неаспрэчным:

Маўчанне
Ніколі не было
І не будзе золатам:

Яно — або
У шмат разоў даражэйшае,
Або — нічога не вартае.

Так гаварыў чалавек, які, здаецца, не пільнаваўся думкі: людзі хай жывуць як выходзіць, а я буду жыць як і жыў дагэтуль, і які лішне, здаецца, не ліслівіў; так гаварыў чалавек, які ведаў, што такое дзяржаўны дыктат, і які і пры дыктатуры маўчання (!) шукаў новыя лексічныя значэнні.

Мора не зважае, што вымывае на бераг бурштын, а паэт не задумваецца, што дае словам новы сэнс; асабліва такім свавольным паняццям, як слава:

Слава —
Медыцынская сястра,
Якая часта блытае адрасы,
Спазняецца
Праверыць пульс
І каму трэба
Аказаць дапамогу.

У творчасці майстра далёкая прастора заўсёды становіцца блізкай, чужое робіцца зразумелым, а філасофская здагадка ў сваёй класічнай нязменнасці, здаецца, з'явілася спачатку ў тваёй чытацкай душы і толькі пасля ўжо ў гэтай знакамітай міфалогіі:

Старажытныя амфары.
Гэта, што была з вадой,
Расказвае пра дзяўчыну,
Якая з яе спataляла смагу.
Гэта, што была з віном,
Расказвае пра песні,
Якія спявалі на свяце Дыяніса...
Але чаму з іх адна маўчыць?
Няўжо была ў ёй цыкута?

У пытаннях жывуць адказы!

У нашай літаратуры паэт засвоіў гэту ісціну найлепш, чым хто, і ператварыў яе ў адну з яркіх адметнасцяў свайго стылю.

Скажам, нагадваючы аб тым, што на матэрыяльна-культурных з'явах ляжыць выяўны цень разбурэння ці нават самазнішчэння, Максім Танк у пытальнай інтанацыі сцвярджае заўсёднасць, непарушнасць душэўнага свету:

І Парфенон раствараецца ў смогу,
І Равенна западае ў зямлю,
І Венецыя патанае ў моры...

Чаму ж мой сум па табе
Аказаўся вечны?

Зрабіць лішняе, як і выпіць лішняга, — пахіснуць гармонію, парушыць суладнасць эмоцый.

А напісаць лішняе?

Максім Гарэцкі[1], аналізуючы творчасць Якуба Коласа[2] за 1921–1922 гады, заўважыў: «...ён піша прост недазволена многа для паэта...»

Недазволена многа!

А сёння маем творцаў з кірункам на Маскву, якія за адзін толькі год пішуць (праўда, ці самі пішуць?) і выдаюць усё за той жа год па тры-чатыры тоўстыя раманы!

Але пакіну тых творцаў з іхнімі раманамі, прыдатнымі хіба што для пустых рэйтынгаў, і скажу: шматпісанне — форма хваробы.

І мне зразумелыя пакуты вялікага паэта — пакуты ад сваіх лішніх твораў:

Пракладаючы новую дарогу,
Я ўсё збіраюся прайсці
Праз пушчу сваіх вершаў
І пакінуць толькі тыя,
На якіх шчэрбіцца
Сякера часу...

Танкаўскія верлібры — як сялянскае разуменне таго, што людзі жыць не ўмеюць, а паміраць не хочуць!

Танкаўскія верлібры — перш за ўсё псіхалагічныя запісы, і што цікава — вельмі часта дзённікавыя запісы паэта гучаць як верлібры: «...Трэба асцерагацца, каб каго не штурхнуць на вуліцы, бо, можа, гэты прахожы — эпапея...»[3]; або: «...Чуюся хворым, падобным да руіны, якая ўсё яшчэ стаіць, трымаючыся за неба...»[4]; ці яшчэ і такое: «...Самая большая памылка Бога, што ён стварыў чалавека, які стаў і яго забойцам...»[5]

Такімі ж, можна сказаць, запісамі духоўнага складу, у якіх сваё, прыватнае, мае сэнс глыбокага абагульнення, з'яўляюцца і рыфмаваныя шэдэўры народнага песняра:

Не спіцца нешта,
Хоць мінула поўнач.
Не ведаю, ці сам,
Ці нехта так зрабіў:
Што трэба было помніць —
Я забыў,
А што — забыць,
Усё яшчэ я помню...

Нас вучылі: эстэтызм раз'ядае палатно зместу, і, магчыма, гэта так, аднак у вяршынных творах Максіма Танка выяўнае захапленне хараством ужо само па сабе становіцца тым нечаканым, а таму патрэбным зместам, які непрыдуманы, які прыродны, хаця й мае прыкметна кніжную аснову.

Дарэчы, паэт не меў універсітэцкай адукацыі і, пэўна ж, праз гэта быў проста нястомным чытачом, усё жыццё сам вучыўся паэтычнаму рамяству і авалодаў ім на зайздрасць кожнаму...

— Шчаслівы ты, што можаш Галатэю
У мармуры стварыць, Пігмаліён.
Перад яе прывабнасцю нямею.
І мне здаецца, што ўсё гэта — сон.

— Не сон! Чакай! Яшчэ разцом прайду я,
Яшчэ распраўлю валасоў бруюў.
І ты пабачыш наяву жывую.
Глядзі! Скідае туніку сваю...

Што гэта?

Узор чыстага мастацтва?

Магчыма.

Аднак жа Максіма Танка не назавеш эстэтам — іншыя задачы стаялі перад ім.

Праз усё сваё доўгае жыццё ён шчыра хацеў аб'яднаць беларускае і савецкае, народнае і камуністычнае.

Паводле Уладзіміра Калесніка[6]: ідэю палітычную паэтператвараў у ідэю мастацкую!

Так, ён быў шчырым камуністам, але песню сваю ў 1930 годзе (васямнаццацігадовы!) пачаў з услаўлення нацыянальных каштоўнасцяў:

Глядзіце ў будучыню смела!
Настаў доўгачаканы час,
Пад сцягам бел-чырвона-белым
Чакае перамога нас.

Няхай жа меч Пагоні ззяе!
Гартуйма нашу еднасць, моц!
Вядзі нас, Воля прасвятая,
Да новай славы, новых сонц![7]

І завяршыў сваю жыццёвую дарогу, трэба сказаць, на той жа ноце — вось ягоныя словы, прамоўленыя ў 1994 годзе: «...сённяшні XI з'езд пісьменнікаў сапраўды заслугоўвае звання гістарычнага, бо ўпершыню сабраўся ў свабоднай і суверэннай нашай Беларусі, над якой горда рэе бел-чырвона-белы сцяг...»[8]

І так ужо сімвалічна сталася: у жніўні 1995-га, калі паэта хавалі, над яго трунoй, якую вынеслі з менскага Дома літаратара, нейкая добрая і смелая душа ўзняла менавіта бел-чырвона-белы штандар!

Васіль Вітка[9] адлюстраваў той момант у вершы «У час развітання»:

...Раптам заварушыліся ўсе, як уваскрэслі —
Перад натоўпам мужныя рукі ўзнеслі
І развінулі сцяг бел-чырвона-белы —
Знайшоўся-такі хоць адзін смелы...

Не лішне нагадаць: гэта адбылося пасля травеньскага рэферэндуму, калі нацыянальная сімволіка падпала пад забарону!

Аднак жа варта памятаць: паэт пісаў і пра «...бела-чырвонабелыя... вушы...»[10] — так што не толькі рамантычна ўслаўляў нацыянальную сімволіку — здаралася, і кпіў з яе...

Зламыснікам паэта напомню: Максім Танк стаў камуністам не дзеля кар'еры, а дзеля змагання — дзеля рызыкоўнага жыцця; калі ж кампартыя сваю кіраўнічую ролю страціла, *выхадзімцам* не зрабіўся.

Рыгор Барадулін[11] трапна назваў выхадзімцамі тых *спраўнякоў*, якія авечымі чародамі выходзілі з КПСС — вядома ж, выходзілі тады, калі за гэта ўжо нішто не пагражала.

Для выхадзімцаў партбілеты былі хлебнымі кніжкамі, і выхадзімцы «мужна» палілі іх, ужо непатрэбныя, у 1991-м...

Я назіраў гэту агідную сцэну ў Менску ля Дома ўрада.

Я не быў камуністам (двойчы клікалі ў партыю — не пайшоў), але ў той момант, калі спраўнякі, каб не апячы свае «мазольныя» пальцы, насоўвалі на падрыхтаваныя спіцы чырвоныя партыйныя кніжачкі і падносілі іх да агню, з павагай думаў пра тых партыйцаў, якія гэтага не рабілі.

Тыя партыйцы, дарэчы кажучы, любілі Максіма Танка; тыя партыйцы (пісьменнікі і непісьменнікі) шанавалі паэта.

Аднак жа цікавая рэч: Максіма Танка не любілі і не любяць літаратары, якія пайшлі ў камуністы дзеля салодкага жыцця і залатога дажджу; адзін з іх абзываў паэта «абвешаным ордэнамі», а другі ў друку атэстуе «фанерным Танкам».

А ўсё ад зайздрасці!

І адзін, і другі выпрошвалі, вымольвалі ўсялякія ўзнагароды і пасады — Максім жа Танк узнагарод і пасад не выпрошваў і не вымольваў, і не мог вымольваць, бо жыў не дзеля кар'еры; ён меў цяжкі шлях, а ягоныя зайздроснікі рабілі кар'еру; паміж сцягам і парасонам яны заўсёды выбіралі парасон, бо добра ведалі: пад сцягам ад нягоды не схаваешся!

А найбольш яны ненавідзелі паэта за тое, што ён не хваліў іхнія доўгія нудныя раманы.

Аднак жа паэта абагаўляла вялікая Ларыса Геніюш!

«Максім Танк! Вельмі добра, што Вы ёсць на свеце...» — пісала ў сваім лісце[12] і гаварыла, што паэт сваім існаваннем

падымае на ногі цяжка хворых, і прызнавалася яму, як сястра: «Проста дрыжу за Вас...»

Чытаючы ягоныя вершы, змаладу — складныя, а пазней — арытмічныя, спадарыня Ларыса, пэўна ж, паспела прачытаць і гэты верлібр, і, думаю, прыняла яго, як дакладную сама-атэстацыю свайго заступніка:

Калісьці хапала мне
Ямбаў, харэяў,
Адмераных,
Строгіх радкоў.
А зараз пішу
У рытме свайго
Арытмічнага сэрца,
Зямлі і падзей.

Таму мае вершы
І не надаюцца
Да танца
Або да ружанца,
Як не надаюцца
Да гэтага
Гром,
Гул землетрасення
Ці крык папярэджання...

Так, дыханне пераважнай большасці танкаўскіх вершаў менавіта арытмічнае, нібыта свядома няроўнае, зусім не такое, як — нагадаю для параўнання — стройная рытміка паэзіі П. Глебкі[13], А. Куляшова, А. Вялюгіна[14].

Палонніца сацыяльнага і палітычнага неўладкавання, а таксама ж і творчай арытміі, Ларыса Геніюш невыпадкова хінулася да Максіма Танка — чула ў ім сваё, заходнебеларускае, якое без глянцу, але надзейнае; шукала і знаходзіла ў ім абаронцу...

Абараняць — то-бок, просячы за некага ці закрываючы сабой некага, мець мужнасць стаць на шляху чужой бяды.

Абараняць — зусім не тое, што абараняцца!

Абараняцца лягчэй, бо мы змагаемся ў гэты момант толькі за сябе, і тут нам дапамагае дзікая сіла самазахавання; тут

мы ратуем сваё жыццё і не маем іншага выбару, як ратаваць сваё жыццё; тут мы не можам схавацца, бо само наша цела (калі заўгодна — шкура!) ведае: калі кінем абараняцца і пачнем хавацца — адразу ж загінем; менавіта адсутнасць выбару патройвае нашы сілы!

Іншая справа — абараняць!

Абараняць, змагацца за чужога — значна цяжэй!

Тут выбар ёсць.

Тут можна схавацца, не вылазіць, пераседзець, бо гэта ж, урэшце, не твая бяда!

Гэта ж не табе, а некаму пагражае няшчасце...

О, як цяжка выцягнуць сябе з надзейных кустоў!

О, як часам бывае смяротна немагчыма пакінуць утульную схованку і выйсці ў адкрытае поле!

Максім Танк меў сілу выходзіць у адкрытае поле — умеючы абараняцца, умеў абараняць і ўмеў спачуваць — скажам, пакідаючы турму, хварэў душой за сяброў, якія заставаліся ў турме!

Паэт шмат каму дапамог, шмат каму даў ратунак і вельмі шкадаваў, калі не здолеў дапамагчы вартым ягонай дапамогі людзям (на жаль, здаралася й так)...

Пішучы пра яго, што ён грамадскі дзеяч, часам зусім забывалі, што ён перш за ўсё чалавек, можна сказаць, даткліва сямейны!

Здаецца, да сям'і ў яго былі іконныя адносіны, і сям'ёю ён жыў гэтак жа, як і творчасцю, і не бачыў той мяжы, якая звычайна аддзяляе творчасць ад сям'і.

Ён вельмі клапаціўся пра сваіх блізкіх і мучыўся гэтым клопатам і, велікадушны, пэўна ж, не хацеў нават і падазраваць, што сям'я — вялізны букет руж, у якім хаваецца клубок змей...

Ён марыў стварыць новую паэзію і шкадаваў, што не хапіла на гэта часу...

Ён пераносіў у верлібры снежныя малюнкі: «...верш, адціснуты лапай куніцы...», а ў маладосці пісаў прозу, да вобразаў якой можна дакранацца: «...спіць, ляжыць зямля чорная, як партфель секвестратара, а над ёй, як шапка паліцыянта, цёмная сіняя ноч...»

Ён любіў кіно і мастакоў-імпрэсіяністаў, але не прымаў літаратурную моду на Кафку[15], Мілера[16], Сартра[17], Бекета[18],

Іянеску[19]; заўважу: не прымаў не саміх гэтых пісьменнікаў, а моду на іх, а гэта прынцыповая розніца!

Наогул жа аўтар «Нарачы» быў упэўнены: творца ў любой з'яве павінен бачыць істотнае...

Ён, як ужо было сказана, багата чытаў, але не ацаніў, на жаль, «Маю анкету» Пятра Глебкі і чамусьці ацаніў «Лысагорскую паэму»...

У дзённіку разважаў: «...Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў...»[20]

Сам жа ў тым жа дзённіку (як і не бачыў!) раз-пораз ужываў гэтыя «непатрэбныя запазычанасці» — пісаў «справачнік», а не даведнік; «журнал», а не часопіс; «полка», а не паліца; «штукатурка», а не тынкоўка; «бублік», а не абаранак; «пахата», а не ворыва; «расшаліўся», а не раздурэўся; «запрапасцілася», а не згубілася; урэшце — замест *нязграбныя* або *няскладныя* радкі выводзіў: «...несуразныя радкі...» і г. д.

Тут, вядома, не магло не паўплываць тое, што першыя кнігі, якія прачытаў, былі на расійскай мове і ў школу пайшоў у Маскве, і пасля нейкі час вучыўся ў Віленскай расійскай гімназіі імя А. Пушкіна.

Наогул жа варта сказаць: жывых класікаў у нас і лексічна, і стылістычна асабліва і не правілі!

Такое дзіўнае адкрыццё я зрабіў, працуючы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»; тады я шмат рэдагаваў твораў, якія ўжо былі надрукаваны ў газетах і часопісах, і не аднойчы даводзілася ў знаных аўтараў, вобразна кажучы, «храмых» коней выпраўляць на «кульгавых»...

Максім Танк — творца вандроўны; ён шмат бываў у замежных камандзіроўках і заўсёды заносіў у нататнік нумары сваіх гатэльных пакояў; пэўна, гэта нейкім чынам забаўляла яго, бо самі паездкі, калі верыць запісам, не вельмі цешылі...

А яшчэ ён пакутаваў ад бясконцых гасцей, якія, вядома ж, не давалі працаваць; не радаваўся тэлебачанню і пашырэнню турыстычнай індустрыі; меліяратараў называў душагубамі прыроды, а спартыўныя гульні (у першую чаргу футбол з хакеем) — школай шавінізму.

Што й казаць, выдатнае азначэнне!

Ён рассылаў мноства віншавальных паштовак, у год да «сотні паўтары...»; мусіць, любіў віншаваць людзей гэтак жа, як і хадзіць у грыбы...

Ён баяўся не старасці, а баяўся ў старасці злегчы на чужыя рукі, таму са страхам браў у галаву: «...самае важнае ў жыцці — нікога не абцяжарыць сваім адыходам...»

---

[1] Максім Гарэцкі (1893–1938) — адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, ахвяра сталінскіх рэпрэсій, аўтар кнігі «Гісторыя беларускае літаратуры» (1920).

[2] Якуб Колас (1882–1956) — народны пясняр, аўтар паэмы-гімна «Новая зямля» (1911–1923).

[3] Дзённікі, запіс ад 30 студзеня 1988 г.

[4] Дзённікі, запіс ад 4 снежня 1989 г.

[5] Дзённікі, запіс ад 13 траўня 1990 г.

[6] Уладзімір Калеснік (1922–1994) — беларускі літаратуразнавец і крытык.

[7] Радкі з верша «Ты чуеш, брат...» (Зб. тв.: у 13 т. Мн.: Беларус. навука, 2006. Т. 1. С. 193).

[8] Вынятка з выступлення на XI з’ездзе СП Беларусі «Мы жывём у пераломны час» (Зб. тв.: у 13 т. Мн., 2009. Т. 8. С. 523).

[9] Васіль Вітка (1911–1996) — беларускі паэт, аўтар твораў для дзяцей.

[10] «Лісткі календара», запіс ад 7 чэрвеня 1939 г.

[11] Рыгор Барадулін (1935–2014) — народны паэт Беларусі.

[12] Ліст ад 20 лютага 1967 г.

[13] Пятро Глебка (1905–1969) — беларускі паэт, акадэмік АН БССР; аўтар незабыўнага шэдэўра «Пасылка» (1942).

[14] Анатоль Вялюгін (1923–1994) — беларускі паэт, аўтар дзівоснага верша «Спелы бор» (1959).

[15] Франц Кафка (1883–1924) — аўстрыйскі пісьменнік, аўтар іншасказальных твораў «Амерыка», «Працэс», «Замак».

[16] Генры Мілер (1891–1980) — амерыканскі пісьменнік, аўтар папулярных раманаў.

[17] Жан-Поль Сартр (1905–1980) — французскі празаік, філосаф, прадстаўнік экзістэнцыялізму; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1964).

[18] Сэмюэл Бекет (1906–1989) — ірландскі пісьменнік, паэт, драматург; прадстаўнік мадэрнізму; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1969).

[19] Эжэн Іянеску (1909–1994) — французскі драматург, адзін з заснавальнікаў тэатра абсурду.

[20] Дзённікі, запіс ад 28 кастрычніка 1993 г.

# РАЗДЗЕЛ 3

Я чуў і бачыў Максіма Танка якраз у старасці; чуў па тэлефоне ў верасні 1992-га — ён пазваніў мне, каб падзякаваць за мой артыкул пра яго[1]...

Бачыў у тым жа выдавецтве «Мастацкая літаратура», у Саюзе пісьменнікаў, у музеі Янкі Купалы (тады ў музеі ён расказваў Зянону Пазьняку[2], як угаворваў яго дзеда Яна Пазьняка[3] прыняць удзел у стварэнні Народнага фронту ў Заходняй Беларусі); у 1995 годзе я заходзіў да паэта ў шпіталь...

Аднак жа самыя адметныя, самыя асаблівыя, самыя *мастацкія* сустрэчы былі ў яго дома, на вуліцы Кульман...

У снежні 1992-га Васіль Зуёнак[4] папрасіў, каб я схадзіў да Максіма Танка па новы рукапіс ягоных вершаў[5]...

Як рэдактар, я некалькі разоў сустракаўся з паэтам і, вярнуўшыся дадому, рабіў спешныя нататкі:

«16 красавіка 1993 г. Быў у Максіма Танка на вуліцы Кульман. Гаспадыня кватэры Любоў Андрэеўна ў інваліднай калясцы... Гаспадар вельмі цікава расказваў пра Янку Купалу: "...у час вайны мы сустракаліся ў Маскве. Купала тады называў мяне "вызваленым", бо я з вызваленай Заходняй Беларусі... Аднойчы запрасіў на дачу да Кірпоціна[6]. Увесь час, пакуль ехалі, Уладзіслава Францаўна дакарала за ўчарашняе: позна аднекуль прыйшоў! Купала даваў жонцы водпаведзь па-польску... Калі выехалі ў поле, немцы пачалі бамбіць горад, а Уладзіслава Францаўна вяла сваё... І от у самы пік сваркі загадаў шафёру спыніцца, адчыніў дзверцы і выгукнуў у неба:

— Анёл Паньскі! Забеж одэ мне тэго д'ябла!..

Часта пытаюць пра купалаўскага шафёра. Ён быў з аўстравенгерскіх палонных, здаецца... Чалавек даволі дзіўны. Калі пры ім нехта глядзеў на свой гадзіннік, то ён тут жа вымаў свой і казаў:

— Извините за грубость, у меня тоже есть часы!..

Мы жылі ў гасцініцы “Масква”. Я з Броўкам у адным нумары. Аднаго разу Купала заначаваў у нас... Раптам сярод ночы пытае:

— Гэта ты, мая Ная?

— Гэта я, дзядзька Янка! — адказаў Броўка.

От і думай, што хочаш...

Купалу добра ведалі ў рэстаране гасцініцы, а ў тым рэстаране меўся акварыум з карпамі.

Часам Купала клікаў афіцыянта:

— Братка, златві мне вунь таго і засмаж!

Афіцыянт лавіў карпа, але, зайшоўшы за калону, выпускаў яго назад у акварыум і, вытрымаўшы час, неабходны для смажання, прыносіў з кухні раней прыгатаваную рыбіну... Хіба праверыш: той карп ці не, але Купала заўсёды быў задаволены...

У першы год вайны лётчыкам уручалі ўзнагароды ў Крамлі, і яны таксама жылі ў гасцініцы “Масква”, і ў рэстаране шчодра частавалі сваіх сяброўак, і самі шмат пілі... Было ўсяго, даходзіла й да страляніны, нават спрабавалі пацэліць у акварыум... Патрулі насілу ўпраўляліся з лётчыкамі-героямі, а Купала з любасцю глядзеў на іх...

Грошай у нас было не надта, а неяк адначасова яны выйшлі і ў мяне, і ў Броўкі, і ў Кучара[7]. Ведаючы, што мы галодныя, Купала запрасіў нас на абед. Па абедзе ж дастаў свой партманет і спакойна гэтак разважыў:

— Кожны плаціць сам за сябе...

Мы з Броўкам на нейкі момант збянтэжыліся, ажно вачыма залыпалі, але “выручыў” Кучар — ён тут жа палез у Купалаў партманет:

— Дзядзька Янка, дык жа ў вас поўна грошай!

Даўшы Кучару разабрацца са сваёй гатоўкай, Купала ўсміхнуўся і падміргнуў нам:

— Што, напалохаліся?!

...Святкавалі юбілей[8], найшло шмат гасцей, прыехаў Панамарэнка[9], а сам Купала спазняўся...

— Где же юбиляр? — спытаўся Панамарэнка.

— В печке! — адказаў дырэктар Літфонду.

— В какой еще печке?!

Дырэктар тут жа напалохана ўцяміў: не тое сказаў!

Быў упэўнены, што Панамарэнка пытаецца пра юбілейны торт, кулінарны цуд з крамлёўскімі вежамі... Калі з'явіўся Купала, пачаліся бясконцыя тосты, але найбольш запомнілася віншаванне літоўца Антанаса Венцлавы[10]. У шчырым парыве ён збіў рукой на торце чырваназорную вежу. Усе імгненна змоўклі — "Крэмль" застаўся ж без адной вежы! Той, каму трэба, лёгка мог бы падумаць, што Венцлава знарок зрабіў замах на няхай сабе кулінарны, аднак жа Крэмль!.. Праўда, неяк абышлося...

Аднаго разу перад вайной Купала запрасіў мяне ў госці, а я меў пільную работу, не мог сярод дня кінуць усё і паехаць з ім... І от шкадую, што не паехаў...

Ён любіў гасцей і не хаваўся ў сям'і, як гэта часам рабіў Якуб Колас, а яны, Купала і Колас, розныя былі, таму й пацвяліцца іншы раз маглі — асабліва ў той жа Маскве.

— Каласок, дзе будзеш начаваць?

— А ты дзе, Яначка?

— У гасцініцы!

— І я ў гасцініцы!

— У якой? — цікавіўся Купала.

— А ты ў якой? — перапытваў Колас.

— Я ў "Маскве", Каласок!

— Ну, а я тады асталююся ў "Якары", Яначка!

Праз нейкі час, вядома ж, не паехаўшы ў гасцініцу "Якар", Якуб Колас завітваў да мастака Елісеева[11] і бачыў у яго вясёлага Купалу, які й не думаў спыняцца ў гасцініцы "Масква"...»

Пра Янку Купалу, ды яшчэ такія жывыя апавяданні, слухаў бы і слухаў, аднак жа я не так слухач, як рэдактар, таму трохі пагаварылі і пра «Мой каўчэг» — рукапіс вершаў, які я рэдагую, і сам аўтар ацаніў яго так: «Сіл пакуль хапіла, і сабраў гэты зборнік, але ці адужаю сабраць новы?»[12]

І зноў гаворка пайшла пра пісьменнікаў:

«...неяк у час вайны Панамарэнка спытаўся ў нас:

— Может, стоит выпустить Андрея Александровича[13]? Похулиганил и хватит?

Лынькоў[14] быў за тое, каб выпусціць. А я сказаў, што не ведаю ўсёй справы, і Панчанка гэтак сказаў... Броўка ж і астатнія былі супраць...»

Тут гаспадар кватэры спытаў, ці можна дадаць у рукапіс новыя творы, і разгарнуў тонкі школьны сшытак (у такія сшыткі ён звычайна і занатоўваў свае верлібры), і я, вядома ж, адказаў, што новыя вершы дадаць *можна*, а ў звязку з П. Броўкам і А. Александровічам успомніў «Аповесць для сябе» Барыса Мікуліча[15], у якой згадваліся такія Броўкавы словы: «Мы Александровіча не надта хочам пускаць зноў, паганы ён чалавек...»

Максім Танк ажывіўся:

— У 1948 годзе я спрабаваў у «Полымі» надрукаваць Барыса Мікуліча, ягоны «Жыццяпіс Вінцэся Шастака», але не далі...

Было бачна, да Б. Мікуліча адчуваў сімпатыю, гаварыў пра яго так, што вось ён — сталінскі вязень, а пісаў у любых умовах, заставаўся творцам заўсёды, як і Ларыса Геніюш, як і Пятро Бітэль[16]...

Пайшла гаворка і пра тое, што П. Бітэль у бараку пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» і праз аднаго паляка, які адседзеў сваё, пераслаў пераклад у беларускі Саюз пісьменнікаў.

Пятрусь Броўка аддаў рукапіс яму, Максіму Танку: маўляў, ты лепей разбіраешся па-польску, так што чытай і параўноўвай!

Высока ацаніўшы пераклад, Максім Танк, тады ўжо лаўрэат Сталінскай прэміі, напісаў невядомаму перакладчыку прыязны ліст...

А што было далей, паведаў мне сам Пятро Бітэль, з ім я сустракаўся ў 1983 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», калі рэдагаваў ягоную кнігу паэм...

П. Бітэля выклікаў начальнік лагера.

— Вы пасылалі ў Мінск рукапіс?

— Пасылаў...

Дзіва дзіўнае, такі адказ цалкам задаволіў начальніка (і сярод іх, сталінскіх паганятых, людзі сустракаліся!), і ён даў прачытаць ліст.

Прачытаўшы, уражаны вязень знайшоў у сабе сілы папрасіць, каб гэтае нечаканае пасланне аддалі яму.

Не аддалі, і тым не менш...

— Як я ўсцешыўся тады! — казаў спадар Пятро. — На мяне пачалі глядзець па-другому, нават на лягчэйшую работу паставілі, бо мне, зэку, напісаў лаўрэат Сталінскай прэміі!..

Я коратка пераказаў Бітэлеў успамін, і Максім Танк памаладзеў:

— А я й не ведаў, што ўсё так добра адбылося! Адно цікава: куды схавалі той ліст?

— Мусіць, ляжыць у справе Бітэля?!

— А можа, у маёй справе?! — смех царскім чырвонцам бліснуў у яго позірку. — За сваё жыццё я многа пісьмаў па свеце разаслаў, багата ж і атрымліваў... Цяпер загаварылі ўсе пра Ларысу Геніюш, а яна вялікая ахвотніца была пісаць лісты! Шмат пісала і да мяне... Часам нешта прасіла, але адну просьбу я не выканаў...

— Якую?

— Дапамагчы выехаць у Чэхаславакію! Не мог зразумець, як гэта можна пакінуць Беларусь!.. Памятаю, як яна адмовілася ад дзвюх пуцёвак у Катэбель... Мусіць, муж яе настройваў на гэта...

Дык вось, гэта запіс ад 16 красавіка 1993 года; гадзіны тры доўжылася маё гасцяванне-рэдагаванне; на адвітанне ж Максім Танк паказаў пісьмы ад спевака М. Забэйды-Суміцкага[17] і зноў загаварыў пра Янку Купалу, па-сялянску разважыўшы:

— Трэба напісаць пра яго, але як жа пра *ўсё* напісаць?!

Акцэнт быў зроблены на гэтае таямнічае «ўсё»...

А праз чатыры дні яшчэ раз я пайшоў на вуліцу Кульман.

«20 красавіка 1993 г. Зноў у Максіма Танка. Рабілі апошнія праўкі ў кнізе “Мой каўчэг”, і, калі ўправіліся, паэт паказаў “Лютню Пушкіна” — зборнік, у якім Юльян Тувім сабраў усе свае пераклады твораў расійскага генія...

— Пасля вайны я быў у Варшаве на днях Міцкевіча[18]. З Рыльскім[19] і Бажаном[20] наведаў Тувіма. Кожнаму з нас ён падараваў па такой кнізе...

— Вы завучваеце свае вершы на памяць?

— Не... А от Пушкіна па-польску магу чытаць на памяць хоць увесь дзень!

— А як адносілася ўлада да Тувіма ў паваеннай Польшчы?

— Здаецца, добра. Ён тады якраз вярнуўся з Бразіліі... Праўда, у палякаў не разбярэш. Часам такога могуць коніка выкінуць! Вачам не верыш! Пра таго ж Міцкевіча, напрыклад, могуць такое панапісваць!..

Я ўжо стаяў у парозе, а ён без ніякай злосці пасмяяўся з нашай моладзі, якая, на яго думку, перабольшвае маштаб Грунвальдскай бітвы:

— Аперацыя "Баграціён" — вось дзе Грунвальд быў! Тут ужо немцам далі дык далі!..

Развітаўшыся з Любоўю Андрэеўнай, якая нерухома сядзела ў сваім вазочку, я ўжо выходзіў з кватэры, а ён раптам прамовіў:

— Чэслаў Мілаш сказаў пра паэзію: яна выскоквае з нас, як тыгр...»

---

[1] «Давно ль я дружу с Аполлоном?» (Максіму Танку — 80) / Совет. Белоруссия. 1992. № 174 (1805), 18 верас. С. 2.

[2] Зянон Пазьняк (н. 1944) — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у 1990–1995 гг., лідар апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

[3] Ян Пазьняк (1887 — пасля кастрычніка 1939) — беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч, сакратар Прэзідыума ЦК Беларускай хрысціянскай дэмакратыі; рэдактар віленскіх выданняў «Беларуская крыніца» і «Хрысціянская думка».

[4] Паэт Васіль Зуёнак (н. 1935) — на той час з'яўляўся кіраўніком Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[5] Гаворка тут пра рукапіс вершаў «Мой каўчэг».

[6] В. Я. Кірпоцін (1898–1997) — савецкі літаратуразнавец, сакратар Максіма Горкага.

[7] Алесь Кучар (1910–1996) — беларускі драматург і крытык.

[8] Маецца на ўвазе 35-годдзе творчай дзейнасці песняра, якое адзначалі на дзяржаўным узроўні ў Мінску ў снежні 1940 г.

[9] Панцеляймон Панамарэнка (1902–1984) — з 1938 і па 1947 г. з’яўляўся 1-м сакратаром ЦК КП(б)Б.

[10] Антанас Венцлава (1906–1971) — народны пісьменнік Літоўскай ССР, перакладаў на літоўскую мову вершы Янкі Купалы.

[11] К. С. Елісееў (1890–1968) — рускі мастак, сябар Янкі Купалы.

[12] Перад самай смерцю паэт паспеў падрыхтаваць да друку яшчэ адну сваю (апошнюю!) кнігу вершаў пад назвай «Errata».

[13] Андрэй Александровіч (1906–1963) — беларускі паэт; у 1938 г. быў арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 15 гадоў лагераў.

[14] Міхась Лынькоў (1899–1975) — народны пісьменнік БССР (1962), аўтар знакамітай аповесці «Міколка-паравоз» (1937).

[15] Барыс Мікуліч (1912–1954) — беларускі празаік, вязень сталінскіх лагераў, аўтар знакамітай кнігі «Аповесць для сябе».

[16] Пятро Бітэль (1912–1991) — беларускі паэт, пры Сталіне быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў; у лагеры пераклаў паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

[17] Міхась Забэйда-Суміцкі (1900–1981) — беларускі спявак, тэнар; шмат зрабіў, каб беларускую народную песню ведалі ў свеце.

[18] Адам Міцкевіч (1798–1855) — польскі паэт беларускага паходжання.

[19] Максім Рыльскі (1895–1964) — украінскі паэт.

[20] Мікола Бажан (1904–1983) — украінскі паэт.

# РАЗДЗЕЛ 4

Так, я бачыў Максіма Танка ў старасці, але заўсёды хацеў убачыць яго маладым, віленскім, дваццацігадовым, якім ён быў у першую сваю *турэмную* палову 1930-х.

Як мог, я ўяўляў той час, пра які паэт напісаў:

«...я працаваў у падполлі і за ўдзел у рэвалюцыйна-вызваленчым руху быў арыштаваны і сядзеў у вядомай віленскай турме Лукішкі...»[1]

Яго пашпартнае імя — Яўген Скурко — узнікала тады ў паліцэйскіх, пракурорскіх і судовых дакументах, а перш за ўсё ў канфіскаваных матэрыялах, з якімі можна пазнаёміцца ў Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве (LCVA): фонд 129, вопіс 2, справа 2034 і фонд 129, вопіс 2, справа 2227...

Зжаўцелая папера гэтых матэрыялаў і дала жыццё маёй архіўнай аповесці...

11 жніўня 1933 года віцэ-пракурор XIII Віленскага раёна Дамінік Пятроўскі ў сваім абвінаваўчым акце (13 друкаваных старонак!) заяўляў, што жыхар вёскі Пількаўшчына, Мядзельскай гміны, Пастаўскага павета, сын Яна і Дамінікі Яўген Скурко, якому 21 год, абвінавачваецца ў тым, што з 1930 па 27 траўня 1933 года ў Вільні, у Пастаўскім і Дзісенскім паветах Віленскага ваяводства, а таксама ў Наваградскім ваяводстве меў намер гвалтоўна змяніць дзяржаўны лад Польшчы і адарваць частку яе тэрыторыі.

Акрамя гэтага, падкрэсліваў Пятроўскі, Яўген Скурко ўзяў удзел у Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), ведаючы, што гэта партыя складаецца з асоб, якія імкнуцца да азначанай вышэй мэты[2]...

Віцэ-пракурора Пятроўскага буду часта згадваць у сваёй аповесці; можна сказаць, у яго руках знаходзілася жыццё «сына Яна і Дамінікі», як і сотні іншых жыццяў — у тым ліку і лёс літоўскага журналіста Ёнаса Каросаса[3], якога 12 траўня таго ж 1933 года Пятроўскі таксама абвінаваціў у прыналежнасці да КПЗБ.

Ё. Каросас — сябар Максіма Танка, і гаворка пра яго наперадзе...

Выставіўшы вельмі сур'ёзнае абвінавачанне, віцэ-пракурор даводзіў: віна Яўгена Скурко караецца згодна з артыкуламі 97 параграф 1 і 93[4] Крымінальнага кодэкса міжваеннай Польшчы, а яшчэ віцэ-пракурор аднатаваў: калі 5 лютага 1931 года ў Тчэве арыштавалі Браніслава Тарашкевіча[5], то ў ягоных блакнотных нататках была знойдзена характарыстыка на нейкага Скурко:

«Смелы хлопец, вучань беларускай гімназіі, адзін раз ездзіў у Слонімскі павет, дзе жыве брат Дварчаніна...»[6]

Пятроўскі асаблівую ўвагу звяртаў на тое, што згаданы Скурко ўваходзіў у шэраг актывістаў, якія непасрэдна праводзілі ў Польшчы дырэктывы кампартыі.

Блакнотныя нататкі Тарашкевіча ў Вільні пераклалі з беларускай мовы на польскую, перадрукавалі, пранумаравалі, у імянных спісах гэтых нататак паставілі адпаведныя пункты, і атрымалася дваццаць дзве пратакольныя старонкі.

З 1 і ажно па 23 красавіка 1931 года іх падрабязна вывучыў судовы следчы Язэп Булгак.

На шостай і сёмай старонках даваліся кароткія характарыстыкі на кур'ераў; дык вось, на сёмай старонцы ў 24-м пункце і паведамлялася пра «нейкага Скурко».

У кнізе М. Мікуліча[7] «Максім Танк: на скразняках стагоддзя» змешчана паэтава згадка пра той выпадак:

«...у мяне пачынаўся акт абвінавачання, што... пры пераездзе граніцы ў Тчэве быў арыштаваны Браніслаў Тарашкевіч, у запісной кніжцы якога было пазначана: "Скурко (толькі імя не было) — хлопец дзельны, вазіў літаратуру". А я тады, сапраўды, вазіў літаратуру брату аўтара хрэстаматыі Дварчаніна...»

Лідару «Грамады» паэт прысвяціў твор «Б. А. Тарашкевіч»:

Лукішкі.
Ключоў турэмных звон.
Год 1932, здаецца.
Першы павільён.
Паверх трэці.
Калі выводзілі нас

На астрожны двор пракляты,
Мы бачылі яго,
Прыніклага да кратаў,
З рукой, у прывітанні
Ўзнятай...

У 1983 годзе я рэдагаваў кнігу Максіма Танка «За маім сталом» і памятаю: гэты верш уразіў мяне сваім нязвыклым (назаву яго турэмным!) рытмам...

Пятроўскі паведамляў таксама, што ўжо з канца 1930 года паэт належаў да нацыянальна-вызваленчага беларускага руху.

Згадваецца імя паэта і ў лісце Віленскай пракуратуры, адрасаваным 26 лютага 1932 года следчаму Булгаку.

А 8 сакавіка таго ж года старшы пастарунковы следчай службы Пятро Блесмановіч дакладваў Булгаку: Яўген Скурко падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі належаў да камсамольскай арганізацыі; заўважу: у гэты дзень Блесмановіч у якасці сведкі прымаў удзел і ў справе Б. Тарашкевіча.

Дарэчы, Блесмановіч неаднойчы дапамагаў абвінавачваць — так, у траўні 1936-га сведчыў у апеляцыйным судзе на «Працэсе адзінаццаці»[8]; спрыяў там, да слова сказаць, Пятроўскаму.

Блесмановіч быў спрытны; якраз такія спрытныя і амбітныя на́вадам хадзілі за маладым Максімам Танкам...

І не толькі за ім.

У дакументальнай аповесці «Было яно калісьці...» Якуб Міско[9] ўспамінае, як Блесмановіч намаўляў яго, вучня Віленскай беларускай гімназіі, шпіёніць за сваім настаўнікам Ігнатам Дварчанінам, — калі ж вучань Якуб адмовіўся, Блесмановіч даў яму кухталя і адпусціў.

Тут не магу не здзівіцца: даў кухталя — і ўсё?

Любы ветэран сталінскай палітычнай паліцыі толькі б усміхнуўся, — ніякі ж савецкі вучань не здолеў бы так лёгка адкруціцца ад стукацтва, бо не кухталь яго чакаў, а сама мала — гадоў дзесяць Калымы!

Я. Міско пакінуў і партрэт Блесмановіча: элегантна апрануты, русявы, прычасаны на гладкі прабор і з невялічкімі,

вядома ж, як свярдзёлкі, вочкамі; вораг, няхай сабе й элегантна апрануты, павінен быў мець не вочы, а маленькія непрыгожыя вочкі і менавіта як свярдзёлкі — такі быў бальшавіцкі апісальны канон...

А вось анкетны партрэт Блесмановіча — сын Язэпа і Алены, аднагодак Пятроўскага — у 1932 годзе меў трыццаць два гады; нарадзіўся ў Вільні, у Вільні й ажаніўся, а жыў на Святаянскай, 3–10 і, само па сабе, хадзіў у касцёл.

Для паўнаты карціны яшчэ скажу і аб тым, што імя Блесмановіча сустракаецца і ў пераліку сведкаў на 11-й старонцы вышэйзгаданага абвінаваўчага акта[10]...

Праясню сітуацыю з першым арыштам Максіма Танка.

У «Лістках календара» паэт паведаміў пра сябе: «...спыніўся на Віленскай[11]... і не заўважыў, калі падышоў ззаду сышчык, які ў маі 1932 года арыштоўваў мяне ў Глыбокім[12]...»[13]

Сказана расплывіста — у маі 1932-га...

Але калі ў маі, у які дзень?!

У цень расплывістасці трапілі й даследчыкі...

У. Калеснік у кнізе «Паэзія змагання» гаворыць не пра май, а пра лета:

«Летам (?) 1932 г. яго арыштавалі...», а ў кнізе «Зорны спеў» цытуе інфармацыйны камунікат паліцыі № 142: «...дня 2.04.1932 г. зволены з-пад арышту з турмы на Лукішках...»

Атрымалася дзіўная перастаноўка: арыштавалі паэта летам, а выпусцілі вясной, 2 красавіка, усё таго ж 1932 года!

І хто тут памыліўся — даследчык ці пісар, які складаў камунікат?!

І калі паверыць паліцэйскаму пісару — Яўгена Скурко выпусцілі 2 красавіка 1932 года! — то выходзіць, што пасадзілі яго недзе ў лютым або ў сакавіку 1932-га...

Пазней у кнізе «Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці» У. Калеснік няпэўна ўдакладніў: «...паэта арыштавалі ў сакавіку 1932 года, а ў красавіку звольнілі...»

У новых публікацыях паважанага вучонага заміж 2 красавіка з'явілася 11 красавіка як дзень выхаду з вязніцы, аднак жа і гэтая дата сумнiўная.

У лісце У. Калесніку Максім Танк далікатна тлумачыць: «...па нейчай віне... укралася памылка, што я звольнены з турмы

11.04.1932 года. Я тады напярэдадні Першага мая быў арыштаваны. Аб звальненні ў гэты час не магло быць і гутаркі...»[14]

Дзмітры Бугаёў[15] у кнізе «Паэзія Максіма Танка» даводзіць: будучага аўтара «Нарачы» арыштавалі ў красавіку 1932-га.

Мікола Арочка[16] ў даследаванні «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі», мусіць каб не памыліцца, наогул не называе ні дзень, ні месяц, ні год першага арышту, а проста кажа пра свайго героя: «...упершыню трапіўшы на Лукішкі...»

У сваім цікавым артыкуле «Дзённік — гэта шлях з верставымі слупамі-паказальнікамі...» Святлана Калядка[17] адзначае: «...няма архіўных матэрыялаў, на падставе якіх мы маглі бы дакладна ўзнавіць даты арышту і знаходжання Максіма Танка ў турме ў 1932 г. ...»[18]

Аднак жа гэтыя матэрыялы ёсць...

У абвінаваўчым акце, складзеным Пятроўскім, на 8-й старонцы можна прачытаць: 27 красавіка 1932 года Яўгена Скурко затрымалі, а праз два дні 29 красавіка рашэннем суда 1-й інстанцыі часова зняволілі[19].

Сапраўды ж, «...напярэдадні Першага мая быў арыштаваны...»

Прыкладна праз месяц, 24 траўня, арышт замянілі закладам у суме 200 злотых[20] — пра гэтую суму напісалі ці не ўсе танкаўскія даследчыкі! — аднак выпусцілі не адразу: 27 траўня Пятроўскі ў прысутнасці пастарункавага следчай службы Тадэвуша Пладоўскага ўзяў у паэта ўзор почырку.

У пратаколе, які вёў Пладоўскі, пасля біяграфічных звестак Яўген Скурко ўласнаручнааднатаваў, што ён ніколі не належаў у Вілейскім павеце да гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, а таксама ніколі не быў у мястэчках гэтага павета Параф'янаве і Даўгінаве[21].

Пэўна ж, ведалі, што юнак не ўваходзіў у гурток згаданага інстытута (некамуністычнай арганізацыі!), аднак жа спыталі — і для выгляду, і з мэтай папоўніць калекцыю ўзораў почырку!

А што да названых мястэчак, то заўважу: у верасні 1932-га паблізу Даўгінава Яўген Скурко перайшоў польска-беларускую мяжу, а Параф'янава на той час было не ў Вілейскім, а ў Дзісенскім павеце...

Калі грошы былі ўнесены (трэба думаць, з партыйнай касы), то 11 чэрвеня 1932 года паэт выйшаў на волю[22].

У згаданым вышэй лісце У. Калесніку Максім Танк паведамляе, што выйшаў з Лукішак толькі ў ліпені.

У чэрвені ці ў ліпені (калі б тое не было!), але паэт не стаў чакаць суда, схаваўся ад паліцыі (некалькі тыдняў знаходзіўся ў БССР), таму былі разасланы гончыя лісты[23] — так зваліся аб'явы пра пошук злачынцаў.

---

[1] Уступ да кнігі «Лісткі календара».

[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 3.

[3] Ёнас Каросас (1912–1975) — актыўны ўдзельнік падпольнага камуністычнага руху ў міжваеннай Польшчы.

[4] Злачынствы супраць дзяржавы.

[5] Браніслаў Тарашкевіч (1892–1938) — беларускі палітык, мовазнаўца, акадэмік АН БССР; лічыцца, што ён аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ» (1918).

[6] Ігнат Дварчанін (1895–1937) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху, доктар філасофіі, выдаў у Вільні ў 1927 г. «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)».

[7] Мікалай Мікуліч (н. 1960) — даследчык жыцця і творчасці Максіма Танка.

[8] Перагляд справы студэнтаў Віленскага ўніверсітэта.

[9] Якуб Міско (1911–1981) — беларускі журналіст, удзельнік рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі.

[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 8.

[11] Вуліца ў цэнтры Вільні.

[12] У 1932 годзе Максіма Танка арыштавалі не ў Глыбокім, а ў Вільні. У Глыбокім яго арыштавалі ў 1933 г.

[13] Запіс ад 4 жніўня 1937 г.

[14] Ліст напісаны ў студзені 1978 г.

[15] Дзмітры Бугаёў (н. 1929) — беларускі літаратуразнавец і крытык.

[16] Мікола Арочка (1930–2013) — беларускі паэт і літаратуразнавец.

[17] Святлана Калядка — літаратуразнаўца, даследчыца беларускай жаночай паэзіі, аўтар манаграфіі «Непрыручаная птушка Палесся: творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц».

[18] Гэты артыкул у якасці ўступнага слова на с. 5–22 змешчаны да 9-га тома са Збору твораў Максіма Танка (Мн., 2009).

[19] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 6 ap.

[20] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 7.

[21] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 6.

[22] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 7.

[23] Тамсама.

# РАЗДЗЕЛ 5

Надышоў 1933-і...

16 лютага следчы 2-й Віленскай акругі выпісаў новы гончы ліст[1]; натуральна, ён быў скасаваны, калі 24 траўня Яўгена Скурко затрымалі ў Глыбокім, а праз тры дні, 27 траўня, арыштавалі (другі раз!)[2], дапыталі і змясцілі на Лукішках у 1-м корпусе ў камеры 89, у якой з 8 верасня 1932 года знаходзіўся Ян Гарэлічонак[3] — лёс члена КПЗБ, работніка алейні Я. Гарэлічонка далей будзе цесна знітаваны з лёсам паэта...

16 ліпеня Яўген Скурко падаў заяву на імя судовага следчага 1-й Віленскай акругі з просьбай дазволіць яму выпісаць газету «Глос Вільна»[4].

Бачыце, турмы Язэпа Пілсудскага — не турмы Язэпа Сталіна; у турмах Пілсудскага вязні маглі выпісваць сабе газеты!

Але цікава, чаму якраз гэтае выданне, а не якое-небудзь іншае, захацеў чытаць вязень 89-й камеры?

У 1920-я гады існаваў тыднёвік «Глос Вільна» Арахоўскага, а ў пачатку 1930-х пад тою ж назвай выходзіў ілюстраваны штодзённік Вітальда-Зыгмунта Гурнісевіча.

Вельмі верагодна, што паэт у сваёй заяве пісаў пра гэту газету.

Свой кірунак выданне Гурнісевіча вызначала як незалежны, аднак жа кірунак быў непрыхавана санацыйны.

На чатырох старонках (пазней і на шасці) вялікага фармату (як у «Слова» ці «Кур'ера Віленскага»[5]) і, сапраўды, з ілюстрацыямі — газета пры першым гартанні, кажучы сённяшняй мовай, рабіла ўражанне гламурнага выдання.

Зазначу: такая думка складвалася толькі пры гартанні, а не чытанні!

На сваіх старонках пра сябе часта змяшчала кідкую рэкламу: «"Глос Вільна" — самая папулярная газета на ўсходніх землях!»

«Самая папулярная»!

І, мусіць жа, самая танная — адзін яе паасобнік каштаваў 10 грошаў.

Для параўнання: экзэмпляр таго ж «Кур'ера Віленскага» меў цану 20 грошаў, а, скажам, за літр малака ў той час плацілі 40 грошаў...

Газета Гурнісевіча друкавалася ў Віленскай каталіцкай друкарні Казіміра Ляўковіча, што ў Літарацкім завулку, 11, а рэдакцыя знаходзілася на Вастрабрамскай, 17...

Такія «знешнія» дадзеныя, а што да сутнасці, то «Глос Вільна» шмат пісаў пра кіно, змяшчаў партрэты Грэты Гарба[6] ды іншых славутых тагачасных акцёраў, аднак жа (у адрозненне ад «Слова» і «Кур'ера Віленскага»!) нічога не паведамляў пра беларускае жыццё.

Нібыта ў Вільні ніякіх беларусаў і не было!

Газета вяла спрэчкі з Цатам-Мацкевічам[7], рэдактарам «Слова», і нападала на камуністаў.

Наогул жа, «Глос Вільна» быў антыкамуністычны, але найбольш антысеміцкі!

Юдафобскія матэрыялы (часам проста жахлівыя!) шырокай і глыбокай плынню разліваліся амаль па ўсіх яго нумарах!

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты, здаецца, ніколі не стамляліся ў сваім праведным і мэтаімклівым змаганні з сіяністамі, узвышалі хрысціянскую этыку над іўдаізмам і прадбачвалі ягоную пагібель (канешне, у міжнародным маштабе!), а таксама ж трывожыліся: польскія суды і адвакатура ажно на 80% складаюцца з габрэяў!

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты цешыліся: аферыстка Хава Раідх будзе выселена з Польшчы! — і жахаліся: у ліпені 1932-га ў Львове (на вуліцы Лычакоўскай, 60) жыды пабілі лістаношу за тое, што ён у суботу патрабаваў распісацца за дастаўленую дэпешу!

І сапраўды, «Глос Вільна» ў сваім антысеміцкім пафасе быў нястомны, ён паспяваў скрозь — то высмейваў рытуальнае абмыванне дзяўчат у мікве, а то звяртаў увагу Таварыства апекі над жывёламі, што віленскія шлёмы мучаць коней на вуліцы Азёрнай, якая з рыбнага рынку вельмі крута падымаецца на вуліцу Бакшту — коні насілу выцягваюць на Бакшту

вялізныя вазы з марожанай рыбай, а шлёмы неміласэрна хвошчуць іх пугамі!

Вядома ж, віленскія беларусы, літоўцы, палякі ці тыя ж стараверы ніколі сваіх коней пугамі не хвасталі!

І, само па сабе, хрысціяне ніколі не падманвалі дзяўчат, а вось нейкі Хаім Давідсан (калі верыць «Глосу Вільна»!) удаваў з сябе пазнанскага графа і, уводзячы ў зман даверлівых варшаўскіх паненак, завабліваў іх у падазроныя памяшканні і там рабаваў...

«Глос Вільна» мужна папярэджваў сваіх чытачоў: у Польшчы жыве найбольш, чым дзе ў Еўропе, габрэяў — ажно 3 мільёны 125 тысяч!

Маўляў, пільнымі будзьце!

Спасылаючыся на нямецкую (значыць, дакладную!) статыстыку, газета нагадвала: у свеце 15 мільёнаў габрэяў; у Еўропе — 9 785 000; у Савецкім Саюзе — 2 870 000; у Румыніі — 800 000; у Нямеччыне — 585 000; у Чэхаславакіі — 380 000; у Брытаніі — 300 000; у Аўстрыі — 220 000; у Літве — 167 000; у Францыі — 160 000; у Галандыі — 120 000; у Латвіі — 96 000; у Грэцыі — 73 000; у Югаславіі — 67 000; у Турцыі і Балгарыіі — 50 000; у Італіі і Бельгіі — 45 000; у Швейцарыі — 18 000; у Гданьску — 9000; у Швецыі — 6000; у Даніі — 5500; у Эстоніі — 5000; у вугальным басейне Саар — 4500; у Іспаніі — 3000; у Партугаліі — 2500; у Фінляндыі — 1800; у Люксембурзе — 1750; у Нарвегіі — 1450...

Паводле логікі «Глоса...» напрошваецца выснова: найбольш пашанцавала нарвежцам, бо ў іх толькі паўтары тысячы ўнукаў Якава — і то без пяцідзесяці душ!

А вось і самая запамінальная публікацыя[8], сэнс яе такі: у адным з паморскіх мястэчак гаспадары на сваіх крамах напісалі: «Жыдам уваход забаронены!»

Пакрыўджаныя габрэі прасілі бургамістра пакараць крамнікаў, аднак жа галава мястэчка даў такую водпаведзь:

— У гэтым учынку хрысціян не бачу ніякага злачынства!

Пакрыўджаныя настойвалі, тады бургамістр параіў:

— А вы на сваіх крамах яшчэ большымі літарамі напішыце: «Палякам уваход забаронены!»

Учынак паморскіх крамнікаў «Глос Вільна» назваў патрыятычным і нават пажадаў, каб надпіс, які яны прыдумалі, з’явіўся на крамах па ўсёй Віленшчыне.

Як бачна, у нянавісці да людзей суботы, як і ў нянавісці да камуністаў, «Глос...» Гурнісевіча бег па віленскім бруку нават паперадзе Гітлера...

І вось такую газету (у дадатак яшчэ і абыякавую да беларускага жыцця!) захацеў выпісаць камсамолец беларус Яўген Скурко, у душы якога не было нават маленькай кроплі юдафобства.

Дык чаму ж менавіта гэта выданне прагнуў мець у вязніцы?

Магчыма, такое заданне атрымаў ад турэмнага камітэта, а магчыма, таму, што «Глос Вільна» быў таннейшы за іншыя віленскія газеты...

А яшчэ можа быць і такі адказ: выданне шмат пісала пра кіно, а Максім Танк, як вядома, у маладыя гады быў вялікім прыхільнікам кіно; чытаць за кратамі пра любімы род мастацтва — значыць, мець у турме хоць нейкую радасць!

Аднак жа напрошваецца і яшчэ адно тлумачэнне (назаву яго дыпламатычным): выпісваючы санацыйную газету, вязень, магчыма, хацеў увесці ў зман адміністрацыю і тым самым аблегчыць свой лёс — маўляў, глядзіце, панове, жадаю чытаць ваша выданне; выходзіць, не такі ўжо я і «выўратовец»[9]!

Аднак жа, здаецца, начальства не паддалося гэтай хітрасці!

Але аб усім па парадку.

Дык вось, 16 ліпеня 1933 года Яўген Скурко падаў заяву, напісаную чорным атрамантам на палове зжоўклай старонкі з вучнёўскага сшытка ў клетку.

Варта падрабязней апісаць гэты дакумент...

На ягоным тытуле — авальная сіняга колеру пячатка турэмнай канцылярыі: «Атрымана 17 ліпеня 1933 г.»[10], а на адвароце начальнік Лукішак Ян Чакала 20 ліпеня блакітным атрамантам прыпісаў: «Вязень Скурко салідарызуецца з вязнямі камуністамі і паводзіць сябе нездавальняюча»[11].

Слова «нездавальняюча» (niedostatecznie) у гэтай прыпісцы падкрэслена чырвоным алоўкам — магчыма, падкрэсліў следчы, а магчыма, і сам Пятроўскі.

Атрымаўшы з такой выразнай прыпіскай заяву, следчы 26 ліпеня[12] пераслаў яе Пятроўскаму, і ўжо назаўтра заява легла на віцэ-пракурорскі стол, аднак Пятроўскі ніякай рэзалюцыі на ёй не пакінуў.

Мусіць жа, падумаў: раз Яўген Скурко спачувае камуністам, то не варта патураць яму, скажам, даваць дазвол на падпіску нават праўрадавай газеты!

Трэба згадаць і такі факт: 17 ліпеня, на другі дзень пасля падачы заявы, паэта выклікалі на допыт.

Пятроўскі агулам адзначыў, што дапытаны 17 ліпеня судовым следчым Яўген Скурко пацвердзіў паказанні, выкладзеныя ў абвінаваўчым акце[13].

Але хто вёў допыт (імя і прозвішча следчага?), якія ставіліся канкрэтныя пытанні і якія былі адказы, пакуль не магу сказаць, бо не знайшоў пратакола — пэўна ж, размова круцілася вакол падпольнай дзейнасці арыштаванага, і ён, каб сабе не нашкодзіць, дыпламатычна пацвярджаў толькі тую сваю віну, ад якое, на яго думку, можна было і не адмаўляцца.

11 жніўня Яўгену Скурко ўручылі копію абвінаваўчага акта[14], а праз дваццаць дзён, 31 жніўня, у 3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда быў дасланы і сам гэты акт — трэба думаць, арыгінал[15]; 2 верасня завялі справу[16]; 8 верасня старшыня суда даў справе ход[17], і яна доўжылася два месяцы — да 7 лістапада.

12 верасня кіраўнік сакратарыята 3-га крымінальнага аддзела адправіў на Лукішкі копію абвінаваўчага акта (11 жніўня Яўгену Скурко ўжо ўручалі падобны «одпіс»[18]?!) і тлумачэнне аб парадку падачы скаргаў[19].

Назаўтра, 13-га чысла, паэт атрымаў гэтыя дакументы, а 18-га падаў у акруговы суд заяву з просьбай паскорыць разгляд справы[20].

Мінула амаль чатыры месяцы, як малады хлопец апынуўся ў турме; суды былі загружаныя, і можна было сядзець (абы сядзець!) яшчэ некалькі месяцаў і не мець на руках ніякага выніку.

А не хацелася!

У такой сітуацыі — чым раней засудзяць, тым лепей, хоць будзе магчымасць падаць апеляцыю.

Так яна і ўзнікла, згаданая заява, на тытуле якой — усё тая ж сіняя авальная пячатка Лукішак: «Атрымана 18 верасня 1933 г.»[21], а на адвароце пазнака — 19 верасня начальнік турмы (ужо без ніякіх прыпісак!) перадаў заяву па прызначэнні, і назаўтра яна была зарэгістравана ў судовай канцылярыі[22].

У выніку на дакуменце з'явіліся дзве рэзалюцыі — верхняя чырвоным алоўкам: «Выклікаць. 25.09.1933 г.» і ніжняя, больш пэўная: «Выкліканы на 27.09.1933 г.»[23]

Трэба думаць, што 27 верасня паэту дазволілі пазнаёміцца з матэрыяламі сваёй справы.

Тым часам разаслалі й позвы на судовы разбор, прызначаны на 6 лістапада...

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 75.

[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 7.

[3] У нарысе «Аўтабіяграфія» (1963) гэтага сябра сваёй маладосці Максім Танк памылкова назваў Гаўрылічонкам.

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 3.

[5] Польскамоўныя віленскія газеты.

[6] Грэта Гарба (1905–1990) — шведская і амерыканская актрыса.

[7] Станіслаў Цат-Мацкевіч (1896–1966) — віленскі пісьменнік, публіцыст, заснавальнік і рэдактар штодзённай газеты «Слова».

[8] 1932. № 246, 14 верас., серада.

[9] Выўратовец (*польск.* wywrotowiec) — чалавек, дзейнасць якога шкодніцкая, антыдзяржаўная.

[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 3.

[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 3 ap.

[12] Тамсама.

[13] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 8.

[14] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 11.

[15] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 2.

[16] Тамсама.

[17] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 2 ap.

[18] Одпіс (*польск.* odpis) — копія.

[19] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 10 ap.

[20] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 14.

[21] Тамсама.

[22] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 14 ap.

[23] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 14.

# РАЗДЗЕЛ 6

На разбор выклікаўся Яўген Скурко і сведкі Ян Касяк (на той час таксама лукішскі вязень), Апалінары Мальчэўскі (чыноўнік следчага аддзела)[1] і былы сябар «Грамады», выдавец доктар Усевалад Шыран (позву яму ўручылі 21 верасня 1933 года ў мястэчку Лужкі Дзісенскага павета)[2]...

Доктар Усевалад Шыран — асоба ў Заходняй Беларусі даволі вядомая, дзейная і шчодрая — скажам, у студзені 1934-га доктар ахвяраваў 50 злотых тым нашым вучням, якіх маглі выключыць з гімназій за адсутнасць платы за вучобу.

Пятроўскі паведамляў: у лютым 1932-га У. Шыран задумаў заснаваць у Вільні беларускі «Часопіс для ўсіх» (выданне КПЗБ)[3].

Яўген Скурко даведаўся пра намер У. Шырана ад студэнта Яна Касяка і прапанаваў для друку свае творы — «Песня Ігната», «Шахцёры», «За работай», «Трынаццаць»[4]...

Пазней Максім Танк згадваў: «..."Часопіс для ўсіх"... так хутка быў канфіскаваны паліцыяй, што я нават не паспеў панюхаць, як пахне друкарская фарба маіх першых надрукаваных твораў...»[5]

«Часопіс для ўсіх», выдадзены 13 сакавіка 1932 года накладам 2000 асобнікаў, фігураваў у спісе рэчавых доказаў (пункт 15)[6] на разборы 6 лістапада...

У якасці сведкаў паклікалі ў суд будучую жонку паэта Любоў Асаевіч і яе сястру Соф'ю; позвы ім даставілі на адрас: Вільня, вуліца Букавая, 14[7].

Трэба думаць, сёстраў не было дома, таму 20 верасня пасланец уручыў дзве павесткі, надрукаваныя на ружовай паперы, іхняй непісьменнай маці — у графе «подпіс» жанчына двойчы паставіла алоўкам тры крыжыкі[8]...

Паводле Пятроўскага, Яўген Скурко жыў на Букавай, 14 з 1929 года; у розныя часы там з ім перабывалі Мікалай Сіцько, Сяргей Скурко, Ян Гарэлічонак...

Тут крыху парушу храналагічны парадак і вярнуся ў 1932 год...

Ноччу з 11 на 12 красавіка 1932 года паліцыя абшукала дом на Букавай і ў пакоі Соф'і[9]...

*Заўважу: Соф'я была вядомая Браніславу Тарашкевічу; праўда, пішучы пра Соф'ю, лідар «Грамады» называў яе Зояй: «...Асаевічанка Зоя — агранамія — санацыя...» — што, напэўна, значыла: дзяўчына вучылася на агранома і належала да арганізацый, якія не супрацоўнічалі з камуністамі.*

Дык вось, у пакоі Соф'і пад шафай паліцыя знайшла два паасобнікі адбітага на шапірографе часопіса «Пралом» № 2 з датай «Люты 1932 г.», а таксама рукапісы:

1. Верш «Заштрайкавалі гіганты-коміны», падпісаны: «Максім Танк».

2. Верш «Гаротнікі абудзіліся», датаваны 20.01.1932 і падпісаны: «Арсень Граніт»[10].

3. Артыкул «Замест прадмовы», змест якога падобны на змест артыкула «Ад рэдакцыі», змешчанага ў 2-м нумары «Пралому».

4. Апавяданне пра перажыванні беспрацоўнай Манькі...

Соф'я заявіла, што не ведае, хто ў яе пакоі хаваў часопіс «Пралом», аднак паказала: да яе часта заходзілі кватаранты Яўген Скурко і Мікалай Сіцько...

На адной з вокладак «Пралому» быў надпіс па-беларуску: «На памяць ад рэдакцыйнай калегіі "Пралому" 2 красавіка 1932 г.», і пазней каліграфічная экспертыза засведчыла: гэта рука Яўгена Скурко.

27 красавіка 1932 года пшадоўнік Леан Гансяроўскі зноў перatрос дом на Букавай, асабліва пакой Яўгена Скурко і Мікалая Сіцько[11], і, трэба сказаць, ператрус быў плённы.

Немагчыма не здзівіцца: у жыллё, якое знаходзілася пад наглядам, што не было сакрэтам, за два тыдні хлопцы зноў нанеслі антыўрадавых рукапісаў і друкаў!

Зусім нядбалыя былі ці што?!

Нацягалі і нічога не схавалі!

Хочацца думаць, што Яўген Скурко ўсё ж такі спрабаваў схаваць прынесенае і схаваў, аднак Мікалай Сіцько наўмысна пакінуў (ці праўдзівей — падкінуў) для паліцыі новую спажыву.

Адказ на пытанне: хто ён, Мікалай Сіцько, абавязкова будзе...

Гансяроўскі выявіў шмат выданняў і камсамольскіх цыркуляраў, вершаваныя рукапісы камуністычнага зместу, а таксама ведамасці-справаздачы, багатыя на лічбы, даты, падрахункі і скарачэнні — напрыклад, «Док» (Докшыцы), «Дун» (Дунілавічы), «См-нь» (Смаргонь), «Гр» (Гродна), «Ві» (Вільня) і г.д.

Усё гаварыла аб тым, што Яўген Скурко і Мікалай Сіцько — актыўныя камсамольцы!

Крамольныя паперы, напісаныя (зноў жа на думку Пятроўскага!) Яўгенам Скурко, сведчылі пра час і колькасць разасланых адозваў і што Яўген Скурко разам з Серафімам Лаворам з сярэдзіны снежня 1931-га кіравалі выпускам падпольных матэрыялаў...

Усё ж такі найбольш гэтым займаўся С. Лавор, бо ён кіраваў тэхнікай.

Тэхніка — структура КПЗБ; былі прадстаўнікі Цэнтральнай тэхнікі — адмыслоўцы, якія засноўвалі партыйныя падпольныя друкарні, і былі ўпаўнаважаныя Цэнтральнай тэхнікі, якія забяспечвалі гэтыя друкарні неабходнымі прыладамі.

Да слова сказаць, у Вільні дзейнічалі дзве друкарні КПЗБ; адна з іх знаходзілася глыбока пад домам 1/8, што на рагу Крупнічай і Шырокай, паблізу вуліцы Завальнай...

С. Лавор быў і кур’ерам; у кнізе Г. Мухі-Мухноўскага «Пути-дороги» сказана: С. Лавор вазіў адозвы ў Мір, і там яго арыштавалі.

А Б. Тарашкевіч у блакнотных нататках пакінуў інфармацыю[12]: «Лавор Серафім, былы вучань Віленскай гімназіі[13], ходзіць на матуральныя курсы[14], адзін раз ездзіў у Стаўпецкі павет, працуе пры польскай сацыялістычнай партыі-лявіцы[15]...»

А на 14-й старонцы нататак Б. Тарашкевіча ёсць і такі недвухсэнсоўны сказ: «...Лавор (пераправіць за мяжу)...»

Пэўна, пераправіць не паспелі ці раздумалі, і юнак (аднагодак Максіма Танка) сустрэўся з Лукішкамі.

З С. Лаворам паэт сябраваў, атрымліваў ад яго турэмныя паштоўкі.

Пра адну недакладнасць у жыццяпісе паэта, якая выплыла дзякуючы якраз адной такой паштоўцы, я яшчэ раскажу...

Аднак аднаўлю храналагічны парадак.

3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда (старшыня — Сянкевіч, суддзі — Жанеўскі і Драц, пратакаліст — Гжымкоўскі, за пракурора — Пятроўскі) засядаў два дні — 6 і 7 лістапада 1933 года[16].

На лаве падсудных апынуліся — Серафім Лавор (21 год), Ян Гарэлічонак (27 гадоў), Сяргей Скурко (22 гады), Уладзімір Хвалько (30 гадоў), яго брат Міхал Хвалько (28 гадоў), Мікалай Сіцько (19 гадоў) і Яўген Скурко (21 год).

Зноў зазначу: пра турэмную адысею М. Сіцько будзе асобная гаворка!

Маладых беларусаў судзілі за ўдзел у камуністычным руху; віну самага старэйшага Уладзіміра Хвалько прызналі недаказанай; астатніх засудзілі на розныя тэрміны зняволення, на восем гадоў пазбавілі публічных і грамадзянскіх правоў, і кожны, акрамя М. Сіцько, мусіў быў сплаціць 320 злотых судовых выдаткаў[17]; М. Сіцько ж прысудзілі плаціць удвая менш (!) — 160 злотых.

Як бачна, за так не судзілі, праўда, запісалі: хто без грошай (а без грошай, трэба думаць, былі ўсе!), то за таго будзе заплачана з дзяржаўнай касы!

Яўген Скурко дастаў шэсць гадоў турмы; даследчыкі не раз адзначалі: на Лукішках паэт выпускаў часопіс «Краты» і складаў рыфмаваныя творы.

Нядаўні вучань меліярацыйных тэхнічных курсаў, ён меў добры почырк і ўмеў карыстацца рознымі шрыфтамі, таму турэмны камітэт неаднойчы даручаў яму перапісваць грыпсы.

Валоданне каліграфіяй дапамагала і ў падробцы дакументаў — гаворка пра тое таксама яшчэ будзе, а пакуль пра грыпсы.

Паэт называў гэтым нязвыклым словам астрожныя вершы, Янка Брыль[18] у нарысе «Сэрца камуніста» паведамляў, што грыпсы — шыфраваныя запіскі (зрэшты, не заўсёды яны шыфраваліся!), а даследчыкі Т. Барысюк і М. Барташэвіч удакладняюць: гэта запіскі з турмы ці ў турму.

Слова «грыпсы» паўплывала на лёс і творчасць Максіма Танка істотным чынам!

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 18.

[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 16.

[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 5.

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 7 ap.

[5] «Лісткі календара», запіс ад 8 студзеня 1935 г.

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 9.

[7] Па гэтым адрасе 10 снежня 1933 г. (Максім Танк знаходзіўся тады ў турме) прайшоў нелегальны сход левых пісьменнікаў Заходняй Беларусі.

[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 12, 13.

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 6.

[10] Адзін з ранніх псеўданімаў Максіма Танка.

[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 6 ap.

[12] Паводле пратакола следчага Язэпа Булгака, гэта інфармацыя знаходзіцца на старонцы 7, пункт 18.

[13] С. Лавор вучыўся і ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, дзе пазнаёміўся з Максімам Танкам.

[14] На гэтыя курсы хадзілі, каб атрымаць атэстат сталасці, які даваў права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

[15] Радыкальна-сацыялістычная палітычная партыя, якая існавала з чэрвеня 1926 па люты 1931 г. Са студзеня 1929 г. знаходзілася пад уплывам камуністаў і з'яўлялася легальнай прыбудоўкай да камуністычнай партыі Польшчы (Інфармацыя А. Сідарэвіча).

[16] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 54.

[17] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 55, 55 ap.

[18] Янка Брыль (1917–2006) — народны пісьменнік БССР (1981), аўтар аповесці «Ніжнія Байдуны» (1975).

# РАЗДЗЕЛ 7

У «Зорным спеве» У. Калесніка чытаю:

«...чацвёртага лютага 1934 года... лукішскі наглядчык Аляксандр Трухан знайшоў у вентыляцыйных люках 175 камеры тайную перапіску палітвязняў, так званыя “грыпсы”. Там былі перапісаныя песні “Мы пожара всемирного пламя”, “Слезами залит мир безбрежный” і фрагмент паэмы “Як бог гуляў на ігрышчы”...»

Правільнасць назвы згаданай У. Калеснікам паэмы я ўдакладню пазней...

А вось як пра гэты выпадак напісаў Максіму Танку 4 лістапада 1961 года Ёнас Каросас:

«...1934.2.17 тюремный сторож Трухан Александр в камере 175, в которой сидели студент Фейгенберг Давид и Фейгельман Ицек, в вентиляции под парашкой нашли[1] грипсы...»[2]

У прыведзеных урыўках супадае нумар камеры, імя і прозвішча наглядчыка, і тое, што́ ён знайшоў, а менавіта — грыпсы, і дзе́ знайшоў — у вентыляцыі; урэшце, супадае год — 1934-ы, супадае месяц — люты, аднак жа не супадае дзень.

Ёсць і яшчэ несупадзенне, але яно малаістотнае — скажам, У. Калеснік пералічыў назвы грыпсаў, але не назваў імёны вязняў 175-й камеры, а Ё. Каросас якраз наадварот — імёны вязняў гэтай камеры назваў, але не пазначыў загалоўкі грыпсаў.

Аднак жа сапраўды — гэтае несупадзенне малаістотнае ў параўнанні з тым, што не супаў дзень канфіскацыі тайнай перапіскі.

У. Калеснік піша пра 4-га, Ё. Каросас пра 17-га, а грыпсы былі знойдзены 14-га чысла.

Цяжка сказаць, на якія дакументы абапіраўся У. Калеснік, калі пісаў пра 4 лютага; лягчэй растлумачыць, чаму памыліўся Ё. Каросас.

Ён, пэўна ж, чытаў рапарт, складзены ад імя начальніка турмы і накіраваны пракурору Віленскага акруговага суда[3];

думаю, што дзень напісання рапарта — 17 лютага — міжвольна быў прыняты Ё. Каросасам за той дзень, калі былі знойдзены злашчасныя паперкі.

Між тым у рапарце цвёрда гаварылася: грыпсы (усяго пяць) Трухан знайшоў менавіта 14 лютага, за што вязняў камеры нумар 175 на чатыры тыдні пазбавілі права атрымліваць харчовыя пасылкі.

Гэты ж дзень (14 лютага) адзначае ў сваім наказе і Пятроўскі, калі праз два тыдні, 28 лютага, даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела вывучыць грыпсы і выявіць, хто з'яўляецца іхнім аўтарам[4].

І ў сваім пазнейшым «узасадненні»[5], якое злажыў 28 верасня 1934 года, ён зноў жа называе 14 лютага як дзень выяўлення ў 175-й камеры забароненых рукапісаў[6]...

12 красавіка 1934 года Пятроўскі, паўтарыўшы сваё ранейшае распараджэнне, паставіў перад кіраўніком следчага аддзела больш акрэсленую задачу:

1. Узяць узор почырку І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга.

2. Правесці графалагічную экспертызу, каб знайсці аўтара (ці аўтараў) грыпсаў.

3. Дапытаць як сведку дазорца Трухана[7]...

У той жа дзень, 12 красавіка, Трухан з'явіўся да Тадэвуша Пладоўскага[8], які ўжо вырас у старшага пастарунковага следчай службы.

Карэнны віленчук, трыццацігадовы Трухан жыў на вуліцы Вітольдавай, у 42-м доме займаў 9-ю кватэру; пісаўся палякам, хадзіў да касцёла і ніколі не быў пад судом; чалавек яшчэ малады, але *забыўлівы*, і гэта акалічнасць вельмі важная для ўсёй справы!

Дазорац паказаў: у лютым 1934 года аднаго (?) дня ён праводзіў агляд камеры нумар 175; заўважу: мінула ўсяго два месяцы, а ён ужо не мог успомніць, што аглядаў названую камеру менавіта 14 лютага...

Паводле Трухана: вязняў у камеры не было, — Д. Фейгенберг знаходзіўся ў судзе (запомнім гэта!), а І. Фейгельман на шпацыры (таксама запомнім!).

Дык вось, у пустой кутузцы турэмны вартаўнік выпараў з вентыляцыйнай продухі жмут папер і сярод іх знайшоў пяць грыпсаў, а таксама ж картку з надпісам «Давыд Фейгенберг» (такія карткі з прозвішчамі вязняў звычайна ўкладваліся ў кошык з ядой, якую прыносілі ў турму родныя зняволеных).

У сваім пратаколе Пладоўскі адзначыў: у час допыту, каб спраўдзіць, тая картка ці не, ён не здолеў паказаць Трухану картку з надпісам «Давыд Фейгенберг», бо яна недзе згубілася[9]!

Камічная дэталька!

На паказаныя ж пяць грыпсаў Трухан сказаў, што гэта менавіта тыя грыпсы, якія ён выявіў у лютым (!) 1934 года ў камеры І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга...

Тады ж, 12 красавіка, узялі ўзор почырку і дапыталі ў якасці западозраных і вязняў 175-й камеры...

Студэнт Універсітэта Стэфана Баторыя, сын Гірша і Рахілі Давыд Фейгенберг нарадзіўся ў Вільні ў 1910 годзе, жыў на вуліцы Вакзальнай, дом 11, кватэра 10, з'яўляўся памочнікам дырыжора, а ў турме апынуўся паводле знакамітага артыкула 97, параграф 1...

Пра пяць грыпсаў, якія ляжалі на стале Пладоўскага, вязень сказаў: «Бачу іх упершыню!»

Даў яшчэ і такое тлумачэнне: гэта сам Трухан паведаміў яму, што знайшоў у вентыляцыі нейкія паперы і, хаваючы іх за спінай, спытаўся: «Гэтыя грыпсы ты пісаў?» — а ён, вязень, адказаў, што ніякіх грыпсаў не пісаў і наогул не мог бачыць, што канкрэтна хавае ад яго дазорац[10]...

Гэта паказанне якраз і выяўляе «арыгінальнасць» памяці Трухана.

Аказваецца, падчасператрусу Д. Фейгенберг знаходзіўся не ў судзе, як сведчыў Трухан, а ў сваёй камеры...

І з І. Фейгельманам Трухан памыліўся, даводзячы, што быў ён (памятаем!) на шпацыры, аднак жа І. Фейгельман у той час, калі ў камеры трусілі, чытаў у судзе акты сваёй справы...

Як і яго таварыш па няшчасці, І. Фейгельман таксама заявіў Пладоўскаму: згаданыя пяць грыпсаў не пісаў і не ведае, хто іх напісаў і схаваў у вентылятары[11]...

Чалавек веры Майсеевай, сын Лейбы і Сары Іцак Фейгельман жыў у мястэчку Лужкі Дзісенскага павета — як, дарэчы, і доктар Усевалад Шыран.

Нарадзіўся Іцак у 1903 годзе, скончыў тры класы гімназіі, сем гадоў рабіў у лесе, а 22 лютага 1934 года (тыдзень мінуў, як Трухан знайшоў грыпсы!) Віленскі акруговы суд на выязной сесіі ў Глыбокім засудзіў Іцка на чатыры гады турмы ўсё па тым жа артыкуле і параграфе: 97-1...

Заўважу: тую выязную сесію ўзначальваў віцэ-старшыня Бжазоўскі, і гэта на яго вачах 27 студзеня 1936 года Сяргей Прытыцкі[12] страляў у Якуба Стральчука.

Разам з І. Фейгельманам Бжазоўскі засудзіў у Глыбокім і Браніслава Лагуна, жыхара Германавіцкай гміны, якога Максім Танк згадваў гэтак:

«...аднойчы на Лукішках, пасля чарговай галадоўкі, прыйшоў пракурор і пытае ў палітвязня Лагуна з Лужкоў: "Якія маеце просьбы?" А той, згодна з пастановай турэмнага камітэта, адказаў: "Просьбаў не маем, маем пастуляты". А пракурор, бачачы, што перад ім просты вясковы хлопец, пытае: "А што такое — пастуляты?" — "Я вам не буду тлумачыць, — адказаў той, — у нас ёсць агульны прадстаўнік палітвязняў — вы ў яго і пытайцеся..." Толькі калі выйшаў пракурор, Лагун звярнуўся да нас: "Сапраўды, што такое "пастуляты"?»[13]

Так, Браніслаў Лагун паходзіў з Лужкоў, адкуль (паўтаруся) і доктар Усевалад Шыран, і, як вышэй адзначана, вязень Іцак Фейгельман, і (асабліва падкрэслю!) знакаміты Эліэзэр Бен-Йехуда — геній, які адрадзіў іўрыт.

Што й казаць, багатыя нашы Лужкі на вынаходлівых людзей!

А ўжо вяртаючыся непасрэдна да свайго апавядання, скажу: на Браніслава Лагуна і Яўгена Скурко была заведзена агульная справа[14].

У пратаколе ўзору почырку І. Фейгельман па-расійску (па-польску пісаць не ўмеў!) вельмі прастадушна аднатаваў:

«...был под судом за коммунистическую деятельность... Отсидел... семь месяцев ... сидеть еще три года и пять меся-

цев. Отец умер в 1927 году в лесу от болезни склероза сердца. Находясь в тюрьме, никакой деятельности не совершаю...»[15]

З увагі на тое, што І. Фейгельман па-польску не піша, графолаг (ён жа і пратакаліст!) Ігнацы-Леан Другаль папрасіў вязня вывесці ў пратаколе ўсе літары расійскага алфавіта, прычым двойчы (вялікія і малыя), а таксама ўсе арабскія лічбы (рымскія чамусьці не трэ было!), і нават загадаў накрэсліць габрэйскія літары (іхні пісьмовы варыянт).

Д. Фейгенберга, дарэчы, выводзіць габрэйскія пісьмовыя знакі Другаль не прымушаў — толькі расійскія плюс арабскія лічбы, зноў жа без рымскіх, і прапанаваў па-расійску і па-польску напісаць некалькі біяграфічных радкоў[16]...

Выконваючы пракурорскае распараджэнне, 27 красавіка 1934 года супрацоўнікі следчага аддзела дзяржаўнай паліцыі места Вільні ўжо вядомы нам Пладоўскі і пратакалістка-машыністка старшы пшадоўнік Яніна Падгайская зрабілі агляд рэчавых доказаў са справы № XIII.DS.105/34[17], пераклалі грыпсы на польскую мову, падрабязна іх апісалі і склалі пратакол (тры поўныя друкаваныя старонкі і трынаццаць радкоў на чацвёртай старонцы)[18].

Скажу наперад: 15 верасня 1934 года Пятроўскі пастанавіў: апісаныя ў пратаколе прадметы далучыць да справы Яўгена Скурко ў якасці рэчавых доказаў[19].

Вось гэтыя прадметы:

1. Рэвалюцыйная песня на расійскай мове «Мы пажару сусветнага полымя...» — крэслена атрамантам на кавалачку паперы, вырванай з акта абвінавачання Віленскага акруговага суда; апошнія радкі чытаюцца цяжка.

2. Верш на расійскай мове «Слязамі заліты свет бязмежны...» — напісаны стылізаваным почыркам на бібуле.

3. Верш па-беларуску «Як бог гуляў на вечарыне», які мае падзагаловак: «Паэма Апостала»; рукапіс на разлінеенай паперы, выдзертай, пэўна, з нататніка; на чацвёртай старонцы намаляваны Бог і падпісана: «Бог палошча галіфэ».

4. Польскамоўны тэкст «З газеты. Дварчанін...» — выведзены атрамантам на белай паперы ў клетку і завершаны іншым

чарнілам і таксама іншай рукой : «...з “Кур’ера Віленскага” ад 26 студзеня 1934 г. Цытаты ўзяты з брашуры ЦК КПЗБ...»

Пра гэты пункт варта сказаць паўней: сапраўды, тэкст спісаны з газеты «Кур’ер Віленскі»[20] — на яе 2-й старонцы змешчаны артыкул «Беларуская трагедыя ў Саветах», падпісаны літарай F.

Гэта крыптанім Францішка Аляхновіча[21]!

Ф. Аляхновіч паведамляў: у Вільні з’явілася камуністычная брашурка, у якой надрукаваны «прызнанні» І. Дварчаніна, С. Рака-Міхайлоўскага[22], М. Бурсевіча[23], М. Кахановіча[24]; беларускія палітыкі «прызналіся» ў тым, што супрацоўнічалі з польскай палітычнай паліцыяй...

Іхнія «прызнанні» (дзікунская творчасць сталінцаў!) і склалі змест грыпса «З газеты. Дварчанін...», мэта якога (і брашуркі наогул) — зганьбіць у вачах лукішскіх вязняў вядомых беларусаў.

Вось, напрыклад, што ўкладзена ў вусны М. Бурсевічу:

«Я быў тайным агентам польскай дэфензівы ў чэрвені[25] 1926 г. Даваў звесткі аб тым, што робіцца ў “Грамадзе”, а таксама ў КПЗБ. За гэта штомесяц мне плацілі да самага майго арышту ў студзені 1927 г. 300 злотых. Дэфензіва абяцала дапамагаць маёй сям’і на працягу майго знаходжання ў турме. І сапраўды, Дварчанін амаль кожны месяц выплачваў маёй сям’і 150–200 злотых. У 1930 г. у Вільні падчас нарады пастанавілі: калі пачнецца польска-савецкая вайна, а яна планавалася на восень 1933-га або на вясну 1934 года, то я разам з Ракам-Міхайлоўскім, Мятлой[26] ды іншымі павінен быў падрыхтаваць у БССР усё, каб вынік вайны быў на карысць Польшчы...»

Ф. Аляхновіч, вядома ж, спачувае нашым палітыкам і не верыць, што, напрыклад, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, доктар філасофіі Ігнат Дварчанін быў шпіком, аднак жа гэтыя спачувальныя развагі ў грыпсе апушчаны...

А вось як ацэньвала правакацыю камуністаў газета «Родны край» (выданне Таварыства беларускай асветы); 25 студзеня — на дзень раней, чым «Кур’ер Віленскі», — «Родны край» пісаў на першай старонцы ў артыкуле пад сімвалічнай назвай «Савецкі паход проці беларусаў»:

«...У Менску арыштаваны... Дварчанін, Гаўрылік[27], Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын[28], Кахановіч, Бурсевіч... КПЗБ выдала брашуру, у якой “апраўдывае” арышты памянёных дзеячоў, ілжыва закідаючы ім, быццам яны супрацоўнічалі з польскай дэфензівай дзеля паняволення беларускіх сялян і работнікаў...»[29]

І ў тым жа нумары, але ўжо на трэцяй старонцы ў артыкуле «Бяспрыкладная правакацыя» «Родны край» працягваў:

«...падлейшае правакацыі, чым гэная брашура, свет хіба не бачыў... правакатары падаюць нябылыя гутаркі Луцкевіча з Пілсудскім, укладаючы ў іх вусны свежа выдуманыя планы паняволення беларускага народа Польшчай...»[30]

Я зусім не збіраюся тыкаць у вочы маладому хлопцу Яўгену Скурко: ага, пашыраў у Лукішках бальшавіцкую хлусню!

У перакручаных абставінах перакручваецца й душа!

Паспрабуй разабрацца — дзе хлусня, а дзе праўда, калі хлусня ў палітыцы заўсёды йдзе з усіх бакоў!

Лепей наогул засцерагчыся ад палітыкі, аднак жа юнак паставіў сябе ў такія варункі, што засцерагчыся было ўжо немагчыма...

Апошні, пяты «прадмет», далучаны да справы Яўгена Скурко, — спіс турэмнай ежы, складзены па-расійску.

Гэты грыпс на польскую мову не пераклалі і падрабязна не апісалі; у пратаколе сказана толькі: дакумент накрэслены алоўкам на папяроснай гільзе.

Я паспрабаваў расчытаць яго і даведаўся: на адным баку раскручанай гільзы пазначаны стравы на чатырнаццаць дзён — з нядзелі і да нядзелі, і да суботы наступнага тыдня; на другім жа баку названа ежа на дзесяць дзён — з нядзелі і да нядзелі, і да аўторка наступнага тыдня; далей рукапіс не чытаецца...

На Лукішках у нядзелю кармілі фасоляй і заціркай, у панядзелак — капустай і крупамі (у іншыя панядзелкі давалі гарох), у аўторак частавалі гарохам і морквай, здаралася — капустай, фасоляй і грэчкай, у сераду — гарохам, буракамі і крупамі, у чацвер — фасоляй і крупамі (маглі прынесці і моркву), у пятніцу — крупамі і капустай (бывалі пятніцы і з селядцамі), у суботу — гарохам і бручкай.

Але чамусьці ні слова пра бульбу і нічога не гаварылася пра мяса і хлеб?!

Хлеб, вядома, давалі — ранкам прыносілі чатырыста грамаў (на дзень гэта неблагая норма!); вязні знаходзілі хлеб і ў мопраўскіх[31] падаянках, і не толькі хлеб — масла, сала, цукар, махорку, свечкі.

Не ўсе словы ў пятым «прадмеце» (а гэта зусім дробны рукапіс) ясныя, нават лупа не памагла разабраць іх, таму дапускаю — магчыма, у нечытэльных радках пісалася якраз пра бульбу, мяса і хлеб...

---

[1] Так у лісце. Вядома ж, трэба чытаць не «нашли», а «нашел».

[2] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), ф. 25, воп. 6, спр. 81, с. 30.

[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 30.

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 31.

[5] Узасадненне (*польск.* uzasadnienie) — абгрунтаванне.

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 63 ap.

[7] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 32.

[8] Вышэй адзначалася, што 27 траўня 1932 года віцэ-пракурор Д. Пятроўскі ў прысутнасці пастарунковага следчай службы Тадэвуша Пладоўскага ўзяў у Максіма Танка ўзор почырку.

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 34, 34 ap.

[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 33 ap.

[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 33.

[12] Сяргей Прытыцкі (1913–1971) — дзяржаўны дзеяч БССР, у маладыя гады — актывіст камуністычнага падполля ў Заходняй Беларусі.

[13] «Лісткі календара», запіс ад 23 лютага 1938 г.

[14] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 4.

[15] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 37.

[16] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 38.

[17] Справа І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга.

[18] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 35, 35 ap, 36, 36 ap.

[19] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 43.

[20] 1934. № 24, 26 студз., пт.

[21] Францішак Аляхновіч (1883–1944) — беларускі драматург, быў арыштаваны АДПУ і шэсць гадоў правёў на Салаўках, аўтар шырока вядомай кнігі «У кіпцюрах ГПУ» (1937).

[22] Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885–1938) — палітычны дзеяч, намеснік старшыні Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), напісаў музыку на верш М. Багдановіча «Раманс» («Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»). С. Рака-Міхайлоўскага расстралялі сталіністы.

[23] Максім Бурсевіч (1890–1937) — заходнебеларускі дзеяч, кіраўнік Цэнтральнага Сакратарыята БСРГ, расстраляны сталіністамі.

[24] Міхал Кахановіч (1882–1934) — заходнебеларускі палітык, дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, знішчаны сталіністамі.

[25] Той, хто рабіў фальшыўку, відочна памыліўся, бо сэнс вымагаў напісаць не «ў чэрвені», а «з чэрвеня».

[26] Пятро Мятла (1890–1936) — дзеяч антыпольскага руху ў Заходняй Беларусі, уваходзіў у БСРГ, знішчаны ў сталінскім лагеры.

[27] Язэп Гаўрылік (1893–1937) — адзін са стваральнікаў у Заходняй Беларусі палітычнай арганізацыі «Змаганне», расстраляны чэкістамі.

[28] Павел Валошын (1891–1937) — адзін з заснавальнікаў БСРГ, расстраляны ў Савецкім Саюзе.

[29] 1934. № 2 (27), 25 студз.

[30] Тамсама.

[31] Ад абрэвіятуры МОПР — «Международная организация помощи революционерам».

# РАЗДЗЕЛ 8

А тым часам лукішская служба не спала.

У лісце Ё. Каросаса (тым самым, ад 4 лістапада 1961 года) ёсць абзац:

«...1934.4.30 во время обыска в связи с 1 Майем[1] у Лагуна Бр. в кармане был найден грипс...»[2]

Сапраўды, 30 красавіка 1934 года аспірант турэмнай аховы Тадэвуш Бараноўскі, абшукваючы 162-ю камеру, знайшоў у вязня Браніслава Лагуна грыпс на польскай мове.

Засуджаны на пяць гадоў паводле артыкулаў 97 і 93, Лагун чакаў перагляду сваёй справы ў апеляцыйным судзе...

5 траўня 1934 года начальнік турмы Ян Чакала на жоўтай неразлінеенай паперы машынапісна паведаміў пра знаходку пракурору Віленскага акруговага суда, адзначыўшы: вязня Лагуна за хаванне грыпса на тры тыдні пазбавілі права мець харчовыя пасылкі...[3]

Параўнаю: за гэткую ж правінку вязняў 175-й камеры пакінулі без хатняй яды не на тры, а на чатыры тыдні; пэўна, так сталася таму, што ў 175-й знайшлі ажно пяць грыпсаў.

А вось раней за такое каралі слабей: так, 20 лютага 1926 года за напісанне трох старонак у справе стварэння турэмнага камітэта вязень Ісер Мільнер быў пазбаўлены спатканняў і хатняга харчу ўсяго толькі на сем дзён...

Нейкі час Браніслаў Лагун сядзеў у адной камеры з Яўгенам Скурко і Янам Гарэлічонкам, а грыпс, выяўлены аспірантам Бараноўскім[4], заклікаў да гвалтоўнай змены палітычнага ладу ў Польшчы і называўся «Дзень 1-га Мая».

Цікава, менавіта 1 мая (1 траўня) была перагледжана справа Серафіма Лавора, Яна Гарэлічонка, Сяргея Скурко, Міхала Хвалько, Мікалая Сіцько і Яўгена Скурко.

Паводле У. Калесніка:

«...Віленскі апеляцыйны суд... перагледзеў справу. Танку далі два гады турмы ўмоўна... Праседзеўшы год на Лукішках, 1 мая 1934 года Максім Танк выйшаў на волю...»

Разам з ім выпусцілі і Мікалая Сіцько, які, як высветлілася, быў канфідэнтам!

Аналізуючы гэты факт, Анатоль Сідарэвіч[5] сказаў: такая была практыка, канфідэнта заўсёды выпускалі разам з падпольшчыкам, каб у вачах падполля цень недаверу падаў на іх вызваленага таварыша...

А гісторыя з названым канфідэнтам вартая асобнага апавядання!

Сын Антона і Марыі Мікалай Сіцько з'яўляўся жыхаром вёскі Малыя Эйсмонты Мала-Бераставіцкай гміны Гродзенскага павета.

У выраку акруговага суда сказана: Сіцько арыштавалі 12 траўня 1933 года[6], а ў выраку апеляцыйнага суда — 12 траўня 1932 года[7].

Памылка ці гаворка пра два розныя арышты?

Магло быць і два!

Яўгена ж Скурко за гэты час двойчы бралі пад варту; нагадаю: 29 красавіка 1932 года і 27 траўня 1933-га!

Аднак жа калі паверыць у версію, што Сіцько арыштоўвалі два разы, то выходзіць, другі раз яго ўзялі роўна праз год (ну, проста дзень у дзень!) — 12 траўня!

Такое магчыма?

Магчыма.

Аднак жа дакумента, з якога вынікала б, што так і было, у мяне няма, таму думаю: Сіцько бралі ўсё ж такі адзін раз, і менавіта 12 траўня 1933 года.

Тут, хутчэй за ўсё, памыліўся пратакаліст апеляцыйнага суда (нейкі стажор Дабкус), бо інакш выходзіць: канфідэнт паўтара года чакаў у камеры разгляду сваёй «справы» ў акруговым судзе, а калі ўзяць пад увагу разбор у апеляцыйнай інстанцыі, то бедны памочнік паліцыі цярпеў усе два гады!

Нешта не верыцца ў гэта, а больш верыцца ў тое, што па загаду свайго камісара Антоні Лабяка Сіцько адседзеў без двух тыдняў год.

Але як бы там ні было, усё адно шкада яго, дзевятнаццацігадовага...

Кажучы тагачаснай судовай мовай, са студзеня 1932-га і Сіцько ўзяў (!) удзел у змове пад назвай «Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі», за што й быў «пакараны» 7 лістапада 1933 года на тры гады турмы[8].

У сваёй апеляцыйнай скарзе Сіцько прасіў, каб яго апраўдалі, і прызнаўся, што быў функцыянерам следчага аддзела ў Наваградку і меў заданне ад камісара Лабяка ўвайсці ў давер да камуністаў, а калі атрымаецца, то ўступіць і ў кампартыю[9].

У яго, вядома ж, спыталіся, чаму раней не прызнаўся ў гэтым.

Бедны Сіцько тлумачыў:

— У акруговым судзе я пра гэта не заявіў, бо тады на разбор не з'явіўся камісар Лабяк!

Наіўнае тлумачэнне!

Сіцько ў сваю абарону раней нічога не сказаў, бо, хутчэй за ўсё, меў цвёрды загад маўчаць і ў якасці інфарматара заставацца за кратамі.

А калі зрабіў сваю работу, і, мусіць жа, удала, яго «пашкадавалі», — дазволілі ў судзе вышэйшай інстанцыі «прызнацца».

Вось тады й камісар Антоні Лабяк прыйшоў у гэту інстанцыю...

Янка Брыль у тым жа сваім нарысе «Сэрца камуніста» пісаў пра Лабяка, што ён не проста начальнік ваяводскай дэфензівы ў Наваградку, а вядомы кат...

Дык вось, як сведка Лабяк паказаў: сапраўды, Сіцько дапамагаў наваградскай следчай управе; звесткі, якія здабываў ён, былі каштоўныя; самога ж яго не назавеш зацятым камуністам (велікадушна тлумачыў камісар!), бо Сіцько ўвайшоў у кампартыю з ведама паліцыі, і ў такім сваім званні мог мець і нелегальную літаратуру, якую да свайго арышту проста не паспеў перадаць уладзе...

Мусіць жа, гаворка тут і пра тыя камсамольскія цыркуляры, якія 27 красавіка 1932 года выявіў у Вільні на Букавай, 14 пшадоўнік Леан Гансяроўскі...

І нейкі Бітнер (таксама сведка) далажыў: Сіцько пачаў супрацоўнічаць з паліцыяй прыблізна з канца 1930 года, і

для яго, Бітнера, няма нічога дзіўнага ў тым, што Сіцько як інфарматар належаў да КПЗБ[10]...

А калі так, калі прыналежнасць да КПЗБ несапраўдная, калі няма доказаў адносна ідэйнай далучанасці да камуністаў, то суд пастанавіў: Мікалая Сіцько апраўдаць!

Не лішне заўважыць: сістэма польскага суда не заўсёды была накіравана на абвінаваўчы прысуд!

Тут яшчэ цікава і тое, што пасяджэнне вялося адкрыта і ўсе даведаліся, хто ён такі, Мікалай Сіцько!

Але няўжо дэфензіва не магла нішкам вызваліць свайго агента, каб і надалей скарыстоўваць яго ў аператыўнай рабоце?

Вядома ж, магла і нішкам, але мэту мела іншую: выставіць з нядобрага боку Яўгена Скурко — то-бок апраўдаць яго разам са сваім памагатым і выпусціць з турмы ў адзін і той жа дзень!

Няхай зласліўцы тады паціраюць рукі: ага, дык жа выпусцілі з дэфензіўшчыкам!

Дарэчы, калі ў траўні 1933-га Яўгена Скурко затрымалі ў Глыбокім, то пры ім знайшлі фота Мікалая Сіцько[11]!

Даволі сімвалічная знаходка...

1 траўня 1934 года 1-ы крымінальны аддзел Віленскага апеляцыйнага суда засядаў у складзе: старшыня — Ядзевіч, суддзі — Ільін і Матусевіч, а пратакаліст, імя якога ўжо згадвалася, — стажор-юрыст Дабкус; пасяджэнне адбывалася ў прысутнасці віцэ-пракурора Гвірыні[12]...

Удакладню пастанову ў дачыненні да Яўгена Скурко: два гады турмы з адтэрміноўкай выканання прысуду на пяць гадоў і 120 злотых судовых выдаткаў; прычым у пастанове падкрэслена: такой кары дастаткова, каб у будучым Яўген Скурко не ўчыніў новае злачынства[13]!

Пашанцавала юнаку!

З шасці адседзеў толькі год, і год гэты дакументальна не зусім нават ясна акрэслены[14]...

Сяргею Скурко шэсць гадоў зменшылі да трох, С. Лавору пакінулі шэсць; Я. Гарэлічонку і М. Хвалько таксама пакінулі ранейшыя 5 гадоў[15]...

Так, сябры паэта засталіся за кратамі, і за дзве інстанцыі (акруговую і апеляцыйную) з Сяргея Скурко спаганялі

240 злотых, а з М. Хвалько, С. Лавора і Я. Гарэлічонка па 960 — з кожнага[16]!

Грошы вялікія!

А от з Мікалая Сіцько, што вельмі цікава, гэтым разам не ўзялі ні капейкі — свой чалавек!

Словам, у каго якая доля...

---

[1] Так у тэксце пісьма.

[2] БДАМЛІМ, ф. 25, воп. 6, спр. 81, с. 30.

[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 1.

[4] Імя і прозвішча аспіранта накрэслены алоўкам наўскос на рапарце Чакалы.

[5] Анатоль Сідарэвіч (1948) — беларускі гісторык, аўтар навуковых прац і мноства артыкулаў; даследуе жыццё і дзейнасць Антона Луцкевіча.

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 55 ap.

[7] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 57.

[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 55.

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 57 ap.

[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 58.

[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 7.

[12] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 56.

[13] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 58 ap.

[14] Пра пэўную няяснасць у жыццяпісе Максіма Танка пісаў паэт Мікола Арочка, і пра гэта гаворка яшчэ будзе.

[15] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 58.

[16] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 57 ap.

# РАЗДЗЕЛ 9

Дык вось, паэт пакінуў крэпасць 1 траўня 1934 года, а праз два тыдні, 13-га чысла, Я. Гарэлічонак (зноў жа ахвяра 97-га артыкула) падаў Пятроўскаму заяву (усё тая ж палова зжоўклай старонкі ў клетку), у якой прасіў дазволу падпісацца на газету «Слова» або на «Газету Варшаўску»[1].

Заяву сваю Я. Гарэлічонак пісаў ужо не ў 162-й камеры[2], а ў 188-й, якая знаходзілася ў першым лукішскім «павільёне»...

У «Лістках календара» ёсць такія спачувальныя радкі:

«...Вечарам пайшоў да Мажуцаў. Сустрэў у іх бацьку... Гарэлічонка. Стары бедаваў, што сына яго на Лукішках зусім скавала экзэма. Ходзіць, казаў, увесь абкручаны бінтамі, толькі вочы блішчаць. З... Гарэлічонкам я некалькі месяцаў сядзеў у 89-й камеры. Ён ужо тады быў цяжкахворы. Ад сырых і сцюдзёных астрожных муроў у нас ва ўсіх балелі і пухлі суставы пальцаў...»[3]

Паўтаруся: Я. Гарэлічонак падаў заяву на імя Пятроўскага; аналагічнае прашэнне Максім Танк пісаў следчаму, і ўжо той перасылаў яго Пятроўскаму.

На адвароце заявы Я. Гарэлічонка начальнік турмы 15 траўня, як мае быць, прыпісаў, што вязень салідарызуецца з камуністамі, і ўжо назаўтра дакумент апынуўся ў віцэ-пракурора[4]...

А перад гэтым, 14 траўня, Пятроўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела расследаваць справу Браніслава Лагуна і Яўгена Скурко № XIII.DS.279/34[5].

Грыпс, выяўлены ў Б. Лагуна, Пятроўскі адразу ж звязаў з асобай паэта і загадаў:

1. Распытаць дазорца, які знайшоў грыпс.

2. Даследаваць грыпс.

3. Узяць узор почырку ў западозранага Яўгена Скурко.

4. Правесці графалагічную экспертызу, каб вызначыць, ці напісаны гэты грыпс Яўгенам Скурко[6]...

Каб ход экспертызы зрабіць лягчэйшым, Пятроўскі прыклаў да свайго загаду заяву ад 16 ліпеня 1933 года — тую самую, у якой паэт прасіў дазволіць яму выпісаць «Глос Вільна».

Пракурорская выснова была простая: калі падазрэнне пацвердзіцца, тады Яўгена Скурко затрымаць, даставіць да судовага следчага 2-й Віленскай акругі, дапытаць і ўжыць меру стрымання — часовы арышт на два месяцы...[7]

Такія клопаты былі ў Пятроўскага 14 траўня, калі ён пачынаў справу № XIII.DS.279/34, а праз два дні, 16-га чысла, як ужо адзначалася, ён атрымаў заяву Я. Гарэлічонка.

Настрой у санацыйнага рупліўца відавочна змяніўся; ён пасылае кіраўніку Віленскага следчага аддзела новы ліст, якім часткова скасоўвае сваё распараджэнне адносна затрымання Яўгена Скурко і пераключае ўвагу следчага аддзела на вязня Я. Гарэлічонка — загадвае ўзяць узор почырку ў яго і правесці графалагічную экспертызу, каб даведацца, ці не ён аўтар рукапісу «Дзень 1-га Мая»; да свайго загаду, зноў жа дзеля паскарэння ходу экспертызы, прыклаў вышэйзгаданую заяву Я. Гарэлічонка[8].

Тут можна сказаць, што гэтай сваёй заявай, такім зразумелым жаданнем чытаць у камеры газеты, Я. Гарэлічонак нібыта нагадаў віцэ-пракурору пра сябе, нібыта справакаў яго на вышэйадзначанае дзеянне.

Акуратны і ўнiклівы ў рабоце, Пятроўскі не шкадаваў ні сябе, ні свайго часу — мог звярнуць горы!

Паводле анкеты: нарадзіўся ў 1900 годзе, сын Дамініка і Анэлі, каталік, несудзімы (!), жыхар дома 2, што на віленскім пляцы Магдалены, а перш за ўсё Пятроўскі — нястомны служка закону і майстар апавядаць...

У сакавіку 1928-га быў кіраўніком аддзела бяспекі Віленскага ваяводства і ў якасці сведкі выступаў на «Працэсе пяцідзесяці шасці»; на сёмы дзень знакамітага разбору, у панядзелак, 12 сакавіка, заявіў:

«...праграма “Грамады” заклікае да сацыяльных бітваў... “Грамада” — з’ява камуністычная і мае міжнародны характар... Паміж статутамі кампартыі і “Грамады” шмат агульнага! Скарыстоўваючы лозунг Камінтэрна і Крэстінтэрна “Тварам

да вёскі!", трэці з'езд польскай кампартыі пастанавіў арганізаваць беларускі вызваленчы рух! А КПЗБ усё зрабіла, каб знішчыць групу Ярэміча і Рагулі і падтрымаць "Грамаду"...»

Паясню пра згаданую групу.

Беларускія палітыкі дэпутаты сейма Фабіян Ярэміч[9] і Васіль Рагуля[10] ў 1925 годзе стварылі антыкамуністычную партыю «Беларускі сялянскі саюз».

Вядома, іхняя партыя была варожа ўспрынята камуністамі, а таксама грамадоўцамі, якія, на жаль, у большасці сваёй знаходзіліся пад уплывам чырвонага Менска.

Ці не кожны дзень чытаючы агентурныя звесткі, Пятроўскі шмат ведаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый і з нейкага моманту тады, 12 сакавіка 1928 года, выступаў ужо як эксперт.

На гэта звярнуў увагу адвакат Смяроўскі; ён так і заявіў суду: сведка Пятроўскі прамаўляе як эксперт, а не як сведка, абарона ж сама здатная прааналізаваць праграму «Грамады».

Суд, параіўшыся, не прыняў пратэст адваката, і Пятроўскі працягваў:

«...рост "Грамады" — рост злачынства... У пяці паветах Віленскага ваяводства за бандытызм узята пад варту 257 асоб. Цэнтральны Камітэт "Грамады" тлумачыў павятовым сваім камітэтам, што злачынствы патрэбны дзеля справы!.. А яшчэ "Грамада" засылала сваіх агітатараў у войска і тым самым спрабавала дэмаралізаваць армію...»

Не баючыся інтэлігенцкіх папрокаў у юдафобіі, Пятроўскі страшыў публіку і тым, што ў акцыях «Грамады» бралі ўдзел габрэі.

З выснаў кіраўніка аддзела бяспекі ляцела:

«...на мітынгу ў віленскім кінатэатры "Геліёс" 8 жніўня 1926 года пасол Тарашкевіч выступіў з антыдзяржаўнай прамовай. Жыды-камсамольцы зладзілі Тарашкевічу авацыю і рушылі ў калоне па Вільні, спяваючы па-расійску "Інтэрнацыянал"...»

Пятроўскі паспяваў скрозь: скажам, абвінавачваў левых студэнтаў з Віленскага ўніверсітэта і першы дапытаў у шпіталі «Святога Якуба» Сяргея Прытыцкага.

27 студзеня 1936 года (дату гэту я называў ужо) С.Прытыцкі страляў у судзе ў канфідэнта, пры ўцёках быў цяжка паранены, і як толькі хірург Ахматовіч зрабіў яму аперацыю, то ў шпіталь тут жа прыехаў Пятроўскі разам з судовым следчым па справах выключнай важнасці Скіндарам.

Эксперт па камуністах Пятроўскі пракурорыў і ў сакавіку 1936-га на «Працэсе Малой грамады», калі судзілі Валянціна Таўлая[11], Піліпа Пестрака[12], Якуба Міско...

Пятроўскі (сын Дамініка!) умеў нагнаць страху, і Яўген Скурко (сын Дамінікі!) зусім невыпадкова згадаў яго ў самым пачатку (!) «Лісткоў календара»:

«Мне і сённяшні дзень трэба было б вырваць і знішчыць, хоць і шкада, бо ён быў запоўнены незвычайнымі сустрэчамі, думкамі, марамі. Але каб усё гэта не паслужыла пачаткам для новага опуса пана пракурора Д. Пятроўскага...»[13]

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 5.

[2] Вышэй адзначалася, што Я. Гарэлічонак сядзеў у 162-й камеры з Браніславам Лагуном і Максімам Танкам.

[3] Запіс ад 20 лютага 1935 г.

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 5 ap.

[5] Справа пачата 14 траўня 1934 г., а скончана 21 верасня 1934 г.

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 2.

[7] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 2 ap.

[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 4.

[9] Фабіян Ярэміч (1891–1958) — дэпутат польскага сейма, выдавец газеты «Сялянская ніва».

[10] Васіль Рагуля (1879–1955) — сенатар польскага сейма, аўтар кнігі «Успаміны» (Нью-Ёрк, 1957).

[11] Валянцін Таўлай (1914–1947) — беларускі паэт, дзеяч вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

[12] Піліп Пестрак (1903–1978) — беларускі паэт, празаік, інструктар ЦК КПЗБ, аўтар рамана «Сустрэнемся на барыкадах» (1951–1954).

[13] Запіс ад 7 студзеня 1935 г.

# РАЗДЗЕЛ 10

Пятроўскі падключыў да работы і вядомага нам Блесмановіча[1].

І вось Блесмановіч, ужо пшадоўнік следчага аддзела, выконваючы пракурорскае даручэнне, даў на вывучэнне графолагу Другалю ананімныя рукапісы — «Дзень 1-га Мая», «З газеты. Дварчанін...» і «Як бог гуляў на вечарыне»[2].

У пратаколе падкрэслена: грыпс «Дзень 1-га Мая» (напомню: канфіскаваны ў вязня Б. Лагуна) напісаны па-польску чорным атрамантам на шматку паперы ў клетку.

У сваёй «апініі»[3] Другаль даводзіў: грыпсы накрэслены вопытнай у пісарстве рукой, якая аднолькава ўпэўнена можа чытэльна і прыгожа выводзіць лацінскія і кірыліцкія літары; почырк старанна стылізаваны; тэмп крэслення вольны, графіка пісьмовых знакаў своеасаблівая, бо націск у пісьме «скача», ён даволі нераўнамерны — асобныя літары выведзены слабым націскам пяра, іншыя — нечакана моцным.

Графолаг звярнуў увагу і на такую асаблівасць: гарызантальныя рыскі ў рукапісах добра пазначаны, а рыскі вертыкальныя і кропкі ледзьве бачныя; літары ж створаны не адным неадрыўным рухам, а некалькімі рухамі — з адрывам пяра ад паперы.

Параўнаўшы графіку турэмных запісак з рукой Яўгена Скурко, графолаг выснаваў: тэхніка, дынаміка, такт почырку і напісанне асобных літар — аднолькавыя.

Нахіл почырку, частотнасць пропускаў паміж радкамі, структура і памер літар таксама аднолькавыя[4].

У якасці прыкладу графолаг падаў пісьмёны «M», «d», «D», «K», «k», «N», «W», доўгія літары «g», «y», «p», літары з гарызантальнымі рыскамі «ł», «t» і форму акругленняў у пісьмёнах «o», «a», «d»[5].

Як бачна, паэту не пашанцавала — ён быў злоўлены на гарачым!

Шчыра яго шкадуючы, не магу не здзівіцца майстэрству і бесстароннасці Другаля — графолаг з вуліцы Кошыкавай (у Вільні жыў на Кошыкавай, 14, кв. 1) трымаўся дакладнасці.

Скажам, калі Я. Гарэлічонак не пісаў грыпсаў, то Другаль у яго почырку ўбачыў толькі прыблізнае падабенства з почыркам грыпсаў.

А такое падабенства можна было ўбачыць у манеры пісьма любога вязня, бо грыпсы свядома стылізаваліся пад нейкую агульнаканцылярскую графіку.

Каб у яго заказчыкаў (Пятроўскага і Блесмановіча) канчаткова адпалі сумненні адносна ўдзелу Я. Гарэлічонка ў стварэнні падрыўной літаратуры, Другаль давёў: у рукапісах «Дзень 1-га Мая», «З газеты. Дварчанін...», «Як бог гуляў на вечарыне» і ў аўтографах Яўгена Скурко напісанне літар «а», «о», «d» пачынаецца пераважна з левага боку знака, а ў Я. Гарэлічонка пераважна з правага[6].

2 ліпеня 1934 года графолаг заключыў: прапанаваныя яму на экспертызу рукапісы накрэслены не Я. Гарэлічонкам, а Яўгенам Скурко[7], і ў той жа дзень на імя Пятроўскага падаў заяву, у якой прасіў заплаціць яму за работу дванаццаць злотых[8].

Назаўтра, 3 ліпеня, Блесмановіч, зноў жа выконваючы даручэнне Пятроўскага, папрасіў даследаваць пяць рукапісаў[9] са справы № XIII.DS.105/34[10].

Прысутнічала пратакалістка Падгайская.

Параўнаўшы рукапісы з пробамі пісьма І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга, Другаль выснаваў: грыпсы крэсліў не адзін чалавек!

Вядома ж, эксперт улічыў той факт, што польскамоўны тэкст «З газеты. Дварчанін...» завершаны іншым чарнілам і таксама ж іншай рукой; вышэй ужо адзначалася, што нейкі «рэдактар» (ці не агульны прадстаўнік палітвязняў!) да згаданага тэксту прыпісаў наступнае ўдакладненне: «...з “Кур’ера Віленскага” ад 26 студзеня 1934 г. Цытаты ўзяты з брашуры ЦК КПЗБ...»

У песні «Мы пажару сусветнага полымя...» і ў вершы «Слязамі заліты свет бязмежны...» эксперт убачыў адну руку[11], але не руку І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга.

Паэма «Як бог гуляў на вечарыне» і тэкст «З газеты. Дварчанін...» (пераканаўся Другаль) маюць той характар почырку, які зусім не ўласцівы пісьму вязняў 175-й камеры.

І толькі набор турэмных страў (графолаг зрабіў дапушчэнне), магчыма, занатаваны Д. Фейгенбергам[12].

Другаль заўважыў: пісьмо І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга вольнае ад стылізацыі, ад наўмыснага перакручвання літар — у вязняў той вуглаваты почырк, які ад прыроды ўласцівы габрэям[13]...

А ў заўвазе, у апошніх радках свайго стараннага водзыву, Другаль адзначыў: грыпсы «Як бог гуляў на вечарыне» і «З газеты. Дварчанін...» напісаў Яўген Скурко[14].

І гэтым разам адмысловец адпрацаваў як мае быць і ў той жа дзень, 3 ліпеня, склаў прашэнне на дзесяць злотых[15].

Дзве ягоныя просьбы Пятроўскі разгледзеў 13 верасня (праз два месяцы і дзесяць дзён) і пастанавіў: за першую экспертызу заплаціць восем злотых[16] (Другаль хацеў атрымаць дванаццаць!), а за другую столькі, колькі ён сабе і вызначыў — дзесяць[17]; у сваіх пастановах Пятроўскі прасіў старшыню Віленскага акруговага суда распарадзіцца адносна аплаты[18]...

Паралельна скажу: калегі Другаля мелі самыя розныя ганарары.

Віленскі графолаг Нікадэм Качор (з вуліцы Дамініканскай, 8) займаўся мікрафатаграфіяй, а ў сферы графалогіі і экспертыз быў прысяжным судовым экспертам.

16 красавіка 1932 года пан Качор даследаваў почырк Б. Тарашкевіча і за дзве гадзіны працы папрасіў у суддзі Булгака чатыры злотыя...

А 10 ліпеня 1934 года...

Заўважу, «значная» дата — якраз у Крамлі АДПУ пераніцавалі ў НКУС.

Пакуль яшчэ не ведаючы такой «слаўнай» навіны, у гэты дзень старшы пастарункова следчага аддзела дзяржаўнай паліцыі места Вільні Язэп Пясецкі ўзяўся выконваць заданне

ўсё таго ж Пятроўскага, заданне ад 14 траўня 1934 года — даследаваць грыпс «Дзень 1-га Мая».

Гэты старшы пастарунковы — яшчэ адна прыкметная постаць!

На працэсе, які вёўся ў студзені 1936-га супраць студэнтаў Віленскага ўніверсітэта, Пясецкі разам з Блесмановічам і Другалем быў у ліку сведкаў абвінавачання.

Яго згадвае ў сваёй аповесці «Было яно калісьці...» і Я. Міско, а Я. Грыгулевіч (сябра літоўскага бюро пры КПЗБ) называў Пясецкага спецыялістам па змаганні з камунізмам і намаляваў яго партрэт: «...мажны... меў мянушку “мядзведзь”... глядзеў спадылба... размаўляў ціха...»

Пясецкаму дапамагалі разбірацца з грыпсам «Дзень 1-га Мая» работнікі следчага аддзела Апалінары Мальчэўскі ды Ігнацы Бучкоўскі.

Да слова сказаць, Бучкоўскі разам з паліцыянтам Дайноўскім цяжка параніў С. Прытыцкага тады, у студзені 1936-га...

Дык вось, Пясецкі, Мальчэўскі і Бучкоўскі даследавалі толькі адзін (!) грыпс.

Можна падумаць: такім выбарачным кантролем правяралася праца Другаля!

Зрэшты, ні Пясецкі, ні ягоныя работнікі графолагамі не былі, іхняя «экспертыза» толькі да таго й звялася, што тэкст лістоўкі (камуністычны і з гэтай прычыны антыдзяржаўны!) быў акуратна без ніякіх каментарыяў перанатаваны ў пратакол ад першага да апошняга сказа — выйшла ад рукі тры старонкі і яшчэ на чацвёртай — чатырнаццаць радкоў[19].

Вось пачатак: «Дзень 1-га Мая, як дзень міжнароднага змагання пралетарыяту і салідарнасці, быў упершыню абвешчаны на 1-м кангрэсе 2-га Інтэрнацыянала ў Парыжы ў 1889 годзе...»

І апошнія радкі: «Супраць фашыстоўскай дыктатуры! За Польскую Савецкую Рэспубліку! ... Пад такімі лозунгамі будзе змагацца пралетарыят усёй краіны пад сцягамі Кам. Партыі...»

Такая палітграмата, пэўна ж, стварала вязням святочны настрой.

Цікава адзначыць: на першай старонцы лістоўкі ў правым ніжнім кутку рука невядомага чыноўніка вывела алоўкам прозвішча «Лагун» — напамін аб тым, у каго быў знойдзены недазволены тэкст...

---

[1] Нагадаю: у сакавіку 1932 г. старшы пастарунковы следчай службы Пятро Блесмановіч дакладваў па камандзе пра камсамольства Максіма Танка.

[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 9.

[3] Апінія (*польск.* opinia) — водзыў.

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 9 ap.

[5] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 10.

[6] Тамсама.

[7] Тамсама.

[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 24.

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 39.

[10] Справа І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга.

[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 39 ap.

[12] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 40.

[13] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 39 ap., 40.

[14] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 40.

[15] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 41.

[16] LCVA, f.129, ap. 2, b. 2227, l. 25.

[17] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 42.

[18] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 25 ap., 42 ap.

[19] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 7, 7 ap., 8, 8 ap.

# РАЗДЗЕЛ 11

Я ўжо згадваў дзень 15 верасня 1934 года, у які Пятроўскі далучыў да справы Яўгена Скурко грыпсы «Мы пажару сусветнага полымя...», «Слязамі заліты свет бязмежны...», «Як бог гуляў на вечарыне», «З газеты. Дварчанін...», спіс турэмнай ежы.

Тады ж, 15 верасня, Пятроўскі пастанавіў далучыць да гэтай справы і тэкст «Дзень 1-га Мая», бо ён, на думку абвінаваўцы, меў доказнае значэнне[1].

І зноў жа 15 верасня (!) Пятроўскі загадаў спыніць следства ў адносінах Б. Лагуна, Я. Гарэлічонка, І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга з прычыны адсутнасці іхняй віны (даказана ж — улёткі пісалі не яны); віноўнік (аўтар грыпсаў!) выяўлены — Яўген Скурко[2]...

15 верасня (які ўсё ж такі багаты дзень!) нястомны віцэпракурор працаваў і над іншымі дакументамі, пра якія абавязкова яшчэ згадаю...

Аднак жа і нястомным трэба адпачываць, таму (відаць, на месяц) Пятроўскага падмянілі, у ліпені на сцэну выйшаў эпізадычны персанаж — падпракурор А. Рашкоўскі.

Тады ж, у ліпені — 17 числа — узнікла данясенне № Р-3/397.

Спасылаючыся на яго, 27 ліпеня 1934 года Рашкоўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела ў залежнасці ад вынікаў вобыску даставіць Яўгена Скурко, западозранага ў аўтарстве недазволеных рукапісаў, у бліжэйшы суд, дапытаць і ўжыць меру стрымання — часовы арышт ці нагляд паліцыі[3].

У гэты ж дзень Рашкоўскі накіраваў паперу і ў 3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда — прасіў даслаць копію выраку ў справе Яўгена Скурко ад 6–7 лістапада 1933 года, а таксама ж копію выраку па той жа справе апеляцыйнага суда[4].

31 ліпеня на свой надрукаваны на машынцы зварот Рашкоўскі атрымаў рукапісны адказ: копію выраку акруговага суда даслаць немагчыма, бо акты той справы з прычыны

апеляцый засуджаных накіраваны былі 12 снежня 1933 года ў апеляцыйны суд і да гэтага часу не вернуты (пра копію выраку апеляцыйнага суда нічога не сказана)[5].

Ніякіх іншых зваротаў за подпісам Рашкоўскага ў мяне няма, але логіка падказвае: пасля гэтага ён павінен быў звярнуцца ў апеляцыйны суд...

Аднак жа да сваіх абавязкаў зноў прыступіў Пятроўскі; ва ўсякім разе, 18 верасня 1934 года дакументы, якія прасіў Рашкоўскі, леглі ўжо на стол Пятроўскага з прыпіскай: «У адказ на Ваша пісьмо ад 15.09.(!)1934 г. ...»

Бачыце, яшчэ адзін прыклад актыўнай дзейнасці Пятроўскага менавіта 15 верасня!

Пісьма за подпісам Пятроўскага, на якое тут спасляліся, я не знайшоў, але якраз яно прымусіла віцэ-старшыню Віленскага акруговага суда ў сваёй прыпісцы засведчыць, што ён «...дасылае ў дадатку копію выраку акруговага суда і копію выраку апеляцыйнага суда ў справе Яўгена Скурко...»[6]

Аднак з верасня вярнуся ў жнівень.

8 жніўня 1934 года кіраўнік Віленскага следчага аддзела падкамісар Пухальскі[7], выконваючы даручэнне Рашкоўскага ад 27 ліпеня, аддаў загад у павятовы камісарыят дзяржаўнай паліцыі ў Паставах — зрабіць вобыск і ўзяць пад варту Яўгена Скурко[8].

Заўважу: у даручэнні Рашкоўскага гаварылася не толькі пра арышт, але і пра мякчэйшую меру — нагляд паліцыі, бо форма пакарання залежала, падкрэсліваў падпракурор, ад вынікаў вобыску.

Аднак за гэты час, як бачна, з'явілася больш акрэсленае, мусіць, вуснае распараджэнне (ці не Пятроўскага?!) — арыштаваць! — і яно за подпісам Пухальскага і прыйшло ў Паставы 9 жніўня[9].

Праўда, павятовы камендант паліцыі падкамісар Людвік Манькевіч адразу не кінуўся выконваць тое распараджэнне; пэўна ж, чакаў яшчэ нейкага адмысловага загаду.

Манькевіч дачакаўся таго, што 13 жніўня ў Паставы, а тады ўжо і ў Мядзел прыбыў сам Пятроўскі і — што цікава — на адваротным баку распараджэння Пухальскага алоўкам накрэсліў

дзевяць хуткіх радкоў: Яўгена Скурко затрымаць, даставіць у Паставы да акруговага судовага следчага, а пасля допыту замкнуць у арыштанцкай[10]...

Магчыма, тады, 13 жніўня, Манькевіч і паслаў машынапісную тэлефанаграму № S3b/433 у Сваткі, у тутэйшы пастарунак.

Праўда, мінуў яшчэ тыдзень, пакуль рэпрэсіўнае кола закруцілася як след.

У ваяводстве (а значыць, і ў павеце) відавочна не спяшаліся — пэўна ж, да апошняга сачылі за хатай Скуркоў у Пількаўшчыне, спадзяваліся на большую здабычу: «А раптам да паэта з'явіцца які-небудзь падазроны фацэт? Пажадана з БССР! А то і не адзін! Тады і плён будзе большы!»

Ды ніхто, дзякаваць Богу, не з'явіўся, і толькі позняй раніцай 19 жніўня Манькевіч загадаў прыступіць да выканання вышэйзгаданай тэлефанаграмы:

«На падставе даручэння Пана Пракурора XIII раёна Віленскага акруговага суда ад 27 ліпеня 1934 года № XIII.DS.279/34 — загадваю неадкладна зрабіць хатні і асабісты вобыск у жыхара вёскі Пількаўшчына, Мядзельскай гміны Яўгена Скурко, сына Яна і Дамінікі, народжанага ў 1912 годзе, западозранага ў злачынстве, прадугледжаным 97 артыкулам Крымінальнага кодэкса. Незалежна ад выніку вобыску — Яўгена Скурко затрымаць...»[11]

У Сватках тэлефанаграму прыняў пастарунковы Ян Жалезны — той самы, пра якога ў «Лістках календара» сказана: «...Сваткаўскі паліцыянт Жалезны двойчы нечага праязджаў на веласіпедзе міма нас. Нешта вынюхвае...»[12]; дарэчы, у верасні 1939-га Жалезны ў ліку іншых сваткаўскіх паліцыянтаў быў арыштаваны нарачанскімі хлопцамі і здадзены чырвонаармейцам...

Ранейшае чысло на бланку (13 жніўня ці 14 — ужо немагчыма расчытаць!) атрамантам выпраўлена на «19», побач накрэслены лічбы «10.35» (час перадачы загаду ў Сваткі), а пасля апошняга друкаванага слова «затрымаць» разгоніста дапісана: «...і даставіць яго (Яўгена Скурко. — *Л. Д.-М.*) пад канвоем у камісарыят...»

Аднак жа сваткаўскія паліцыянты ўзяліся за сваю работу не 19, а 20 жніўня; акрамя тэлефоннага наказу Манькевіча, яны мелі яшчэ і пастанову акруговага судовага следчага на Пастаўскі павет, сядзіба якога знаходзілася ў Глыбокім; у тыя дні абавязкі гэтага следчага выконваў чыноўнік Сэвінскі.

Цікава: Сэвінскі пісьмова ўдакладняў — так, Яўген Скурко падлягае і хатняму, і асабістаму вобыску, а вось ягоны бацька Ян і дзед Хведар (гаспадары сядзібы ў Пількаўшчыне) асабістаму вобыску не падлягаюць, а толькі хатняму[13].

Якая-ніякая, але праява павагі да гаспадароў сядзібы — польскія службоўцы пільнаваліся этыкету, і адносна гэтага згадаю два выпадкі, аб якіх можна было прачытаць у газетах...

У лютым 1927-га арыштаваных грамадоўцаў чыгункай везлі ў турму «Уронкі», і начальнік канвою раптам убачыў, што адзін з арыштантаў (святар Аляксандр Коўш) адзеты ў расу, паверх якой блішчыць крыж!

Духоўная асоба!

А паліцыянты ў форме не мелі права канваіраць духоўных асоб!

Хоць начальнік і не ведаў пра сан арыштаванага, аднак жа папрасіў прабачэння і нават паўшчуваў святара: чаму бацюшка не патрабаваў, каб яго эскартавалі паліцыянты ў цывільным?

Каб за гэты промах на афіцэра не налажылі спагнанне, святар А. Коўш паабяцаў не скардзіцца...

Мінуў год, і пачаўся працэс над «Грамадой».

Падсудных пад аховай пешай і коннай паліцыі перавозілі (па 16 душ у кожнай турэмнай карэце!) з Лукішак у Віленскі акруговы суд.

І тут ужо святар А. Коўш выказаў пратэст:

«Я — духоўная асоба! Я не магу ехаць пад канвоем людзей у мундзірах!»

Камандаваў эскортам аспірант М. Антановіч; ён не накінуўся на падсуднага з крыкам, а проста пачаў угаворваць (!) яго не пратэставаць — словам, польская паліцыя ўмела быць і шляхетнай...

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 26.
[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 44.
[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 11.
[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 28 ap.
[5] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 28.
[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 53.
[7] У кастрычніку 1936 г. камісар Пухальскі выступаў у якасці сведкі ў Віленскім апеляцыйным судзе на пераглядзе справы Сяргея Прытыцкага.
[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 12.
[9] Тамсама.
[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 12 ap.
[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 13.
[12] Запіс ад 3 верасня 1939 г.
[13] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 21, 21 ap.

# РАЗДЗЕЛ 12

На чале са старшым пастарунковым Хенрыкам Малюсам сваткаўскія паліцыянты больш за тры гадзіны (з 6 раніцы і да 09 г. 10 хв.) шукалі па ўсёй сядзібе Скуркоў забароненую літаратуру; дарэчы, у пратаколе вобыску асобным радком так і адзначана: Яўген Скурко падазраецца ў тым, што мае такую літаратуру.

Сваткаўскія паліцыянты ведалі моц слова; зналі, як яно ўплывае на людзей, — пэўна ж, такі вопыт здабылі, развозячы па вёсках дакументальную аповесць Францішка Аляхновіча «У капцюрох ГПУ».

Дык ці выпаралі што?

Здабыча была — напрыклад, узялі сшыткі з нататкамі, змест якіх тут жа вызначылі як *выўратовы*.

Надзіва хутка вызначылі!

Ці дасканала ведалі беларускую мову?

Ці проста ўсё напісанае па-беларуску лічылі шкодніцкім?

Пытанні, якія не патрабуюць адказу...

Пастарунковы Жалезны склаў пратакол:

«...У пакоі Яўгена Скурко сярод кніжак знойдзена 8 (восем) сшыткаў з рознымі нататкамі, змест якіх выўратовы, а таксама ж выяўлены адзін кішэнны блакнот зноў жа з рознымі запісамі. Сшыткі і блакнот арыштаваны і ў прысутнасці ўладальніка апячатаны сургучнай пячаткай з літарамі Х. М. (Пэўна, ініцыялы старшага пастарунковага Хенрыка Малюса? — *Л. Д.-М.*)...»[1]

Дакумент завяршаецца сказам: «...гаспадары сядзібы ніякіх прэтэнзій у пратакол не ўнеслі...» і пяццю подпісамі — Х. Малюса, Я. Жалезнага, Яўгена Скурко і двойчы Яна Скурко (Ян падпісаўся і за свайго непісьменнага бацьку Хведара).

Дарэчы, і Яўген, і Ян свае подпісы паставілі па-польску; што да іншых асаблівасцей, то яны такія: найбольш выразны подпіс Малюса, ён распісаўся не асадкай Жалезнага, а ўласным

вечным пяром, а яшчэ — дакумент быў згорнуты ў чатыры столкі — засталіся лініі згібаў...

Аднак жа не ўсе крамольныя паперы назваў пастарунковы Жалезны; іх пашыранае апісанне ёсць у пратаколе агляду ад 15 верасня 1934 года, які склала ў Вільні супрацоўніца пракуратуры пратакалістка-машыністка Тэкля Янкоўская.

Пятроўскі вывучыў гэтыя паперы, далучыў іх да справы ў якасці рэчавых доказаў і матэрыялаў для графолагаў і тады ж, 15 верасня (па-сапраўднаму творчы дзень!), падпісаў згаданы пратакол (восем пунктаў на дзвюх поўных старонках):

«1. Сшытак, абгорнуты ў газету "Вядомосьці", з надпісам ад рукі "жнівень 1934 г., Яўген Скурко. Апавяданні і вершы". На адной са старонак гэтага сшытка накрэслена: "Максім Танк". Ёсць у сшытку і апавяданне на беларускай мове, змест якога для справы не мае значэння.

2. Дваццаць дзевяць старонак розных нататак, змест якіх для справы не мае значэння.

3. Пяць чарнавікоў (ці пяць агульных сшыткаў? — *Л. Д.-М.*[2]), а таксама адзін блакнот з усялякімі рукапіснымі творамі па-беларуску.

4. Адзін чарнавы сшытак, на першай старонцы якога — малюнак: два кавалі пры кавадле, і верш з прысвячэннем: "Вільня, 13.12.1931 г., Я. Гарох[3]". А яшчэ ў сшытку змешчаны запісы, сярод іншых ёсць і такі: «21.1 (студзеня. — *Л. Д.-М.*). Бацька Лавора даслаў ліст, а я яго аддаў Серафіму. Напісаў "трактар"[4], не ведаю, ці несці яго ў рэдакцыю"... На наступных старонках занатаваны вершы.

5. Пяць газетных выразак, адна з якіх пад загалоўкам "Арыгінальны ліст з Саветаў..."[5], а другая — "Баронячы карову, трыста сялян напалі на секвестратара".

6. Сшытак у чырвонай вокладцы з празнымі нататкамі.

7. Канверт ад пісьма, дасланага поштай СССР.

8. Паштоўка з Лукішак, адрасаваная Яўгену Скурко, які жыў у Вільні на вуліцы Букавая, 14, кв. 1; напісаў паштоўку 1 красавіка 1934 года вязень Серафім Лавор...»[6]

Апошні, восьмы пункт, прымушае задумацца, нават здзівіцца.

З Лукішак С. Лавор шле Яўгену Скурко на волю (!) паштоўку.

І калі шле?!

У красавіку 1934-га — то-бок тады, калі Яўген Скурко павінен быў сам знаходзіцца на Лукішках!

Няўжо С. Лавор не ведаў пра гэта?

Не мог не ведаць — турэмная «сувязь» працавала выдатна!

А можа, якраз і ведаў, што сябар на волі, таму і накіроўваў сваю паштоўку на вядомую вуліцу?!

Дык дзе ў той час быў паэт?

Пра адну «невялікую недакладнасць» у жыццяпісе аўтара «Нарачы» гаворыць Мікола Арочка ў кнізе «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі»:

«...В. Таўлая і Я. Міско затрымала маладзечанская паліцыя падчас іх спробы перайсці мяжу. У пачатку (!) 1934 г. іх, скатаваных, прывезлі на Лукішкі. Але ні Таўлай, ні Міско нідзе не пішуць, што ў той жа час тут, за кратамі, знаходзіўся і Максім Танк, а, паводле яго ж біяграфіі, ён сядзеў на Лукішках ад мая 1933 г. па май 1934 г. ...»

Паэт, бясспрэчна, чытаў кнігу М. Арочкі, але, здаецца, на «невялікую недакладнасць» у сваёй біяграфіі ўвагі не звярнуў.

А можа, і звярнуў і ў прыватнай гутарцы з аўтарам кнігі нейкім чынам абгаварыў прыкрую «недакладнасць»?

Ці вядома каму пра гэта?

Але цытую М. Арочку далей:

«У дакументальный аповесці[7] Я. Міско піша, што на Лукішкі яго прывезлі ў сярэдзіне лютага (1934 г. — *Л. Д.-М.*), а Таўлая трохі раней. Таўлай адразу ж з другога паверха, дзе сядзеў, пераслаў сябру... “грыпс з кучай навін”: “...нядаўна толькі выпусцілі Максіма Танка. Ці надоўга?..”»

М. Арочка робіць выснову:

«...Слова “нядаўна”, сказанае ў дачыненні да выхаду Танка з Лукішак, хоць і няпэўнае па часе, але сведчыць яно, што яго ўжо не было за кратамі (у пачатку 1934-га. — *Л. Д.-М.*)...»

Аднак жа начальнік Лукішак Чакала сцвярджае: быў; 24 верасня 1934 года ён рапартуе Пятроўскаму: «...Яўген Скурко

знаходзіўся ў даверанай мне турме з траўня 1933 г. і да траўня 1934 г. ...»[8]

Тут не магу не заўважыць — у гэтым рапарце Чакала падкрэслівае: Яўген Скурко паводзіў сябе ў турме здавальняюча.

А 16 ліпеня 1933 года на заяве, у якой паэт прасіў дазволу выпісаць газету «Глос Вільна», Чакала напісаў (аб чым ужо гаварылася): Яўген Скурко паводзіць сябе нездавальняюча!

Гаворка пра адзін і той жа турэмны час — ацэнка ж паводзін розная.

Чаму?

Адказ можа быць такі: ці начальнік забыўся, што пісаў год назад, ці вязень на працягу месяцаў паспакайнеў...

Да рапарту Чакалы яшчэ вярнуся, а пакуль што падыму тыя архіўныя сведчанні, якія ўмацоўваюць далікатную здагадку М. Арочкі.

Вышэй гаварылася аб гончых лістах, якія рассылаліся ў пошуках паэта ў 1932, 1933 і 27 студзеня 1934 года.

Запомнім апошнюю дату, пасля яе мінула поўных дзевяць месяцаў.

І вось 10 лістапада следчы 2-й Віленскай акругі пастанавіў: з улікам таго, што 20 жніўня Яўген Скурко арыштаваны і пасаджаны ў Лукішкі, гончыя лісты, выпісаныя 27 студзеня, скасаваць[9]!

Дык што выходзіць?

А выходзіць наступнае: раз 27 студзеня 1934 года на Яўгена Скурко выпісалі гончыя лісты (пачалі шукаць!) — значыць, у студзені згаданага года, прынамсі пачынаючы з 27-га чысла, яго ўжо за кратамі не было.

Ёсць прычына думаць: да разгляду справы (у апеляцыйным судзе 1 траўня) паэта адпусцілі, а пасля спахапіліся.

Праўда, ніякіх дакументаў адносна звальнення з турмы ў вышэйадзначаны час я не знайшоў; знайшоў толькі адваротнае сведчанне Чакалы.

Але няўжо пан Чакала (паводле Я. Міско: рашучы санацыйны служка) меў такую ж дрэнную памяць, як і дазорац Трухан?!

Ды якой бы ні была ягоная памяць, С. Лавор не ўпустату пасылаў паштоўку, змест якой, на жаль, у пратаколе не раскрыты...

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 14.

[2] У пратаколе надрукавана «3. Pięć brulionów...» Па-польску brulion — гэта адначасова і чарнавік, і агульны сшытак. Так што не зусім зразумела — ці тут ідзе гаворка пра пяць асобных чарнавых лісткоў, ці пра пяць агульных сшыткаў. Калі гаворка менавіта пра сшыткі, то вельмі верагодна, што ў іх знаходзіўся пачатак «Лісткоў календара». Пра гэты дзённікавы пачатак сам паэт пісаў так: «...Першыя запісы адносяцца да 1932–1934 гадоў... Гэтыя сшыткі (!)... загубіліся ў розных судовых актах...»

[3] Пра Янку Гароха ў нарысе «Аўтабіяграфія» (1963) Максім Танк пісаў як пра паэта і здольнага мастака з-пад Стоўбцаў.

[4] Назва твора, у пратаколе дадзена яна з малой літары.

[5] Поўная назва па-польску гучыць так: «Oryginalny list z Sowietów na kładce drzewa».

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 45, 45 ap.

[7] «Было яно калісьці...»

[8] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 60.

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 73.

## РАЗДЗЕЛ 13

Аднак вярнуся да сваткаўскіх паліцыянтаў: а 10-й гадзіне 20 жніўня 1934 года яны затрымалі Яўгена Скурко.

У кнізе У. Калесніка «Зорны спеў» чытаю:

«...Яфрэйтар Малюс арыштаваў маладога паэта, закаваў у кайданы і пагнаў у Паставы. Там 21 жніўня арыштаванага дапытаў следчы суддзя пан Салавей...»

Згаданы «суддзя» — кіраўнік следчага аддзела пшадоўнік Сяргей Салавей.

Па выніках допыту ён склаў дзве запіскі.

Адрасат першай не пазначаны, але трэба думаць — дакумент (20 радкоў на машынцы) складзены для Сэвінскага, які (памятаем) выконваў абавязкі акруговага судовага следчага на Пастаўскі павет.

Салавей адзначаў: допыт праведзены на падставе даручэння, падпісанага Пятроўскім 14 траўня 1934 года; затрыманы не ведае, у які дзень нарадзіўся[1], таму назваў толькі месяц і год свайго нараджэння (верасень 1912-га); быў асуджаны Віленскім акруговым (!) судом паводле 97-га артыкула на два гады турмы з адтэрміноўкай выканання прысуду на пяць гадоў...

Тут пшадоўнік Салавей памыліўся: такі вырак паэт займеў ад апеляцыйнага суда — акруговы ж засудзіў на шэсць гадоў!

Як і начальнік турмы Чакала (Чакала, праўда, зрабіў гэта крыху пазней — 24 верасня), Салавей паведамляе ў сваёй запісцы, што да 1 траўня 1934 года паэт знаходзіўся на Лукішках.

Адзначана і самае галоўнае: Яўген Скурко заявіў, што не пісаў грыпс «Дзень 1-га Мая»[2].

Другая запіска (29 машынапісных радкоў) мае нумар — S3b/434, які на адну лічбу не супадае з нумарам тэлефанаграмы Манькевіча — S3b/433.

Запіска накіравана акруговаму судоваму следчаму на Пастаўскі павет — у ёй між іншага згадваецца, што паэт кара-

ны апеляцыйным (!) судом на два гады турмы (гэтым разам Салавей не памыліўся!).

Пшадоўнік высноўваў: Яўгена Скурко неабходна часова ўзяць пад варту, бо ён актыўны дзеяч КПЗБ, зацяты аўтар турэмных грыпсаў і таму, каб не пазбег законнага пакарання і не ўцёк у Саветы, яго нельга пакідаць на волі.

У апошнім радку Салавей прасіў зацвердзіць пратакол вобыску[3].

У той жа дзень, 21 жніўня, Сэвінскі зацвердзіў згаданы пратакол, дапытаў затрыманага і склаў пратакол допыту[4], а таксама ж падпісаў пастанову аб часовым (на два месяцы — да 20 кастрычніка 1934 года) арышце[5].

У. Калеснік аднак пісаў: «...арыштаванага выпусцілі. Але ненадоўга. 19 верасня ў Паставы выехаў віленскі следчы, дапытаў паўторна і распарадзіўся арыштаваць паэта і пераслаць па этапу ў Вільню...»

Максім Танк у лісце (тым самым — за студзень 1978 года) аспрэчвае гэта: «Паўторнага арышту ў верасні 1934 года не магло быць, бо я ўжо са жніўня месяца сядзеў на Лукішках...»

Гэта праўда — яго ўжо 22 жніўня даставілі ў вязніцу.

У пастанове аб часовым арышце Сэвінскі натаваў: у сувязі з новымі доказамі ёсць небяспека, што западозраны Яўген Скурко можа схавацца...

На адвароце пратакола допыту чыноўнік зафіксаваў: паводле слоў Яўгена Скурко, ён сёлета з 30 красавіка і па 20 жніўня ў Вільні і ў Паставах не браў удзел у змове «Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі» і не ведае, што ў гэту партыю ўваходзяць людзі, мэта якіх — пазбавіць польскую дзяржаву незалежнасці і адарваць частку яе тэрыторыі; грыпс «Дзень 1-га Мая» не пісаў, зместу яго не ведае; да кампартыі не належаў і не належыць, як і да іншых арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Мядзельскай гміны; асуджаны ж толькі за змест артыкулаў і рэпартажаў...

Дзмітры Бугаёў у кнізе «Паэзія Максіма Танка» адзначаў: згаданыя артыкулы і рэпартажы малады пясняр друкаваў у легальным камуністычным друку — напрыклад, у «Часопісе для ўсіх».

Вядома ж, камуністы не абвяшчалі, што яны стаяць за тым ці іншым выданнем, а што да заявы: «...не належаў і не належу да кампартыі...» — то Анатоль Сідарэвіч даў такую ацэнку:

— У міжваеннай Польшчы прыналежнасць да камуністычнай партыі лічылася злачынствам!

Словам, на допыце юнак паводзіў сябе разумна...

З пастаўскага пратакола допыту можна даведацца, што Яўген Скурко — беларус, нежанаты і праваслаўны; што ён — работнік (!), мае 7-класную гімназічную адукацыю і польскае грамадзянства і з'яўляецца прызыўніком катэгорыі «А» — тобок прыгодны да вайсковай службы.

Адзначана таксама, што маці паэта Дамініка паходзіць з дому Хвалькоў.

Цікавыя і такія драбніцы — у адпаведных рубрыках Сэвінскі прочыркам паказаў, што Яўген Скурко не мае мянушкі, уласнай сям'і, маёмасці, узнагарод, апякунскіх абавязкаў і ніякіх выплат з дзяржаўнага бюджэту.

У іншых пратаколах чыноўнікі пісалі: Яўген Скурко не работнік, а вучань, а што да праваслаўнай веры, то на судзе, які адбыўся 5 снежня 1934 года, паэт заявіў, што ён — «бэзвызнанёвец»[6]!

І на схіле жыцця, у 1990 годзе, Максім Танк вяртаўся да гэтай тэмы:

Калі, праклінаючы лёс
Недарэмна,
Яго мы стараліся
Пераадолець,
Я, згодна рашэнню
Камуны турэмнай,
Суду заяўляў цвёрда:
Бэзвызнанёвец...

Апошні запіс у пастаўскім пратаколе — можна сказаць, сакральная згадка пра «знакаміты» артыкул 97, пад якім хадзілі ці не ўсе вязні Лукішак!

І не толькі Лукішак.

[1] Радаслаў Астроўскі (1887–1976) — палітык, грамадскі дзеяч, віцэ-старшыня БСРГ, старшыня ТБШ, дырэктар Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.

[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 5.

[3] Анатоль Астрэйка (1911–1978) — беларускі паэт, аўтар паэмы для дзяцей «Прыгоды дзеда Міхеда» (1956).

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 5 ap.

[5] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 19.

[6] Легітымацыя (*польск*. legitymacja) — пасведчанне.

[7] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2034, l. 19.

[8] Словы Якуба Коласа з паэмы «Новая зямля» (раздзел XXVI. «Агляд зямлі»).

[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 99.

## РАЗДЗЕЛ 20

А пракуратура тым часам дзейнічала больш настойліва.

5 снежня (у той жа дзень, як скончыўся разбор) Ячыноўскі ў кароткай запісцы (шэсць радкоў ад рукі) папярэдзіў акруговы суд, што будзе падаваць скаргу ў вышэйшую інстанцыю[1].

Праз тыдзень, 13 снежня, ён атрымаў копію выраку[2].

Свой пратэст у апеляцыйны суд (2,5 старонкі машынапісу) Ячыноўскі злажыў 19 снежня 1934 года, засведчыўшы рашучую нязгоду з гэтым выракам[3].

Падпракурор унёс на разгляд два пункты:

а) цалкам скасаваць згаданы вырак;

б) засудзіць Яўгена Скурко паводле абвінавачанняў Пятроўскага ад 28 верасня 1934 года.

Ячыноўскі даводзіў: рашэнне акруговага суда заснавана толькі на зрокавым параўнанні грыпсаў з почыркам Яўгена Скурко і супярэчыць высновам графолага Другаля.

Нават калі суд, пісаў Ячыноўскі, і ўбачыў нейкія адрозненні паміж графікай грыпсаў і манерай пісьма Яўгена Скурко і ўсумніўся ў меркаванні Другаля, то для больш дакладнага высвятлення справы патрэбна было выклікаць яшчэ аднаго эксперта.

Вядома, самому Ячыноўскаму на працэсе 5 снежня лішні графолаг ой як спатрэбіўся б, аднак жа, дапускаю здагадку, — для Кадушкевіча, Тамашэўскага і Кавецкага гэта была б лішняя фігура ў іхніх нястрогіх шахматах.

А яшчэ Ячыноўскі з намерам падкрэсліваў: доказам віны Яўгена Скурко можа служыць і яго ранейшая судзімасць, а таксама рукапісы, забраныя паліцыяй у пількаўскай хаце.

Ячыноўскі выявіў тут жандарскі спрыт!

Ставіць у віну судзімасць, якую чалавек ужо адбыў, — учынак несамавіты.

А што да рукапісаў, то іхні антыдзяржаўны змест прывідны; сшыткі, асобныя старонкі і проста чарнавікі, спісаныя па-

беларуску — здаецца, уся крамола гэтых дакументаў, паводле ўпартага падпракурора, якраз і палягала ў беларускай мове; гэта відавочна, сумнявацца асабліва і не варта.

Нават прыдзірлівы Пятроўскі і то памяркоўна ацэньваў тыя паперы — яны мелі значэнне толькі ў якасці ўзору почырку...

Праўда, яшчэ меліся газетныя выразкі, у якіх згадвалася нейкае пісьмо з Саветаў і бойка сялян з секвестратарам, а таксама канверт са штэмпелем пошты СССР і Лаворава паштоўка з Лукішак — вось і ўсё крымінальнае багацце!

Аднак жа з пустога канверта (няхай сабе й савецкага) і паштоўкі (змест якой, упэўнены, быў нейтральны) у польскім судзе справу не зляпіш, а з польскіх газет, якія пісалі амаль што пра ўсё, бо мелі такую магчымасць, можна было навыцінаць самых розных бунтоўных нататак.

Ці разумеў гэта Ячыноўскі?

Разумеў, але трэ было дзьмуць у сваю дудку, от і дзьмуў, скіроўваў увагу вышэйшай інстанцыі на адно: Яўген Скурко — вінаваты, ён аўтар шкодніцкіх рукапісаў «Дзень 1-га Мая», «З газеты. Дварчанін...», «Як Бог гуляў на вечарыне» (слова «Бог» Ячыноўскі, вядома, пісаў з вялікай літары)...

20 снежня 1934 года пракурор Шаняўскі (пэўна, начальнік Ячыноўскага) пераслаў ягоную апеляцыйную скаргу ў 3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда[4]; праз два дні скаргу прызналі складзенай па ўсіх юрыдычных правілах і накіравалі ў апеляцыйны суд[5].

У той жа дзень, 22 снежня, папера дайшла да патрэбнай інстанцыі[6], і ўжо 24-га чысла яе прынялі да разгляду[7], але, прыняўшы, тут жа адклалі, бо трэ было адсвяткаваць Каляды.

2 студзеня 1935 года на апеляцыі Ячыноўскага з’явілася важная адзнака: залучыць да справы эксперта Мечыслава Бжэскага[8].

Асоба, вартая ўвагі!

Чалавек сярэдняга веку (49 гадоў), Бжэскі жыў у Вільні (Завальная, 11, кв. 6), служыў канцылярыстам у апеляцыйным судзе, хадзіў у рэфармацкую царкву (мусіць жа, у тую, якая і знаходзілася на Завальнай) і, вядома ж, не меў судзімасці.

Трэба сказаць: яму даводзілася вывучаць почырк не толькі Максіма Танка, аднак жа і Б. Тарашкевіча.

Як і Пятроўскі, каліграф Бжэскі таксама выступаў на «Працэсе пяцідзесяці шасці» і ў чацвер 26 красавіка 1928 года заявіў, што Б. Тарашкевіч з'яўляецца аўтарам некалькіх ананімных рукапісаў.

Само па сабе, Б. Тарашкевіч адмовіўся ад аўтарства, і тады абарона папрасіла выклікаць дадатковага эксперта.

Суд просьбу абароны адхіліў, хаця пракурор (што цікава!) і не пярэчыў абароне, толькі зазначыў, каб новы эксперт прааналізаваў тыя рукапісы, якія даследаваў Бжэскі.

Праз некалькі дзён (у панядзелак 30 красавіка 1928 года) Бжэскі зноў прысутнічаў на грамадоўскім працэсе, адказваў на пытанні суддзяў, даводзіў слушнасць свайго заключэння, і Б. Тарашкевіч і гэтым разам аспрэчыў яго экспертызу — па-іншаму ж і быць не магло.

Наогул жа, Бжэскага можна назваць знаўцам почырку лідара «Грамады»!

12 снежня 1931 года каліграф атрымаў 12 злотых за свой аналіз пяці рукапісаў, якія з'яўляліся рэчавымі доказамі ў новай крымінальнай справе Б. Тарашкевіча.

А за даследаванне грыпсаў у справе Яўгена Скурко каліграф займеў 10 злотых[9].

Апісання яго работы я не знайшоў, але, трэба думаць, Бжэскі правёў яе старанна і да судовага пасяджэння падрыхтаваўся як след.

22 студзеня 1935 года Мечыславу Бжэскаму прынеслі ружовую позву, выпісаную чатыры дні таму, 18 студзеня, у якой паведамлялася: разбор прызначаны на 20 лютага 1935 года[10].

3 лютага ўручылі позву, таксама ж выпісаную 18 студзеня, і Яўгену Скурко[11], але ён мог і не прысутнічаць на працэсе (ягоная яўка не была абавязковай)[12].

Мяркуючы па круглым паштовым штэмпелі[13], з Вільні павестку адправілі 22 студзеня, — праз тры дні, 25-га яе атрымалі ў мядзельскай гміне, а даставілі, як бачна, толькі 3 лютага.

Не спяшаліся, нечага чакалі.

А той жа памочнік гміннага пісара, напрыклад, або, скажам, солтыс маглі б з Мядзела ў Пількаўшчыну прынесці гэтую белую паперынку ўжо 26-га або 27-га чысла — дарогі ж усяго нейкія кіламетраў дваццаць...

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 94.
[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 98.
[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 104, 104 ap., 105.
[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 103.
[5] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 104.
[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 101.
[7] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 104.
[8] Тамсама.
[9] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 112, 112 ap., 113.
[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 109.
[11] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 108, 108 ap.
[12] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 104.
[13] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 108 ap.

# РАЗДЗЕЛ 21

20 лютага 1935 года а 9-й гадзіне 1-ы крымінальны аддзел Віленскага апеляцыйнага суда ў адкрытым пасяджэнні пачаў слуханне справы[1].

Крэсла старшыні заняў Уладзіслаў Дмахоўскі.

У 1928 годзе ён быў узнагароджаны Камандорскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы; газеты пісалі пра заслугі пана Дмахоўскага, якія ён здабыў на ніве правасуддзя, і не хто іншы, а менавіта ён з 28 лютага па 16 сакавіка 1929 года вёў перагляд справы «Грамады» ў тым жа Віленскім апеляцыйным судзе.

20 ж лютага 1935 года У. Дмахоўскаму дапамагалі таксама вядомыя асобы — суддзя Ядзевіч і суддзя-дакладчык з акруговага суда Скіндар.

Ядзевіч старшынстваваў на апеляцыйным разборы 1 траўня 1934 года, на якім, памятаем, Яўгена Скурко апраўдалі, а гэта значыць — Ядзевіч тады паспрыяў паэту; ёсць усе падставы думаць, што Ядзевіч паспрыяў паэту і на гэтым працэсе!

А што да Скіндара — то гэта той самы службовец, разам з якім Пятроўскі дапытваў у шпіталі параненага С. Прытыцкага.

Слуханне йшло ў прысутнасці віцэ-пракурора Гвірыні — яшчэ адзін вядомы нам пан; Гвірыні прадстаўляў пракуратуру ўсё на тым жа пасяджэнні 1 траўня 1934 года.

Пратакол вёў стажор-юрыст Радзюк...

Так, паэт мог не з'яўляцца на суд, але з'явіўся і пазней занатаваў у дзённіку: «...абвінавачваўся я ў тым, што ў Вільні 14.02.1934 г. напісаў і распаўсюджваў антырэлігійны твор...»[2]

Гаворка ўсё пра той жа верш (іншае жанравае вызначэнне — Паэма Апостала) «Як бог гуляў на вечарыне» — на разлінеенай паперы грыпса назва твора падкрэслена аўтарам хвалістай тлустай рысай.

У. Калеснік называў гэты верш «Як бог гуляў на **ігрышчы**», а Д. Бугаёў і М. Арочка — «Як бог гуляў на **забаве**», аднак жа арыгінал сведчыць: апошняе слова ў назве — **вечарына**.

Але чаму адносна загалоўка ўзнік такі разнабой?

Пэўна ж, таму, што згаданыя даследчыкі не бачылі арыгінала рукапісу — хутчэй за ўсё, карысталіся паліцэйскім перакладам рукапісу на польскую мову; назва ж верша па-польску гучыць так — «Jak Bóg hulał na zabawie (Poemat Apostoła)».

І вось робячы адваротны пераклад, У. Калеснік скарыстаў заместа «zabawy» слова «ігрышча», а Д. Бугаёў і М. Арочка «zabawu» пакінулі як «забаву» — тым болей (хутчэй за ўсё, меркавалі даследчыкі) ёсць жа такая лексема ў беларускай мове.

У вершы, дарэчы, ужываюцца моцныя словы, таму паліцэйскія «перакладчыкі» (магчыма, старшы пастарунковы Т. Пладоўскі, а магчыма, і пратакалістка Я. Падгайская), упісваючы па-польску верш у пратакол агляду[3], мусілі рабіць пэўныя пропускі — так, скажам, у дзясятай страфе апусцілі (не пераклалі — якія далікатныя людзі!) мілае кожнай беларускай душы слова — сра...а!

А ў дзявятай страфе ў радку «...тармосе Мацею чупрыну Янук...» — мусіць, па недагляду прапусцілі імя Мацей, пакінулі аднаго Янука; увогуле ж работу сваю выканалі даволі дакладна — пераклалі нават апошняе ў грыпсе слова «Канец».

Шостая страфа ў пратаколе падкрэслена — пэўна, самім Пятроўскім, бо ў ёй гаворка пра тое, як «...паліцыі морду набілі...», як «...прагналі усіх скуралупаў-купцоў...», а «...двух сэквэстратараў... начапілі на вербу з бярозай...».

Вось усе дзевятнаццаць строф гэтага турэмнага практыкавання:

**ЯК БОГ ГУЛЯЎ НА ВЕЧАРЫНЕ**[4]

*(Паэма Апостала)*

Было гэта, братцы, не ў нашай краіне,
а там дзесь далёка, за горамі, морам
ў гарачай, пяшчанай, сухой Палістыне —
так Біблія кніга сьвятая гавора.

Ішоў раз дарогай, з кіям пад пахай,
сам бог, ён тады яшчэ быў малады,
высокія боты, на плечах з сярмягай
і пяць валаскоў мест сівой барады.

Ідзе ён дарогай і песьню заводзе:
пра тое, як ў раю Адам саграшыў,
як з Еваю чорт паміж град, ў агародзе,
папоў і ксяндзоў, і равінаў[5] рабіў.

Ідзе ён і бача, ў карчме, ля дарогі
сабраліся з округу ўсе мужыкі,
а там і дзяўчаты, відаць, за парогам,
і ёмка «Лявоніху» тнуць дзецюкі.

«А што ў вас за сьвята?» — пытае бог дзеда.
«Ты з печы зваліўся? — старык адказаў —
ня ведаеш, што тлум[6] учора саседа
памешчыка з скуры ўсяго абадраў.

А там і паліцыі морду набілі,
прагналі усіх скуралупаў-купцоў:
а двух сэквэстратараў мы начапілі
на вербу з бярозай ганяць вараб'ёў.

За то сяньня йграюць цымбалы і струны —
прагналі усіх крывапіўцаў паноў,
на вузкіх загонах збудуем Камуну
без добрадзеяў паноў і багоў».

«Вось сукіны дзеці! — падумаў бог ціха —
ня хочаць ужо прызнаваць і мяне;
паднялі камуну: чартоўскае — ліха;
даберуцца хутка з дубінай ка мне!..»

Аж лыдкі[7] у бога пачалі трасьціся —
хоць быў не трусьлівы, не слабы дзяцюк.
А тут яшчэ хлопцы ўзялі напіліся,
тармосе Мацею чупрыну Янук.

Ад дыму, ад пылу ў карчме ажно горка.
Крычыць Сьпірыдон, Харытон і Ігнат,
а бог, падцягнуўшы на срацэ апоркі[8],
памалу, хоць бокам, прылез да дзяўчат.

Ў Ганулі за цыцку рукой учапіўся,
другой пад спадніцу кудысь заблудзіў;
а з трэцяй, з Марыляй, ужо і злюбіўся,
нагнуўшыс, на вуха штось ёй гаварыў.

А тут, як на грэх і цымбалы, і скрыпка
«Камарынскага» пачалі выцінаць,
а там на гармоніку Рыжы Піліпка —
аж бог закруціўся з Марыляй скакаць.

Зкінуў сярмягу, падковамі звонка
то бокам, то ракам ўпрысядку ідзе,
відаць для адвагі хлябнуў самагонкі,
ліецца аж пот па вусах, барадзе.

Марылі таксама дзяцюк падабаўся,
відаць бог умеў рабіць ў людзях эфэкт,
ды сяньня ён ў новую збрую прыбраўся —
высокія боты, штаны галіфэ.

А бог відаць часу дарма не марнуе:
Марылю завёў ў агарод, ў канаплі,
і там — як пра гэта апостал цытуе —
іх дзеці карчмара Іуды знайшлі.

Казалі, што бог абяцаў даць Марылі
за гэта і хустку, і нат шнур караль,
але не ўдалося, бацькі падлавілі
і ім ў канаплях там уст(р)оілі[9] баль.

З колам прыпёрся Гарыд Аднабокі
і п'яніца Грышка, і Лэйзэр, і Клім,
фанар ужо сьвеціць у бога пад вокам,
а з рыжай чупрыны аж курыцца дым.

Аднэй рукой галіфэ бог трымае,
другой адбівацца заядла пачаў,
а сам ўсё да плоту хутчэй адступае,
хутчэй на дарогу і драла ўжо даў.

А сьледам «А-гу-гу!» — крычалі сяляне,
але бог ня чуў, дзесь далёка кульгаў.
На пятай вярсце ён прысеў на кургане
і доўга ў рацэ галіфэ паласкаў[10].

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 110, 110 ap., 111, 111 ap.

[2] «Лісткі календара», запіс ад 20 лютага 1935 г.

[3] Дата гэтага пратакола 27 красавіка 1934 года // LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 35, 35 ap.

[4] Захаваны правапіс арыгінала.

[5] Так у арыгінале. Па-беларуску трэ было б напісаць — «ра́бінаў».

[6] Тлум — натоўп.

[7] Польскае напісанне — па-беларуску ж «лыткі».

[8] Логіка падказвае, што тут замест «апорак» (абутак) павінны быць «порткі» (штаны). Дарэчы, гэтыя недакладна ўжытыя «апоркі» Т. Пладоўскі і Я. Падгайская пераклалі менавіта, як «порткі» (portki).

[9] У гэтым слове прапушчана літара «р».

[10] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227; тэкст знаходзіцца ў канверце, на якім з аднаго боку напісана па-польску: «Рэчавыя доказы да справы К-293/34», а з другога боку надпіс такі: «Рэчавыя доказы — грыпсы, апісаныя ў пратаколе агляду ад 27.04.1934 г.».

## РАЗДЗЕЛ 22

Вось такі юнацкі твор, і ён змешчаны на трох невялікіх старонках, а на апошняй, чацвёртай, можна ўбачыць саматужную ілюстрацыю да заключнага катрэна: мужчына, адставіўшы ўбок левую нагу, сядзіць на беразе рачулкі і нешта пярэ; унізе малюнка выразны подпіс красамоўна ўдакладняе: «Бог палошча галіфэ».

Сваім з'едлівым сачыненнем малады аўтар не толькі зневажаў Бога (само па сабе, пісаў гэта слова з маленькай літары!), аднак жа, як бачым, праводзіў і палітычную прапаганду, услаўляў **Камуну**.

Тут ужо, вядома, ішла вялікая літара — зрэшты, з вялікай літары пісаўся ў яго і назоўнік Біблія!

Мэту ж перад сабой, добра бачна, ставіў не паэтычную, а тую, якая блізкая да салёнага анекдота, і вязні камуністы (і, магчыма, некамуністы) ад свайго паэта відавочна чакалі якраз гэткі тэкст.

З кнігі М. Мікуліча «Максім Танк: на скразняках стагоддзя» можна даведацца: згаданы астрожны опус паэт ацэньваў як слабы раешнік, радаслоўную якога выводзіў ад «Гаўрыліяды» А. Пушкіна і «Бібліі» Кандрата Крапівы, а на судзе, у чарговы раз адмовіўшыся ад аўтарства, увогуле прыпісаў яго Кандрату Крапіве.

Так ратаваў сябе, а ратавацца трэ было, бо яго зноў жа чакалі не жартачкі.

Разгарну Крымінальны кодэкс — 172-і артыкул, з якога пачынаўся 26-ы раздзел «Злачынствы супраць рэлігійных пачуццяў», гаварыў: «...хто публічна блюзнерыць, той падлягае турэмнаму зняволенню на 5 гадоў...»

Нагадаю: Яўген Скурко абвінавачваўся яшчэ і ў стварэнні іншых лістовак.

«...І пракурор, і сведкі (у мяне не было адваката) сарамліва абыходзілі той факт, — тлумачыў паэт, — што гэтыя крамольныя матэрыялы былі знойдзены ў турме, і не ў маёй камеры... Усё

абвінавачванне трымалася на паказаннях стражнікаў А. Трухана і Т. Бараноўскага, якія сцвярджалі, што я даўно быў ім вядомы як аўтар падобных грыпсаў. Іх падтрымліваў і "графолаг", хутчэй усяго — нейкі шпік, І. Бругаль...»[1]

У пратаколе судовага пасяджэння не абазначана фізічная прысутнасць Трухана, Бараноўскага і «..."графолага" ... шпіка Бругаля...»

Значыць, іх і не было.

Узяўшы слова «графолаг» у двукоссе, паэт выказаў сваю відавочную непрыхільнасць да службоўца, экспертызы якога яму асабіста маглі вельмі нашкодзіць.

Аднак жа прозвішча графолага не Бругаль (няхай сабе ён і шпік!), а ўсё ж такі Другаль.

Як ужо гаварылася вышэй, на слуханне быў пакліканы іншы эксперт — каліграф Мечыслаў Бжэскі.

Цікава: паэт не згадаў яго ў сваіх запісах, а мог бы і згадаць, і нават сказаць пра яго добрае слова, бо заключэнне пана Бжэскага дало ратунак яму!

У. Калеснік у сваёй працы «Паэзія змагання» памылкова сцвярджаў, што апеляцыйны суд адбыўся 20 снежня, але калі даводзіў: «...даныя экспертызы былі ў карысць абвінавачанага...» — то, бясспрэчна, меў на ўвазе экспертызу Бжэскага.

А слуханне 20 лютага 1935 года йшло тым часам хуткім накатам.

Суддзя-дакладчык Скіндар акрэсліў сутнасць 97-га артыкула, змест якога, як ужо адзначалася, падрабязна раскрываўся артыкуламі 93, 94, 95 (злачынствы супраць дзяржавы), і бакі нічога не дадалі да акрэсленага Скіндарам — як сказана ў пратаколе: «...не патрабавалі дапаўнення»[2].

І тут кніга апеляцыйнага разгляду разгарнулася на даволі цікавай старонцы — старшыня Дмахоўскі паясніў падсуднаму Яўгену Скурко змест 81-га артыкула[3]:

«...час знаходжання ва ўстановах, якія названы ў артыкулах 79 і 80, не вызначаецца загадзя...»

Што ж гэта за такія таямнічыя ўстановы?

Артыкулы 79 і 80 падказваюць — гаворка йдзе пра закрытыя лячэбныя арганізацыі для псіхічнахворых!

Калі злачынца прызнаюць хворым на псіхіку, калі яго палічаць разумова адсталым, пазбаўленым здольнасці кантраляваць сябе, калі ўбачаць, што знаходжанне такога чалавека на волі пагражае правапарадку, то па суду яго могуць здаць у згаданую ўстанову.

У 80-м артыкуле ёсць адсылка на першы параграф артыкула 18-га, які крыху гуманізуе сітуацыю: калі падчас злачынства здольнасць да самакантролю была абмежавана, суд можа ўжыць змякчэнне пакарання...

Мусіць жа, усё-ткі гэта была звычайная працэдура нагадваць абвінавачаным пра існаванне 81-га артыкула, аднак жа, мне здаецца, у дачыненні да паэта Максіма Танка такі ход меў і свой асаблівы падтэкст.

Перад судом стаяў фізічна і душэўна здаровы юнак (прызыўнік катэгорыі «А»!), аднак жа яму нагадалі пра закрытыя бальніцы для псіхічнахворых!

Пагражалі?

Мне ўяўляецца такая карціна: Дмахоўскі прыйшоў на разбор з гатовым выракам, і вырак гэты быў на карысць падсуднага, але старшыні захацелася крыху (ці не крыху!) папалохаць юнака, выхаваўча папярэдзіць: маўляў, мы зараз адпускаем цябе, але глядзі, хлопча, калі не кінеш старое, можаш апынуцца (і надоўга!) не проста ў турме, а ў псіхушцы, з якой і Андрэй Струг[4] не выцягне!

Не гуляй з агнём, паэт, не займайся палітыкай!

Малады, прыгожы, яркі, таленавіты — пільнуйся асалоды!

Хадзі ў кіно (ты ж яго так любіш!), купляй паненкам цукеркі, шпацыруй па салодкай вуліцы Міцкевіча, адпачывай у рэстаране «Зацішша» ці ў кавярні Рудніцкага — урэшце, пі сваё любімае малако ў малачарні Гайбэра!

Ці мог старшыня Дмахоўскі гэтак думаць?

Напэўна ж, мог — прынамсі, такое маё ўяўленне...

Па адчытанні-тлумачэнні 81-га артыкула Дмахоўскі спытаў, ці прызнае падсудны сябе вінаватым і якое паясненне па справе хоча даць.

І ў які ўжо раз Яўген Скурко не прызнаў сваю віну, паведаміўшы: рукапісаў, якія былі знойдзены ў камерах іншых вязняў, не пісаў[5]...

---

[1] «Лісткі календара», запіс ад 20 лютага 1935 г.
[2] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 110 ap.
[3] Тамсама
[4] Андрэй Струг (1878–1937) — польскі пісьменнік, кіраўнік Лігі абароны правоў чалавека.
[5] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 110 ap.

## РАЗДЗЕЛ 23

Кульмінацыяй разбору з'явілася выступленне графолага Бжэскага.

Паводле судовай працэдуры яго, як і кожнага, папярэдзілі пра адказнасць за няпраўдзівыя паказанні і звольнілі ад прысягі.

Успомнім: на працэсе 5 снежня 1934 года турэмнага наглядчыка Трухана таксама звольнілі ад прысягі, толькі Трухан тады чакаў выкліку ў асобным пакоі, а вось графолагу Бжэскаму дазволілі ўвесь час знаходзіцца ў зале.

Пан Бжэскі заявіў, што Яўген Скурко піша прыгожым почыркам, і ён мог напісаць грыпсы, аднак тэксты, далучаныя да справы, накрэслены на вельмі маленькіх аркушыках і вельмі дробнымі літарамі, таму асаблівасці пісьма страцілі пэўныя рысы, уласцівыя почырку падсуднага; у выніку немагчыма неасрэчна сцвердзіць, чыёй рукой накрэслены грыпсы — Яўгена Скурко ці нейкай іншай асобы; тым болей, што почырк Яўгена Скурко характэрных прыкмет не мае, а ўяўляе сабой звычайны тып хуткага канцылярскага пісьма, якім валодаюць многія...

Сваё выступленне Бжэскі завяршыў дыпламатычнай пахвалой Другалю — маўляў, ягоная экспертыза трапная і слушная, аднак слушная яна толькі... у фрагментах; яе дастаткова для прызнання вялікай верагоднасці паходжання почырку ад рукі падсуднага, але недастаткова для катэгарычнага пра тое сцвярджэння[1]...

Словам, усё вельмі падобна, але няпэўна!

А раз так (Мечыслаў Бжэскі нібыта падказваў суддзям!) — то давер павінен перамагчы падазронасць!

— Які гжэчны чалавек! — так ацаніў пазіцыю графолага паэт Фелікс Баторын[2].

Пэўна ж, падпракурор Ежы Ячыноўскі меў на гэты конт іншую думку...

«...не буду ўнутр залазіць»[3] у неабходныя, але дробныя пытанні далейшай судовай плыні, скажу адразу: віцэ-пракурор

Гвірыні прапанаваў зацвердзіць апраўдальны прысуд першай інстанцыі[4].

Вядома, прапанову пана Гвірыні Яўген Скурко прыняў як узнагароду і тут жа сам папрасіў, каб яго апраўдалі[5].

І яго зноў апраўдалі — зацвердзілі вырак акруговага суда, а выдаткі разбору залічылі на рахунак дзяржавы[6].

Шмат што паспрыяла нарачанскаму хлопцу, і, вядома ж, тое дапамагло, што ў блакнотных нататках Б. Тарашкевіча (тых самых, канфіскаваных 5 лютага 1931 года ў Тчэве) ён згадваецца проста як «Скурко», а не «Яўген Скурко»; толькі прозвішча — імя няма...

---

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 111.

[2] Фелікс Баторын (н. 1948) — беларускі паэт, піша і на мове ідыш; аўтар дакументальнай аповесці «Чорны год» (2011).

[3] Словы Янкі Купалы з паэмы «Над ракой Арэсай».

[4] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 111 ap.

[5] Тамсама.

[6] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 114 ap.

# РАЗДЗЕЛ 24

Тут зраблю адступленне...

Трэба сказаць, што Б. Тарашкевіч іншы раз натаваў не толькі імёны і прозвішчы сваіх маладых актывістаў — адрасы таксама.

Вядома, для паліцыі такія падрабязныя нататкі з'явіліся неверагодна каштоўным падарункам, і гэта, на жаль, значыла, што для некаторых заходнебеларускіх юнакоў і дзяўчат запісы лідара «Грамады» абярнуліся вялікай бядой.

Вось толькі адзін яскравы прыклад:

«Пісьмо ў рэдакцыю[1].

Паважаны гр. Рэдактар!

Гэтым прашу Вас не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

Будучы па паходжанню беларускай, і атрымаўшы выхаваньне ў Віленскай Беларускай Гімназіі, я ўсю сваю працу была гатовай аддаць на карысьць Краю і беларускага народу. Апошнія тры гады я займала дзяржаўную пасаду, працуючы на пошце ў Вільні, дзе карысталася ўсімі правамі на роўні з іншымі працаўнікамі, а дзякуючы сумленнаму выконваньню службовых абавязкаў хутка здабыла прыхільнасьць і даверра ад свайго кіраўніцтва.

Працуючы на ўрадавай пасадзе, я абсалютна не адчувала ніякіх рэпрэсыяў з боку кіраўніцтва і, як гэта ня дзіўна, рэпрэсіі гэтыя былі выкліканы, дзякуючы палітычнай працы некаторых бел. дзеячоў, карысьць якое для беларускае справы зьяўляецца вельмі сумліўнай. 13 лютага г.г[2]. пасьля рэвізыі ў маім памешканьні, паміма таго, што абсалютна нічога ня знойдзена, затрымана мяне ў арышце аж да 16 лютага г.г., а дзеля таго, што я не зьявілася да працы ў працягу двух дзён, — на аснове службовых рэгулямінаў — была звольнена з пасады. Цяпер асталася бяз усякіх матэрыяльных сродкаў. Здарылася гэта толькі таму, што п. Тарашкевічу, як відаць для нейкіх яго палітычных мэтаў, аказалася патрэбным і маё

прозьвішча з адрасам, якое, як кажуць, было знойдзена ў яго партфэлі пры арышце ў Тчэве. Аднак сьледзтва не знайшло нічога кампрымітуючага проціў мяне, і я магла быць у хуткім часе зусім рэабілітавана, каб не наступны факт: у паперах нейкае п. Скуркі, якой абсалютна ня ведаю, ізноў было знойдзена маё прозьвішча.

Рашуча пратэстую проціў правакацыйнага ўжывання з боку каго-б то ня было ў сваіх "сьпісках" без маёй згоды ня ведама для якой мэты майго прозьвішча і адрасу.

Адкрыта заяўляю, што палітычнаю працаю не займалася і ніякае антыпанствовае[3] акцыі не вяла, а дзеля гэтага ані з Тарашкевічам, ані са Скурчанкай, ані з кім з іх прыхільнікаў нічога не мела і ня маю супольнага.

Іх-жа працу лічу ня толькі не карыснай, але і шкоднай для Беларускага Народу.

З пашанай М. Мамчыць[4].

Вільня, 23 красавіка 1931 г.

P.S. Прашу іншыя газэты перадрукаваць вышэйпададзены ліст».

Вось такое горкае выступленне ў сваю абарону.

Імя М. Мамчыц сапраўды сустракаецца ў блакнотных нататках Б. Тарашкевіча, якія (яшчэ раз нагадаю) былі старанна апрацаваны дэфензівай.

На 3-й старонцы пратакола агляду, складзенага паводле зместу гэтых нататак судовым следчым Язэпам Булгакам, можна двойчы прачытаць адзін і той жа радок: «У Вільні, Філарэцкая, 18, Марыя Мамчыц...»

Тут усё як на далоні — места, вуліца, нумар дома, імя, прозвішча; для ахоўнай (у сэнсе: жандарскай) службы выйшла ўсё даволі танна, ніякім жа выведнікам не трэ было плаціць, бо абышлося, можна сказаць, без аператыўнай работы; матэрыял самохаць прыцёк у рукі...

Пані Скурко ці проста Скурчанка, якую згадвае ў сваім лісце Марыя Мамчыц, таксама фігуруе ў запісах Б. Тарашкевіча — і ўпамінаецца яна лідарам «Грамады» не два разы, а значна больш.

На 12-й старонцы можна даведацца, што клікаць яе таксама ж Марыя і што яна з'яўляецца студэнткай (мяркую, Віленскага ўніверсітэта), вывучае матэматыку на 3-м курсе.

А на 15-й старонцы пратакола ўжо адзначана, што студэнтка Скурчанка ў ліку іншых студэнтаў узята пад варту; думаецца, паліцыя тады і знайшла ў яе паперах згадку пра Марыю Мамчыц.

Як бачна, становішча было вельмі драматычнае.

Марыя Мамчыц (проста шкада яе!) спазналася з бядою, на некалькі дзён апынулася ў казённым доме, страціла працу, — «...асталася бяз усякіх матэрыяльных сродкаў...»

Яе ліст — крык душы!

У сваёй бядзе яна абвінавачвала лідара «Грамады» і з ім звязаную студэнтку, і, спачуваючы Марыі Мамчыц, былой працаўніцы Віленскай пошты, выхаванцы беларускай гімназіі, даводзіцца толькі пашкадаваць, што Б. Тарашкевіч і не падумаў нават хоць бы як зашыфраваць імёны і адрасы сваіх выканаўцаў.

5 лютага 1931 года (некалькі разоў ужо гэта адзначана) Б. Тарашкевіча затрымалі, і ўжо праз тыдзень, 13 лютага, была забрана (і, трэба думаць, не толькі яна адна!) Марыя Мамчыц — яе арыштавалі яшчэ задоўга да таго, як запісамі неабачлівага нашага палітыка заняўся следчы Язэп Булгак, які перш за ўсё падкрэсліваў у гэтых злашчасных занатоўках — прозвішчы і адрасы.

Не чакаючы перакладу нататак Б. Тарашкевіча, як і не чакаючы вынікаў працы следчага Я. Булгака, паліцыя і па-беларуску расчытала тое, што трэ было расчытаць.

А следчы гарбеў над канфіскаванымі блакнотамі, як адзначана ў 4-м раздзеле гэтай аповесці, з 1 і па 23 красавіка 1931 года — і менавіта 23 красавіка якраз і выйшаў «Беларускі Звон» з Марыіным пісьмом...

Здаецца, у гэтай драме ўсё ясна, але паўстаюць пытанні: Ці сама Марыя Мамчыц напісала ліст у газету? А мо яе прымусіла гэта зрабіць дэфензіва?

Мяркуючы па стылі, магчыма, нехта (хто не любіў Б. Тарашкевіча!) палітычна адрэдагаваў пісьмо, бо кідаецца ў вочы зусім «недзявочы» пафас публікацыі, асабліва яе канчатковы вынік: праца лідара «Грамады» і яму падобных не толькі не карысная, але і шкодная для беларускага народа!

Праясню гэтую думку: **шкодная** (на думку аўтаркі ці аўтараў?!) перш за ўсё таму, што Б. Тарашкевіч не йшоў на кампрамісы з уладай.

І тут зусім невыпадковым з'яўляецца тое, што выступленне Марыі Мамчыц надрукавана ў «Беларускім Звоне» — рупары Цэнтрасаюза, структуры, якая якраз і спрабавала наладзіць супрацоўніцтва з Пілсудскім.

А яшчэ пытанні могуць быць і такія:

Ці сапраўды М. Мамчыц вяла супольную працу з Б. Тарашкевічам? А мо і напраўду без яе згоды прозвішча Марыі было правакацыйна скарыстана, а сама яна з лідарам «Грамады» нават і знаёмай не была?!

Адносна правакацый скажу: так, Б. Тарашкевіч быў неабачлівы, часам да ўласнай згубы неасцярожным, аднак жа правакацыямі не займаўся; беларускія гімназісты яго любілі і самаахвярна яму дапамагалі.

Думаю, што і паштовая працаўніца Марыя Мамчыц уступіла ў небяспечную палітычную работу па сваёй волі, яе ніхто не прымушаў, яна ж «...усю сваю працу была гатовай аддаць на карысьць Краю і беларускаму народу...»

Аднак бяда перавысіла яе сілы, таму і ўзнік ён — адчайны ліст у «Беларускім Звоне».

Зноў скажу: вельмі шкада дзяўчыну, і не схаваю прыкрай незадаволенасці палітыкамі: падстаўляючы свой лоб, не губіце пры гэтым чужыя душы...

---

[1] Беларускі Звон. Вільня, 1931. № 9, 23 крас. (правапіс захаваны).

[2] Гаворка тут пра 1931 год.

[3] Антыпанствовы (*польск.* antypaństwowy) — антыдзяржаўны.

[4] Мусіць, прозвішча надрукавана ў газеце з памылкай, бо па-беларуску трэба ўсё ж пісаць без мяккага знака — Мамчыц. Дарэчы, на польскую мову ў протаколе агляду гэта прозвішча транслітаравана якраз па-беларуску — Mamczyc, а не Mamczyć.

## РАЗДЗЕЛ 25

Сапраўды, тое, што ў паперах Б. Тарашкевіча паэт быў пазначаны проста як «Скурко» (толькі прозвішча без імя і адраса), дало яму добрую магчымасць аднеквацца перад следствам — маўляў, Скуркоў (і хлопцаў, і дзяўчат!) на Беларусі вельмі шмат, і гэта не я быў памочнікам у Б. Тарашкевіча, а нехта іншы...

Пачаўшыся а 9-й, слуханне завяршылася ў 9 г. 25 хв.[1] — доўжылася, выходзіць, няпоўныя паўгадзіны?!

І за гэты кароткі час (неверагодна кароткі!) стажор Радзюк спісаў чатыры старонкі пратакола (праўда, няпоўныя), суддзя Скіндар зрабіў даклад, старшыня Дмахоўскі растлумачыў змест некалькіх артыкулаў, выступілі Яўген Скурко і Мечыслаў Бжэскі, слова браў віцэ-пракурор Гвірыні...

У пратаколе адзначана, што Гвірыні гаварыў толькі адзін раз — падаў рэпліку пра апраўданне падсуднага і ўсё; у стэнаграме (якой, на жаль, не маю), напэўна ж, ягонае выступленне аднатавана паўней.

А суд яшчэ хадзіў радзіцца, па вяртанні старшыня зачытваў амаль паўтары старонкі прыгавору, — і ўсё гэта за 25 хвілін?

Анатоль Сідарэвіч не здзівіўся такому тэмпу:

— Хутка ўправіліся, бо не хацелі размазваць!

І Фелікс Баторын таксама не здзівіўся:

— Суд адштампаваў даўно прынятае рашэнне! На гэта багата часу не трэба...

Сапраўды, адштампаваў!

Прынамсі, да пачатку разбіральніцтва (магчыма, за некалькі дзён да яго!) суд ужо меў гатовы ўзор выраку; да такой думкі можна прыйсці, адно зірнуўшы на машынапісную «сентэнцыю»[2].

Вось копія прысуду з загадзя (!) надрукаванай апраўдальнай пастановай; у гэту копію толькі ўдрукавалі на першай старонцы чысло «20 лютага» — дакумент завяршаецца подпісам сакратара і круглай пячаткай апеляцыйнага суда.

А вось машынапіс арыгіналу, змест якога, вядома ж, слова ў слова такі, як у вышэйзгаданай копіі.

Розніца адно ў тым, што ў арыгінал не ўдрукавалі, а ўпісалі (на тую ж першую старонку) чысло — «20 лютага», а на другой старонцы зноў жа не ўдрукаваны, а ўпісаны ўсё той жа апраўдальны прыгавор, змацаваны трыма подпісамі — Дмахоўскага, Ядзевіча і Скіндара; праўда, пячаткі тут няма[3]...

Не выпускаючы з-пад увагі занадта кароткі час разгляду (яшчэ раз паўтаруся — няпоўнай паўгадзіны!), думаю, што разбор завяршыўся ўсё ж такі не ў 9 г. 25 хв., а ў 10 г. 25 хв.; пратакаліст Радзюк памыліўся (стажор, адным словам!) — па нявопытнасці зменшыў рэальны час пасяджэння на цэлую гадзіну.

Праўда, здараліся й хуткасныя працэсы — скажам, 24 студзеня 1930 года 3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда разгледзеў справу Б. Тарашкевіча за 40 хвілін — таксама невялікі час, але для разбору дастатковы, гэта ж не 25 хвілін...

Жывучы ўжо ў БССР, Максім Танк пісаў пра «жудасную панскую няволю»...

20 ж лютага 1935 года, як і ў траўні і снежні 1934-га, як і летам 1932-га, «панскія» суддзі зрабілі ўсё, каб малады паэт выйшаў з судовай залы і лёгка ўздыхнуў.

Нагадаю: пракуратура ставіла яму ў віну не толькі 172-і артыкул (5 гадоў за кратамі), а яшчэ й 154-ы ў звязку з 93-і — а гэта ўжо, як за дзяржаўнае злачынства, цягнула на поўныя 10 гадоў!

Словам, юнак унік доўгай турмы, так што, дзякуючы Дмахоўскаму, Ядзевічу і Скіндару, «панская няволя» была і не такой ужо і жудаснай!

А калі б сталася ўсё па-іншаму і паэт надоўга сеў бы ў астрог, то мы не мелі б такой з'явы, як ягоная давераснёўская творчасць; не, штосьці б мелі — скажам, асобныя вершы (у цямніцы іх багата не наскладаеш!), тыя ж рыфмаваныя грыпсы, напрыклад; нешта яшчэ надрапанае ўпотай, але не было б кніг — «На этапах», «Журавінавы цвет», «Пад мачтай»!

Не было б і паэм — «Нарач», «Сказ пра Вяля», «Каліноўскі»; урэшце — не было б «Лісткоў календара», а калі б гэты дзённік і з’явіўся, то, бясспрэчна, не з такім шчодрым зместам.

[1] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 111 ap.
[2] Сентэнцыя (*польск.* sentencja) — прысуд.
[3] LCVA, f. 129, ap. 2, b. 2227, l. 114, 114 ap.

# РАЗДЗЕЛ 26

«Пясьняр вастрогу».

Словазлучэнне ўзята ў двукоссе не мной — такую атэстацыю паэт займеў ад свайго непрыяцеля Макара Краўцова (Касцевіча), які часам выступаў пад псеўданімам «Не-стары».

У сваім допісе-рэцэнзіі «З выдавецкай нівы»[1] «Не-стары» раскрытыкаваў Максіма Танка як творцу — ён, маўляў, не валодае ні граматыкай, ні беларускай мовай, ні рытмікай і сыпле сваёй «паэзіяй» як з мяшка.

Вядома ж, такое, мякка кажучы, недалікатнае выступленне зачапіла самалюбства маладога песняра, і ён тут жа адказаў «Не-старому» вершам «Крытык»[2], эпіграфам да якога ўзяў радкі з непрыхільнай рэцэнзіі «...дык здаецца, гэта ўжо ясна для кожнай вёскі...»:

Як толькі падняўся наш крытык з калыскі,
хадзіці на задніх ён лапках пачаў,
няблага вылізваў панскія міскі
і косьці індычак з стала абгрызаў.

Падросшы ён к людзям пачаў прыглядацца,
(ён сэрцам і носам круціў, як хвастом),
наўчыўся ён хутка кусаць, агрызацца,
хадзіці з маленькім пад кляпай значком.

Нираз яго гладзіла псярня па твары,
таму, што кусацца ўмеў найніжэй, —
блішчэў яго весяла нос самаварам,
і поўная міска ляжала касьцей.

Памрэ, — пахаваюць. Засыпаць паможам.
Усе вершаплёты прыйдзём грамадой,
і оду, як конскую скабу, паложым,
каб меў ён што грызьці і там, пад зямлёй.

М. Краўцоў, крытыкуючы, заставаўся ўсё-ткі ў межах этыкі — Максім жа Танк, як бачна, гэтыя межы пераступіў.

Паводле паэта ягоны крытык — сабачка, які перад панамі ходзіць на задніх лапках і мае то адзінкавыя «...косьці індычак...», а то нават і поўную міску касцей.

Гэты несамавіты вобраз «косці» — відавочны намёк на пашпартнае найменне М. Краўцова — Касцевіч!

А яшчэ, як бачна ў вершы, крытык носіць пад штрыфлем (кляпай) маленькі значок — то-бок з'яўляецца агентам дэфензівы!

Словам, адказ выйшаў непрыгожы, нават вельмі непрыгожы, бо шчыры патрыёт Беларусі М. Краўцоў не быў сакрэтным супрацоўнікам польскай палітычнай паліцыі!

Што й казаць, пакрыўджаны аўтар верша ў сваім нядобрым вузкапартыйным пафасе хапіў цераз край!

За падобнае, дарэчы, выклікаюць на дуэль, і М. Краўцоў мог бы накіраваць Максіму Танку і картэль, бо меў схільнасць да дуэлей.

Аднойчы ж клікаў на двубой самога Антона Луцкевіча!

«Грамадзяніну Антону Луцкевічу.

Мы ніжэй падпісаные упаважнены Грамадз.(янінам. — *Л. Д.-М.*) Макарам Косьцевічэм перадаць Вам яго вызаў на паядынак за зьнявагу, зробленаю яму Вамі учора увечары 25-III-22.

Дзеля гэтага просім Вас сёньня 26-III-22 а 7 гадз. увечары прыслаць сваіх секундантаў у Бел. Муз. Др. Гурток[3] (Біскупская 12) для перагавораў.

Палк.(оўнік) Канапацкі,

В. Більдзюкевіч.

26-III-22,

Вільня,

1 гадзіна папалудні»[4].

Такое вось трывожнае пасланне Антону Луцкевічу — творцу нашай нацыянальнай дзяржаўнасці, падпісанае беларускім вайскоўцам Гасанам Канапацкім і нейкім В. Більдзюкевічам[5].

Гэтыя людзі выступілі пасрэднікамі М. Краўцова.

Дык што здарылася «...учора увечары 25-III-22...»?

Заўважу, здарылася не ў будзень, а 25 сакавіка — на святкаванні чацвёртых угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі!

Гэта, канешне, тэма асобнага твора, таму, не паглыбляючыся ў яе, коратка скажу — тады, за святочным сталом, гарачы М. Краўцоў з намерам папракнуў А. Луцкевіча, што той у пачатку 1919 года на Парыжскую мірную канферэнцыю збіраўся ехаць з літоўскім пашпартам.

Як, маўляў, кіраўнік беларускай дэлегацыі (ён жа кіраўнік і беларускага ўрада!) мог пайсці на такое?!

М. Краўцоў знарок маленькую праўду прысыпаў вялікай няпраўдай, бо А. Луцкевіч, просячы літоўскі пашпарт, усё-ткі прыехаў у Парыж з іншым дакументам — не літоўскім.

Успыхнула спрэчка, падобная на сварку.

Баронячы сябе, А. Луцкевіч нагадаў М. Краўцову, як ён, М. Краўцоў, 25 сакавіка 1918 года ўсё яшчэ вагаўся: галасаваць за незалежнасць Беларусі ці не галасаваць...

Такая была прычына той дуэлі, якая, дзякаваць Богу, не адбылася, і не адбылася, мусіць, таму, што А. Луцкевіч пільнаваўся саслоўных правілаў (шляхціц не павінен прымаць выклік мужыка!), таму М. Краўцоў ягоных секундантаў так і не дачакаўся.

Не завяршылася паядынкам і сварка М. Краўцова з Максімам Танкам, аўтар публікацыі «З выдавецкай нівы» стрымаў сябе, што таксама добра.

Пэўна, «Не-стары» палічыў, што ён, чалавек з вайсковым вопытам, не павінен страляць у паэта, які не служыў у арміі.

Аднак вярнуся да публікацыі «З выдавецкай нівы»...

---

[1] Родны край. Вільня, 1936. № 4 (92), 11 крас. С. 2–3.

[2] Наша Воля. Вільня, 1936. № 7 (8), 2 траўня. С. 3. У Зб. тв. Максіма Танка гэты верш змешчаны без назвы, назва па першым радку «... Яшчэ не падняўся наш крытык з калыскі» (Т. 1: Вершы (1930–1939). Мн., 2006. С. 65).

[3] Маецца на ўвазе Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні.

[4] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 32, l. 67.

[5] У 1920-я гады на віленскім грунце быў вядомы кааператар і эканаміст Адам Більдзюкевіч.

## РАЗДЗЕЛ 27

Не толькі зласліва, але і з ноткаю спачування, «Не-стары» пісаў: «...шкада, што з вастрогу пачалося маладое жыццё Танка і яго вастрожнай псіхіцы нельга ніяк пазайздросьціць. Але чаго гэтым ізноў так рысавацца...»[1]

Крытык зрабіў закід паэту — маўляў, аўтару не варта ў сваіх вершах выхваляцца тым, што ён, аўтар, некалькі разоў трапляў за краты!

Я такіх закідаў рабіць не буду, аднак скажу: у маладосці Максім Танк выдумляў блюзнерскія балады, здекаваўся з Бога, на судах задзірліва адмаўляўся ад веры, заяўляў суддзям, што ён — «бэзвызнанёвец», але (якая іронія лёсу!) у старасці быў пахаваны пад крыжам — знакам хрысціянскай рэлігіі; праўдзівей — разам з жонкай спачывае ў нарачанскай зямлі пад двума высокімі крыжамі...

Паэт называў паэзію той краінай, якая непадкантрольная польскай паліцыі, аднак жа ці задумваўся: «А сталінскай паліцыі паэзія таксама непадкантрольная?!»...

20 лютага 1935 года з апеляцыйнага суда Максіма Танка не пад канвоем вывелі ў турэмную карэту, а ён сам без ніякае перашкоды выйшаў на вуліцу і да верасня 1939-га заставаўся на свабодзе...

...Калі так хочацца смяяцца,
Што бачыш ты і чуеш ты,
Як ціха сыплюцца праз пальцы
Каштанаў звонкія лісты.

У астрозе такія радкі не пішуцца!

Так, польскі грамадзянін Яўген Скурко выйшаў з суда, пазбаўлены грамадзянскіх правоў, — і няхай сабе, затое застаўся на волі і па-новаму сагрэўся разуменнем: якое гэта шчасце быць беларускім паэтам!

І якая гэта асалода, калі (ідучы па Вільні!), ты можаш пра сябе сказаць: «...натуральны, як лінія небасхілу...»!

*21 чэрвеня 2014 г., субота, 13 г. 21 хв., Менск;*
*12 жнíўня 2016 г., пятніца, 20 г. 36 хв., Менск;*
*21 верасня 2016 г., серада, 13 г. 27 хв., Менск;*
*15 кастрычніка 2016 г., субота, 17 г. 44 хв., Менск.*

---

[1] Родны край. Вільня, 1936. № 4 (92), 11 крас. С. 2–3.

# КНІГІ МАКСІМА ТАНКА З КНІГАЗБОРУ ЛЕАНІДА ДРАНЬКО-МАЙСЮКА

1. На этапах: вершы. Вільня, 1936. (Факсімільнае выданне — Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.) З аўтографам Максіма Танка: «Дарагой Валі Шчадрыной — на добры ўспамін аб нашых сяброўскіх маскоўскіх і мінскіх сустрэчах. Ад усяго сэрца. Максім Танк. 10/II 1984 г. Масква».

2. На этапах: вершы. Вільня, 1936. (Факсімільнае выданне — Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.) З аўтографам Максіма Танка: «Майму рэдактару Дранько-Майсюку — з удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі. Максім Танк. 14/II 1984 г. Мінск».

3. Нарач. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1947.

4. Лісткі календара. Мінск: Беларусь, 1970.

5. Дарога, закалыханая жытам: вершы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1976.

6. Прайсці праз вернасць: вершы і паэма. Мінск: Мастацкая літаратура, 1979.

7. Лірыка: Бібліятэка беларускай паэзіі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1982.

8. За маім сталом: вершы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. З аўтографам Максіма Танка: «Дарагому Леаніду Васільевічу Дранько-Майсюку — на добры ўспамін аб нашых сяброўскіх і творчых сустрэчах. Ад усяго сэрца. Максім Танк. Мінск, 4.XII.1992 г.»

9. Збор калосся: вершы (1983–1988). Мінск: Мастацкая літаратура, 1989. З аўтографам Максіма Танка: «Леаніду Васільевічу Дранько-Майсюку — з найлепшымі навагоднімі пажаданнямі. З любоўю Максім Танк. Мінск, снежань, 1992 г.»

10. Зб. тв.: у 13 т. Мінск: Беларуская навука, 2006–2012.

# ЗМЕСТ

**Дранько-Майсюк, Л.**
Д72 «...Натуральны, як лінія небасхілу» : архіўная аповесць пра Максіма Танка / Леанід Дранько-Майсюк. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 148 с., XXIV с. іл. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 97).
ISBN 978-985-7180-39-4.

Паэт Леанід Дранько-Майсюк выступіў у дакументальным жанры, напісаў архіўную аповесць «...Натуральны, як лінія небасхілу».

Гэта твор пра беларускага песняра Максіма Танка (1912–1995), пра той час (першая палова 1930-х гадоў), калі малады Максім Танк жыў у Вільні, супрацоўнічаў з падпольнымі структурамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, калі за ім на́вадам хадзілі агенты дэфензівы і ягонае пашпартнае імя (Яўген Скурко) вельмі часта з'яўлялася ў паліцэйскіх рапартах і пратаколах допыту, у пракурорскіх абвінаваўчых актах і судовых пастановах.

Аповесць «...Натуральны, як лінія небасхілу» – вынік шматгадовай працы ў віленскіх і мінскіх архівах.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

На вокладцы змешчаны партрэт Леаніда Дранько-Майсюка работы Джона Кунстадтэра (для budzma.org).

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»
Выпуск 97

**Дранько-Майсюк** Леанід

**«...Натуральны, як лінія небасхілу»**
*Архіўная аповесць пра Максіма Танка*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактары Б. Пятровіч, А. Пашкевіч
Мастацкае афармленне Э. Сапожнікавай
Вёрстка А. Івашчанкі, Л. Гарадзецкай
Карэктура А. Спрытніч

Падпісана да друку 23.08.2017. Фармат 84×108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 7,77 + 1,26 укл.
Ул.-выд. арк. 5,34. Наклад 500 ас. Зак. 356.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.